

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

14 МАЯ 1999г. № 19/3999 КОШТ 15 000 РУБ.





*Вада, нібы расплаўленае неба,*
*Плюскочацца ў зялёных берагах,*
*І рыбы ў ёй,*
*жывыя зліткі срэбра,*
*Плывуць, нібыта ў небе —*
*Млечны Шлях.*
*І, быццам на краі сусвету, ты*
*Стаіш на беразе каля вады.*



## КОЛА ДЗЁН

***Дзіўныя мы ўсё ж людзі, беларусы! І самі мы, і нашы бліжэйшыя і далейшыя суседзі не дацямяць, як мы яшчэ наогул жывём. У самаадрачэнні ад усяго свайго мы пакінулі ззаду ўсіх. Скажам, шатландцы хоць праз трыста гадоў спахапіліся ды вяртаюць сабе незалежнасць і мову, а нам і трохсот гадоў не хапіла. Не дапамагло і тое, што каторы год жывём у суверэннай беларускай дзяржаве. Наадварот: нацыянальных парадоксаў стала ці не болей. Вось у Дзень Перамогі праходзіць у Брэсце фестываль беларускай патрыятычнай песні, транслюецца па тэлебачанні на ўсю краіну. І што? З дваццаці пяці песень, якія прагучалі з экрана, толькі дзве былі беларускія. Зрэшты, калі ўжо быць дакладным, прагучаў адзін куплет і з трэцяй беларускай песні...***

***Такіх прыкладаў — мноства, на кожным кроку. Калі гэтак будзе ісці і далей, дык нават і такімі парадоксамі мы перастанем здзіўляць свет...***

### УЗЛЁТ ТЫДНЯ

Намінацыя гэтая — ці не самая частая ў нашым лімаўскім кругабегу дзён. Маецца на ўвазе ўзлёт (падвышка) цэн і тарыфаў. Ніякавата пра гэта і гаварыць, ды — даводзіцца: людзям жа баліць! Дык вось. З панядзелка, 10 мая, падаражэлі тэлефонныя паслугі. Цяпер хвіліна размовы каштуе 225 рублёў, а 120-хвілінная электронная картка — 150 тысяч. Пенсіянерам ды іншых бедных людцаў можна супакоіць хіба толькі тым, што пакуль што не павялічылася абаненцкая плата...

### КУРС ТЫДНЯ

І гэтая намінацыя таксама ўжо прымільгалася, аднак жа ігнараваць яе аніяк нельга. Маецца на ўвазе курс долара ў адносінах да нашага рубля. Афіцыйны курс Нацыянальнага банка — 247 тысяч рублёў (на аўторак, 11 мая). Абменныя пункты банкаў купляюць долар па 295—300 тысяч рублёў. На "чорным рынку" і на рынках Мінска "зялёны" цягне на 435—440 тысяч рублёў. Безнаяўны сягае пад 600 тысяч. Разбежкі між гэтымі лічбамі наводзяць на сумны роздум. Нават і вожыку відавочна, што ненармальна гэта, што эканоміка наша цяжка хворая і што для таго, каб ачуняла яна, патрэбны іншыя лекі і іншыя метады. Дзе вы, хірургі?!

### ЗАГАЛОЎКІ ТЫДНЯ

"Отечественное комбайностроение: от мечты — к реальности", "Все силы и средства — на "зеленую жатву"!", "Льноводы время не теряют", "Итоги ударного труда", "Хвала рукам, што пахнуць хлебам", "Великая победа великого народа!", "Каждому полю — образцовый уход", "Урожайные гребни"... Гэта — загалоўкі сённяшніх газетных палос. Не, усё ж нездарма, пэўна, Беларусь называюць "маленькім Савецкім Саюзам". Вось і газетныя загалоўкі сведчаць, што ў нас мала што змянілася...

### АДСТАВАННЕ ТЫДНЯ

Галоўны анколаг сталіцы В. Рабека паведаміў на прэс-канферэнцыі сумныя лічбы: мінчукі ўсё больш хварэюць на рак. Калі дзесяць гадоў назад у Мінску захварэла на рак 3707 чалавек, дык летась — ужо 5426. Найчасцей сустракаецца рак малочных залоз і скуры, а па колькасці выпадкаў раку шчытападобнай залозы Мінск займае другое месца ў краіне пасля Гомельскай вобласці. Рак — хвароба страшная, аднак і яна паддаецца лячэнню, асабліва ў пачатковых формах. На жаль, нашы людзі адносяцца да свайго здароўя вельмі і вельмі непаважліва і звяртаюцца да ўрачоў занадта позна. А яшчэ горш тое, што па развіцці матэрыяльна-тэхнічнай базы анкалагічнай службы наша краіна адстае ад еўрапейскіх краін на 30—50 гадоў. У тым жа Мінску новы корпус анкадыспансера так і не дабудаваны, колькасць ложкаў для анкахворых складае ўсяго каля 60 працэнтаў ад рэальнай іх патрэбы. Вось і паміраем. Не без дапамогі Чарнобыля — радыяцыйнага і духоўнага...

### АДКЛАД ТЫДНЯ

У мінулы панядзелак (з паўторам у аўторак раніцай) БТ паказала інтэрв'ю памочніка прэзідэнта РБ М. Сазонава. З інтэрв'ю вынікае, што аб'яднанне Расіі і Беларусі ў адну саюзную дзяржаву пераносіцца, прынамсі, на наступны год. Масква, маўляў, на такі крок не гатова, ёй не падабаюцца захады Мінска наконт стварэння саюзных органаў улады. Што ж, адклад, кажуць, не ідзе на лад. Аднак, можа быць, гэта не той выпадак. Гэта якраз, магчыма, той выпадак, калі трэба сем разоў адмераць, перш чым адрэзаць...

### ПОШУКІ ТЫДНЯ

Сёмы дзень міліцыя і грамадзянская камісія, створаная Каардынацыйнай радай дэмакратычных сіл, шукаюць экс-міністра ўнутраных спраў генерала Юрыя Захаранку. Знік ён увечары мінулай пятніцы па дарозе дадому. Версіі адносна гэтага выказваюцца розныя...

### ЗАЯВА ТЫДНЯ

Міністэрства юстыцыі выступіла з заявай, у якой вынесла папярэджанні 13 палітычным партыям і грамадскім аб'яднанням, а менавіта Беларускаму хельсінкскаму камітэту, партыі БНФ, беларускай сялянскай партыі, БСДГ, АГП, сацыял-дэмакратычнай "Народнай грамадзе", ТБМ і ТБШ, фонду Л. Сапегі, жаночаму руху "Адраджэнне Айчыны", Беларускай нацыянальнай партыі, Свабоднаму прафсаюзу Беларусі, Усебеларускаму клубу выбаршчыкаў. Усіх іх папярэдзілі за ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні "выбараў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь", прызначаных апазіцыяй на 16 мая. Папярэджанне само па сабе — акт не самы сур'ёзны, але справа ў тым, што яно можа быць падставай для таго, што названыя партыі і аб'яднанні могуць не прайсці перарэгістрацыю. Вось тады ўжо вынікі будуць куды больш сур'ёзныя...

### ПАДРАХУНКІ ТЫДНЯ

Дзяржаўная статыстыка паведаміла, што ў мінулым годзе кожны дарослы чалавек (пачынаючы з 18 гадоў) у нашай краіне выпіў (спажыў) 75 бутэлек гарэлкі і 60 — віна (пераважна так званага "чарніла"). І гэта — без уліку самагонкі! Міжволі ўсклікнеш услед за паэтам: "Так вот где таилась погибель моя!" Ды каб жа — "мая"! Наша пагібель! Усенародная! Усенацыянальная! Калі мы зразумеем, што гэта — страшней за Чарнобыль, за ўсе іншыя нашы беды і напасці? Калі ж?!

# Дзень Перамогі — гэта святое







Дзень Перамогі — адно з нямногіх дзяржаўных святаў, якія ў савецкі час былі сапраўды народнымі. Дзень Перамогі — гэта святое. Гэта ўсведамленне, што мы (у сэнсе — народ) здзейснілі нешта такое, што дае нам права нават пры нашым жабрацкім жыцці лічыць сябе народам вялікім, а былую краіну нашу СССР — звышдзяржавай.

Апошні раз Дзевятага мая буйнамаштабна адзначалася ў некаторых краінах постсавецкай прасторы чатыры гады назад. Вялікі парад адбыўся тады ў Маскве, меншы (тры тысячы войска, чатырыста адзінак тэхнікі) у Мінску. Гэта таксама традыцыя святкавання — вайсковыя парады па "круглых датах". Сёлета дата не "круглая", аднак у Маскве парад адбыўся. Парад, калі можна так сказаць, "танны", "сціплы": на Краснай плошчы прайшлі ўрачыстым маршам войскі — дэманстрацыі баявой тэхнікі не было. Склалася ўражанне, што рашэнне нагадаць рускім аб вялікай перамозе праз урачыстасці на Краснай плошчы было прынята за некалькі дзён да свята, і на падрыхтоўку чагосьці грандыёзнага не было часу. На карысць гэтай думкі сведчыць і тое, што парада не было ў Мінску. Калі б аб парадзе было вядома загадзя, мінскае кіраўніцтва, дэманструючы еднасць з Масквой, безумоўна, наладзіла б такую ж імпрэзу і ў беларускай сталіцы.

Няйначай, згадкі пра май 1945 года для рускіх свайго роду псіхалагічная кампенсацыя за сённяшні стан краіны, за яе невысокі міжнародны аўтарытэт — што асабліва адчувальна ў сувязі з падзеямі на Балканах.

Так, святкаванне чарговай гадавіны Перамогі было афарбавана ў настальгію па звышдзяржаве, але сёння ў Расіі ёсць і іншая думка на Другуюсусветную вайну. Гэтымі днямі па канале "РТР" дэманстраваўся дакументальны серыял "Расія ў вайне. Кроў на снезе", у якім была дадзена аб'ектыўная характарыстыка Сталіна як падпальшчыка (нароўні з Гітлерам) сусветнага пажару. Адкрыта гаварылася, што перамогі дамагліся не вялікім розумам, але вялікай крывёю. І яшчэ пра тое, што ў выніку перамогі культ асобы Сталіна дасягнуў свайго апагею. Што, як ні дзіўна гэта гучыць, савецкі салдат, змагаючыся з фашызмам, вызваляючы Еўропу ад гітлерызму, умацоўваў, сталінскую дыктатуру. Такая вось дыялектыка...

А галоўная думка фільма: перамога над фашызмам падрыхтавала глебу для перамогі над камунізмам у сусветна-гістарычным маштабе. Мы часта справядліва адзначаем, што сённяшнім рускім уласцівы хваравіты постімперскі сіндром і некрытычнае стаўленне да сваёй гісторыі. Фільм "Расія ў вайне. Кроў на снезе" сведчыць пра наяўнасць у расійскім грамадстве людзей са здаровым сэнсам.

**П. В.**

# У "Ісланы" — святочны збор ветэранаў

Дом Творчасці "Іслач" пад сваімі шатамі сабраў 9 мая пісьменнікаў-удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. На салдацкую кашу (з сапраўднай палявой кухні!) і, зразумела, традыцыйныя ў Дзень Перамогі сто "франтавых" грамаў сабраліся разам з кіраўніцтвам Саюза пісьменнікаў краіны, Беларуская Літфонду паэты і празаікі, крытыкі і публіцысты, за плячыма ў якіх — вогненныя сцежкі-дарожкі.

Франтавікоў і партызан віталі Уладзімір Някляеў, Навум Гальпяровіч, Уладзіслаў Мачульскі, Яўген Каршукоў, Анатоль Сульянаў, галоўны рэдактар газеты "Во славу Родины" палкоўнік Рыгор Сакалоўскі, прадстаўнікі Узброеных Сіл і пагранічных войск краіны.

**Сяргей ПАЎЛАЎ**

# Пасяджэнне рады СБП

29 красавіка 1999 года ў Доме літаратара адбылося чарговае пасяджэнне рады Саюза беларускіх пісьменнікаў.

Сакратары абласных аддзяленняў СБП — Данута Бічэль-Загнетава, Алесь Касько, Павел Ткачоў зрабілі справаздачу аб рабоце з творчай моладдзю. Работа абласных аддзяленняў была ацэнена як здавальняючая. Адпаведна рада СБП зацвердзіла вышэйназваных сакратароў на іх пасадах. Таксама ад Віцебскага абласнога аддзялення зрабіў даклад на гэтую тэму намеснік сакратара Барыс Беляжэнка.

Згодна з вынікамі тайнага галасавання былі вылучаны на атрыманне ганаровых званняў: заслужанага дзеяча культуры РБ — Аляксей Гардзіцкі; заслужанага дзеяча мастацтваў РБ — Артур Вольскі; лаўрэатам Літаратурнай прэміі імя І. Мележа, як паведамляў ужо "ЛіМ", стаў Уладзімір Паўлаў за аповесць "Пад схіленым дрэвам".

Рада СБП прыняла ў Саюз беларускіх пісьменнікаў паэта Анатоля Станкевіча.

Сярод іншых таксама на пасяджэнні рады разглядалася пытанне аб часопісе "Крыніца".

**А. К.**




# Паядынак з часам

У Музеі сучаснага мастацтва Беларусі адкрылася выстава "Блізка і далёка" двух вядомых польскіх фотамайстроў Войцэха Пражмоўскага і Марыуша Хэрмановіча. Яна стала першым вынікам плённага супрацоўніцтва Цэнтра сучаснага мастацтва Замка Уяздоўскага ў Варшаве і Польскага інстытута на Беларусі, а таксама непасрэдных асабістых сувязяў куратара выставы з польскага боку Марэка Грыгеля з мінскай галерэяй "Нова" і яе кіраўніком, фотамайстрам Уладзімірам Парфянком.

На Беларусі польскія фотамайстры выстаўляюцца досыць часта, і гэта з аднаго боку вельмі ўсцешна. Мы маем магчымасць пазнаёміца з рознымі тэндэнцыямі, якія існуюць у сучасным фотамастацтве суседняй краіны. Але, на жаль, з творчасцю беларускіх фотамастакоў мы знаёмімся, здаецца, ці не радзей, а сярод іх ёсць сапраўдныя прафесіяналы, вельмі вядомыя за мяжою. Напрыклад, Ігар Саўчанка, выставу якога Марэк Грыгель збіраецца наладзіць у першай палове гэтага года ў Польшчы, ды шмат хто яшчэ. На іх выставы ў Беларусі збіраецца збольшага зацікаўленае кола сяброў і спецыялістаў.

Выстава польскай фатаграфіі "Блізка і далёка" унікальная менавіта сваёй канцэптуальнасцю. Цікава, што абодва фотамастакі пэўным чынам звязаны з Беларуссю. Бацькі Войцэха Пражмоўскага яшчэ да другой сусветнай вайны пазнаёміліся на возеры Нарач (бацька быў з-пад Кракава, а маці з Вільні). Нездарма за дзень да адкрыцця выставы ў Мінску Войцэх Пражмоўскі і Марэк Грыгель зрабілі маленькую вандроўку ў нарачанскія мясціны, а вынікам яе стала інсталяцыя "Возера Нарач". Марыуш Хэрмановіч з'яўляецца непасрэдным нашчадкам Ігнацыя Дамейкі. Таму летась ён адведваў тут мясціны, дзе жылі яго продкі. З вандроўкі паўстаў яго новы цыкл "Задарожжа" (прадстаўлены на выставе). М. Хэрмановіч адшукваў дакументы XVIII ст., у якіх зафіксаваны падзеі жыцця ягоных продкаў, спрабуючы ў выніку сутыкнуць у форме пэўнай рэфлексіі гэтыя сведчанні з тапаграфіяй сучаснасці. Гэта, акрамя чыста мастацкай вартасці, цікава нават проста як гістарычныя дакументы, малавядомыя і беларускаму гледачу. Праўда, роднае мястэчка Задарожжа Марыушу так не ўдалося пабачыць — таямніца сустрэчы з радзімай засталася.

Войцэх Пражмоўскі жыве ў Польшчы ў Чэнстахове, актыўна выстаўляецца на радзіме і за яе межамі (персанальна прэзентаваўся ў Японіі, Даніі, Шатландыі, ЗША). Марыуш Хэрмановіч родам з Лодзі, але зараз стала жыве ў Францыі. У Польшчы многа выстаўляецца, аўтар малюнкаў, якія друкуюцца на старонках польскіх і замежных перыядычных выданняў. Гэта не першы сумесны праект іх творчасці. Куратар выставы Марэк Грыгель бачыць сапраўдную еднасць фотамастакоў у адчуванні і адлюстраванні жыцця. Абодвух мастакоў цікавіць мінулае — блізкае і далёкае, але ўспрымаюць яны яго па-рознаму.

Экспазіцыя выставы пабудавана надзвычай акуратна і пісьменна, да адкрыцця яе быў выдадзены каталог, які сваёй будовай адпавядае канцэпцыі экспазіцыі (здымкі праступаюць скрозь тэксты, здрукаваныя на танчэзнай паперы). На адкрыцці мелі слова дырэктар Музея сучаснага мастацтва, народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч, Надзвычайны і паўнамоцны пасол Рэспублікі Польшча Марыуш Машкевіч, намеснік міністра культуры РБ Валеры Гедройц, дырэктар Польскага інстытута Тамаш Нягодзіч, куратар выставы Марэк Грыгель і мастак Войцэх Пражмоўскі. Выстава афіцыйна не прысвячалася, але адкрылася да Дня канстытуцыі Польшчы, напярэдадні святкавання 180-годдзя Станіслава Манюшкі.

**Н. Ш.**





## "Ляписы" — гэта крута

**"Ляпис-Трубецкой" — самы папулярны беларускі гурт. Кожнаму, хто мае сумненні ў слушнасці гэтага сцвярджэння можна параіць аднойчы наведаць канцэрт Сяргея Міхалка і К°.**

**Мерапрыемства, якое праходзіла днямі, было не проста прэзентацыяй новай праграмы "Красота", а сапраўдным музычным святам сталічнай моладзі. Цяжка ўзгадаць, калі ў мясцовых музыкаў атрымлівалася сабраць пад адным дахам такую колькасць прыхільнікаў. Звычайна беларусы граюць для спецыфічнай публікі ў клубах ці ўдзельнічаюць у зборных канцэртах на свежым паветры. Днямі ўсё было інакш. Не проста аншлаг, а сапраўдны вар'яцкі дом! Слухачы станавіліся на крэслы, лезлі адзін аднаму на плечы, каталіся па падлозе і... Усе разам раўлі (менавіта раўлі, а не спявалі) ляпісаўскія хіты. Вельмі ўдала была выбрана "разагрэвачная каманда". (Дарэчы, станоўчы паказчык — ужо не нашыя музыканты "заводзяць" публіку, а прыязджаюць па запрашэнні іншыя.) Гарачыя эстонскія хлопцы з гурта "Ляпрыконсы" адыгралі некалькі вясёлых рэчаў, пасля чаго слухачы і развіталіся з рэшткамі сарамлівасці. С. Міхалок мог асабліва не вылузвацца, усё і так прайшло б "на ўра". Аднак "Ляписы" стараліся і гаварылі з выразным "дзеравенским" акцэнтам, таньчылі на сцэне, спрабавалі наладзіць нейкае падабенства лазернага шоу.**

**Апроч таго, хочацца сказаць "дзякуй" хлопцам за тое, што спявалі ў асноўным новыя, невядомыя песні. У іншым выпадку цяжка ўявіць, якія разбурэнні давялося б пабачыць. І яшчэ. Канцэртная зала "Мінск" відавочна не прадугледжана для падобных "шабашаў", а таму лепей у будучым думаць пра арэнду іншых памяшканняў. Увогуле ж, пераканаўся ў чарговы раз — "Ляписы" — гэта крута!**

**Вадзім ДОЎНАР**

## "Мы не апошнія на зямлі"

**Пад такой назвай у Гомельскай гарадской цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэме праходзіць дэкада экалагічнай культуры, якая павінна прыцягнуць увагу грамадскасці да праблем забруджвання навакольнага асяроддзя і неспрыяльных экалагічных умоў. Зараз у бібліятэках, навучальных установах, на адкрытых пляцоўках для жыхароў горада праводзяцца пленэры, чытанні, калёквіумы, інфармацыйныя гадзіны, аўкцыёны.. Жадаючыя могуць прыняць удзел у свяце кветак, а таксама ў экалагічным марафоне пад агульнай назвай "Хто, калі не я?!"**

**Гомель займае шостае месца ў рэспубліцы сярод вытворчых цэнтраў па забруджванні атмасферы шкоднымі рэчывамі. Таму бібліятэкі распаўсюджваюць спісы вытворчых прадпрыемстваў, асобныя тэхналагічныя працэсы якіх наносяць непапраўную шкоду гамяльчанам. Сярод такіх прадпрыемстваў — дрэваапрацоўчы камбінат вытворчага аб'яднання "Гомельдрэў", ЦЭЦ-2, завод "Гомсельмаш", хімічны завод.**

**У рамках дэкады праводзяцца таксама гарадскі конкурс-агляд на лепшую кніжную выставу "Прырода і мараль", конкурс на лепшы праект выратавання зямлі ад экалагічнай катастрофы. Аддзел аховы навакольнага асяроддзя гарвыканкама ўзнагародзіць пераможцаў каштоўнымі падарункамі.**

**Алег АНАНЬЕЎ**

*г. Гомель*

## "Кантакты і дыялогі", N 2—3

**Адкрываецца здвоены нумар бюлетэня раздзелам "Беларусь вачыма зарубежных вучоных", у якім змешчаны артыкулы В. Пуцко (Калуга) "Праблемы сярэдневяковай мастацкай спадчыны Беларусі", А. Баркоўскага (Якуцк) "Пра месца нараджэння Алеся Гаруна і род Прушынскіх". Змешчаны таксама артыкулы У. Свяжынскага "Балты і балцкія гаворкі ў старажытнай Беларусі", Л. Кулажанкі "З гісторыі школьніцтва ў памежных краінах". Прапануюцца чарговыя старонкі даведніка "Беларускае замежжа": расказваецца пра Беларуска-эстонскае згуртаванне "БЭЗ", С. Зялёнку, Ю. Марголіна, Н. Савінаву, М. Хмялеўскага. А. Мальдзіс прамаўляе слова ў сувязі са смерцю выдатнага польскага гісторыка А. Гейштара. Прадстаўлены рубрыкі "Беларускае таварыства ў дзеянні", "Рэцэнзуем кнігі", "З рэдакцыйнай пошты", "Хроніка беларусазнаўчага жыцця". І, як заўсёды, надзіва багаты на бібліяграфічныя звесткі "Меркаванні пра кантакты ў Беларусі і ў свеце".**

# Рычард Смольскі: "Мы падымемся толькі разам з дзяржавай"

***Жыццё такой нешараговай установы, як Беларуская акадэмія мастацтваў, заўжды прыцягвае да сябе ўвагу. Плынь, рух, дзейнасць, нарэшце, вышыню ды глыбіню гэтага жыцця шмат у чым вызначае кіраўнік акадэміі, у дадзеным выпадку прафесар, доктар мастацтвазнаўства Рычард СМОЛЬСКІ, які прыняў рэктарскую пасаду паўтара года таму.***

— Асабліва за гэты час зварухнуўся наш тэатральны факультэт, — каменціруе Рычард Баляслававіч. — Цяпер ён напоўніцу бярэ ўдзел у тэатральным жыцці Беларусі. Але было — жыў сваім замкнёным студэнцка-выкладчыцкім колам, што адбівалася і на вобразе акадэміі, і на грамадскай думцы пра яе і, наогул, на ўсёй нашай культуры. А цяпер не стрываю, пахвалюся: летась наш трэці курс (акцёры) пад настаўніцтвам прафесара А.Шагідзевіч удала выступіў на Кіпры, паказаўшы беларускую тэатральную школу, а чацвёрты курс пад кіраўніцтвам Л. Манаковай (акцёры і рэжысёры) са спектаклем "Туці-фруці" — на Х Міжнародным фестывалі эксперыментальных тэатраў у Каіры. Я сам зрабіўся сведкам таго, як хораша эмацыйныя арабскія гледачы прымалі наш сцэнічны кактэйль. Летась адбыўся фестываль творчай моладзі ў Гродне, дзе ўсе галоўныя прызы сабралі нашы студэнты або нашы былыя студэнты! Міжнародны тэатральны фестываль ў Сібіў (Румынія) неўзабаве прычакае памянёны "Туці-фруці", а студэнтка рэжысуры Ірына Кіручэнка маем месяцам выправіцца ў Берлін — выйграла грант з правам наведаць буйнейшы тэатральны фестываль. Паведамлю, што за год мы падрыхтавалі і выдалі ў свет альманах "Нататкі Беларускай акадэміі мастацтваў", — ён зробіцца нашым штогадовікам з тэарэтычнымі, праблемнымі, метадычнымі артыкуламі, з хронікай і абавязковымі студэнцкімі допісамі, так бы мовіць, часопісам у часопісе. Для выкладчыкаў ды аспірантаў з'явілася адметная магчымасць друкавацца!

Актыўны ўдзел у міжнародным студэнцкім (чытайце — прафесійным) жыцці бярэ і мастацкі факультэт. Летась арганізавалі практыку нашых студэнтаў у Пскове (Расія). Яны малявалі, вывучалі тамтэйшыя бажніцы і храмы. Гурт студэнтаў браў удзел у польскім пленэры. Польскія спецыялісты далі высокія ацэнкі нашым гадаванцам.

У Міжнародных выставах у Германіі, Італіі бралі чынны ўдзел і нашы выкладчыкі. Да знакамітага Пражскага квадрыенале цяпер рыхтуецца адзін з класікаў нацыянальнай сцэнаграфіі Барыс Герлаван, дарэчы, разам са сваімі вучнямі ён прадставіць беларускую сцэнаграфічную школу. У Прагу паедуць і работы мастакоў-лялечнікаў пад кіраўніцтвам Аліны Фаміной.

Паедуць... Так і ўяўляюцца напакаваныя валізы ды куфры, дзе гэтыя самыя работы месяцца ды едуць... Цесна ім. Цесна... нам. Цесна тэатральнаму факультэту ў родных сценах, але сцэна ёсць, сякі-такі сцэнічны рыштунак ёсць, хоць і не дужа зайздросны. А што да мастакоўскіх, асабліва да дызайнерскіх прафесій, якія не ўявіць без пэўнай прасторы, якой проста вымагае прафесія... У майстэрні, дзе мусіць быць па два-тры студэнты, займаецца сем-восем чалавек. Іх прафесійны ўзровень немагчыма ўтрымаць без валодання камп'ютэрам, — мы набываем камп'ютэры за свае мізэрныя сродкі... На тыя самыя сродкі трэба купляць і фарбы, і пэндзлі, і варштаты...

Ніяк не ўдаецца адкрыць факультэт экранных відаў мастацтва (т. зв. кінафакультэт), каб рыхтаваць прафесійна здатныя кадры для тэлебачання і кіно. Дарэчы, адкрыцця гэтага факультэта больш за ўсіх напалохаліся на факультэце журналістыкі БДУ, маўляў, канкурэнты з'яўляюцца! Але ж БДУ рыхтуе журналістаў, а не рэжысёраў, не аператараў, не сцэнарыстаў, не вядучых (апошнія сёння на БТ — спрэс нашы гадаванцы). Мы ж бачым, як вымагае тэлебачанне прафесійнай акцёрскай падрыхтоўкі! Адкрываць факультэт экранных відаў мастацтва трэба яшчэ і таму, што не бракуе выкладчыцкіх кадраў з адметнай ВГІКаўскай школай, — а менавіта на яе абапіраўся Віктар Тураў, пачынаючы вучыць у Беларусі кінапрафесіям. Не скарыстаем час, страцім людзей, — ізноў давядзецца пачынаць з нуля.

Цесна нам, цесна. Бракуе месца і ў інтэрнатах. Сам я вучыўся яшчэ за савецкім часам, наймаў пакойчык, — цяпер такія ўмовы не па кішэні студэнтам. Не даць іншагародняму месца ў інтэрнаце, — значыць, выкрасліць яго са спіса студэнтаў. Адразу. У пакоях замест двух-трох жывуць упяцёх або ўшасцёх; перанаселенасць адмоўна ўплывае і на здароўе, і на творчы настрой, і на вынікі навучання.

Пяць гадоў няма за што адчыніць сталоўку, — харчаванне, улічваючы мізэрную стыпендыю, справа калі не першая ў жыцці студэнта, дык, прынамсі, найважная.

Мы добра разумеем: маем толькі тое, што дае нам дзяржава як бюджэтнікам. Між тым сістэма платнага навучання ў нас ужо існуе, заяўкі ад замежных грамадзян маем, — асабліва яны хочуць займацца па мастацкіх спецыяльнасцях, бо наша школа грунтоўная, а вучыцца куды танней як у Еўропе. Такі навучэнец гатовы плаціць па дзве-тры тысячы даляраў за навучанне, асобна — за інтэрнат, але стварыць адпаведныя аплаце ўмовы мы пакуль не ў стане... А вучыць сваіх за такія грошы?! Складана і цяжка. Поўны кошт мы браць не зможам. Няшмат хто з існа таленавітых зможа заплаціць нават чацвёртую частку гэтай сумы. А таму самому жывапісцу трэба даць і фарбы (кошт аднаго тубіка — шэсцьсот—васемсот тысяч рублёў), і матэрыялы... Дзякаваць Богу, дзяржава яшчэ выдаткуе на нас сродкі. Невялікія, сціплыя, недастатковыя, але, разумеючы нашу перспектыву і перспектыўнасць — выдаткуе! Я веру, што як толькі дзяржава падымецца эканамічна, падымемся і мы. Толькі разам з ёю.

**Рычарда СМОЛЬСКАГА**
**распытвала і натавала**
**Жана ЛАШКЕВІЧ**




# У пошуку "чыстых лістоў"

***"Тэатр-лабараторыя "Вольная сцэна" аб'яўляе конкурсны набор юнакоў і дзяўчат ва ўзросце ад 17 да 24 гадоў у дапаможны акцёрскі склад". Пpraмінуць такую аб'яву я не змагла. Хто зараз жадае стаць акцёрам? Чым не задавальняюць рэжысёра Мазынскага навучэнцы Беларускай акадэміі мастацтваў? Як пераадолець сябе і зрабіць перад усімі першы крок да прафесійнай сцэны?***

Фае "Вольнай сцэны". Мяккія дываны, утульныя крэслы ды пацешныя гліняныя экспанаты мастацкай выставы "Фрагменты"... Але ўсё гэта не ў стане зняць напружаную атмасферу конкурсу. Сёння — каталіцкі Вялікдзень, свята, адпачываць трэба, а яны прыйшлі ў тэатр. Гэта для іх важней. Іх, удзельнікаў прагляду, набралася чалавека 30; як і трэба было чакаць, большасць — дзяўчаты. Яны чакаюць сваёй чаргі, ліхаманкава гартаючы падручнікі з вершамі, уважліва сочаць за выступленнямі сваіх канкурэнтаў, услухваюцца ў рэплікі і парады імправізаванай "прыёмнай камісіі" на чале з самім Валерыем Мазынскім.

Для пераважнай большасці — гэта першы ў жыцці конкурсны адбор, у некаторых нават школьныя выпускныя экзамены — і тыя яшчэ наперадзе. Вядома, былі сярод іх і "прафесіяналы", выхаванцы мастацкай вучэльні, удзельнікі самадзейных гурткоў, студэнты (былы бамавец і выпускнік універсітэта культуры). У гэтых адразу адчувалася большая разняволенасць, упэўненасць у сваіх сілах. Сябрам па вучэльні ў кампаніі было відавочна весялей, чым астатнім. Можна нават было задумліва спытаць у "калегі", гледзячы на "пакуты" чарговага прэтэндэнта: "Няўжо і мы былі такімі, калі паступалі?" І ў адказ пачуць абуранае: "Ды што ты! Мы былі лепшыя!"

Мяне здзівіла, з якой апантанасцю хочуць "выбіцца ў артысты" тыя, хто вучыцца і ўжо амаль атрымаў адукацыю ў прэстыжных ВУЗах: без пяці хвілін таваразнаўцы, міжнароднікі, камп'ютэршчыкі, лінгвісты... "Ну нашто вам кідаць усё і ісці — куды? — у тэатр! — здзіўляецца Мазынскі. — Навошта вам гэта: 3 мільёны зарплаты, вады гарачай няма, грымёрак не хапае?" Але здзіўленне гэтае — няшчырае. Хай сам паспрабуе растлумачыць, чаму, з вясковай школы марыўшы стаць акцёрам, ён скончыў архітэктурна-будаўнічы тэхнікум, адслужыў у арміі, паступіў, нарэшце, на рэжысёрскі (не акцёрскі, зноў жа!) факультэт. Адгаворваць ад тэатра прымушае занадта вялікая адказнасць: рэжысёр па-бацькоўску шчыра непакоіцца пра іх, зараз такіх няўрымслівых і апантаных, будучыню. Навошта ж ламаць чалавеку лёс, калі нельга даць гарантыю, што нават тыя, хто трапіць у трупу, стануць сапраўднымі акцёрамі, што знойдзенае зараз у іх "зярнятка" таленту не зачэзне, прарасце?

Але ж прывід тэатра вабіць, як магніт, адрачыся ад яго складана. Чаго толькі не давялося пачуць у адказ на пытанне аб тым, што кожнага прывяло сюды: хтосьці нарадзіўся ў Дзень тэатра (нічога не скажаш, грунтоўны матыў!), хтосьці жыве праз дарогу — будзе зручна хадзіць на працу (гэтая шчырая і вясёлая заява была сустрэта агульным смехам і шэптам "Малайчына! За словам у кішэню не лезе!"). Адна дзяўчына, якая зачаравала ўсіх, аказалася пачынаючай журналісткай і прызналася, што прыйшла проста пацікавіцца: "Калі возьмуць — добра, калі не — напішу заметку". Другая ўвогуле меркавала толькі падтрымаць сяброў; далей ужо можна здагадацца, што менавіта яна і прайшла іспыт. Але большасць адказвала папросту: "Хачу!"

Ну а калі хочаш — падпарадкоўвайся рэжысёрскім загадам. Адыходзь у другі канец фае і кліч адтуль з усяе моцы нейкую Ганну, якая "там, ажно за Свіслаччу, і павінна абавязкова цябе пачуць". Збяры ў пучок валасы, каб адкрыць твар — "ходзіш чапялой, а так хоць бачна твая індывідуальнасць". Танцуй, спявай, вершы расказвай на беларускай мове. Не ведаеш? Тады — хаця б на рускай. І, калі ласка, "што-небудзь лірычнае, к чорту "кайданы" ды "смерць". Якія кайданы ў семнаццаць год? Ляціць пыл з крэсла, якім тэмпераментны выканаўца скарыстаўся ў якасці рэквізіту; не слухаюцца пад усхваляванымі пальцамі гітарныя струны; па-здрадніцку зрываецца голас; завучаныя назубок словы раптам знікаюць з памяці. Булгакаў, Дзюрэнмат, Колас, Багдановіч, Купала, бясконцыя "дыпламаваныя бараны", "махальнікі Івановы", "бабы", якія з возу, Крапівы, шмат урыўкаў "з уласнага"... Дзіўна: нягледзячы на тое, што ва ўмовах прагляду было дакладнае патрабаванне — усё чытаць на беларускай мове (тэатр усё ж такі нацыянальны), абсалютная большасць рыхтавала рускамоўныя ўрыўкі і ўвогуле на роднай мове размаўляла з вялікай цяжкасцю. Шмат каго з канкурсантаў падвёў нядаўні грып — голас не слухаўся, то не ўздымаючыся вышэй шэпту, то даючы нечаканага "пеўня". Іншыя відавочна паспадзяваліся на раней прыгатаваныя нумары. Давялося нават пабачыць "маленькае шоу" з танцамі, касцюмамі ды ўласным музычным суправаджэннем. Хто ж мог ведаць, што В. Мазынскі шукае "чыстыя лісты", да якіх яшчэ не дакраналася рука іншых настаўнікаў. Але ўсё роўна, выслухваў ён усіх жадаючых, даючы таму-сяму слушныя парады: з дыкцыяй папрацаваць, у БАМ паспрабаваць паступіць, — але часцей, на жаль (што ж, конкурс — справа жорсткая, ніхто з табой цацкацца не стане дзеля тваёй жа карысці), гучала сціплае "дзякуй". "У акцёра павінна быць дурынка ў галаве", — тлумачыць рэжысёр чарговай дзяўчыне. — А вы чалавек нармалёвы. Мы ж пакінем 3-4 "прыпыленых". Усё правільна, без гэтага ўнутранага, няўлоўнага агеньчыка, без апантанасці тэатр чалавека зламае.

У рэшце рэшт з усяго натоўпу застаюцца шасцёра: чатыры хлопцы (В. Мазынскі не хаваў, што яму патрэбны ў першую чаргу яны) і дзве дзяўчыны. Кожнага праслухваюць па другому разу, прычым тут ужо рэжысёр не вытрымлівае і па ходу справы пачынае ўмешвацца, папраўляць, забыўшыся нават на галодны страўнік і стомленасць ад пяцігадзіннага прагляду.

Што ж далей чакае гэтую шасцёрку шчаслівчыкаў? Паступова яны будуць уключацца ў працу тэатра. Можа стацца, што ў наступным годзе гэтая група пойдзе на завочнае аддзяленне Беларускай акадэміі мастацтваў, каб усё ж мець потым на руках дыплом.

— Трупа павінна ўвесь час абнаўляцца, — тлумачыць мэты сённяшняга конкурсу Валерый Яўгенавіч. — Да таго ж, на трынаццаць чалавек акцёраў нагрузка вельмі вялікая. І потым, я рыхтую кадры не толькі для свайго тэатра: так атрымліваецца, што добрых артыстаў у мяне пераманьваюць акадэмічныя тэатры. Там большы заробак, там цяплей, утульней — выгоды там большыя. Чаму не запрашаю студэнтаў БАМа? Не ляцяць яны да мяне. Ды яшчэ маюць праблемы з беларускай мовай. Яны з рускамоўнага асяроддзя, яны думаюць па-руску і пачынаюць у галаве перакладаць тэкст — няма лёгкасці, хуткасці. Паслухайце, як размаўляюць акцёры на радыё: пакуль гавораць адно слова, успамінаюць другое. Мая мэта: не проста набраць "штаны" і "спадніцы" — мне патрэбны маладыя людзі, якія б увайшлі, уліліся ў маю трупу. Цяпер жа, у першую чаргу, я хачу пабачыць прыроду іхнюю, разняволенасць — толькі з гэтага пачынаецца праца. Напрацаванасць якраз тое, чаго не павінна быць. Заўсёды лепш пабудаваць нанава, чым нешта перабудоўваць. Я хачу сам ляпіць з іх акцёраў.

**Юля ПАЛАЧАНІНА**

# Найноўшая зямля, альбо Гульня ў недаДачу

КОЛЬКІ НАС СТАЛА ТАКІХ, каго не перастае ахінаць нейкая праніклівая самота? Нават не самота, а стан няёмкасці і недарэчнасці, калі мы падаёмся самі сабе не зусім тымі, кім хочам і маглі б быць. Тым больш, што і навакольныя рэчы, і настроі ў родный краіне маркоцяць. Засмучаюць. Чагосьці не стае. А, можа быць, гэта проста канец стагоддзя ўсталёўвае ўнутраны духоўны катаклізм, і мы занадта над усім задумваемся? Бяром да галавы і да сэрца?

***...Прайсці свой круг, прамарнавацца***
***І невядомымі астацца.***
***Ды быць забытымі тут усімі —***
***І сваякамі і чужымі...***

Як ідылічнае вырашальнае выйсце мроіцца, што файна было б з'ехаць куды з Мінска ў Парыж які альбо ў Лондан. Альбо на вёску, дзе пасяліцца ў якой-небудзь пакінутай хаце. З печчу. Абклаўшыся кнігамі, чытаць, пісаць, садзіць бульбу, гадаваць свіней. Пакурваць надвячоркам на ганку. Мандражыцца — надакучыла. Лаяцца — таксама. Душа прагне спакою, а значыць, мудрасці. Ёсць, вядома, сумнеў, што ўдасца вытрымаць доўга без звыклых выгод мегаполіса, аднак хочацца паспрабаваць. Зведаць повязь з прыродай, з зямлёю — ці не нацыянальная беларуская гэта пажаднасць, дагэтуль як след не ажыццёўленая?

***...Зямля — аснова ўсёй айчыне...***

— Ага! Цябе нават на дачу не загоніш!

Рэпліка знаёмая. Ад гэтай праўды ніякавею, і застаецца толькі далікатна пярэчыць, што розніцу паміж сапраўднай вёскай і дачай я ведаю ўжо цягам трынаццаці гадоў. З лета 1986-га, калі ўпершыню я не змог правесці вакацыі ў роднай вёсачцы Дубяец Касцюковіцкага раёна Магілёўскай вобласці — яе "засыпала" радыяцыяй, і мяне ўгаварылі паехаць "на чыстае дачнае паветра". І сам на сябе злуюся: "Пайшлі вы з вашай дачай! Толькі выхадныя змарнуеш". Мае ж бацькі і бабуля лічаць па-другому і амаль рытуальна збіраюцца, як сотні тысяч беларусаў, у дарогу.

***..Што ты, як рыба тая ў сеці,***
***Не маеш волі, ні разгону,***
***Што ты не чуеш жыцця звону,***
***Што гэты свет табе завязан***
***І шлях прасторны твой заказан...***

І ўсе яны пакідаюць гарадскія кватэры ў спадзеве на кароткачасовую палёгку.

***...А дзе ж той выхад? дзе збавенне***
***З няволі цяжкай, з паланення?***
***Адзін ён ёсць: зямля, зямля...***

Гэтакзваныя дачы паўсюдна пачалі з'яўляцца ў 80-ыя гады, асабліва "за Гарбачовым". Нічога падобнага няма нідзе ў свеце, з'ява гэтая — выключна спадчыннасавецкая. Можна ставіцца да яе як заўгодна, аднак відавочна, што яна запатрабаваная ўжо не адзін дзесятак гадоў.

***...І не належыць ні да кога,***
***Не знаць начальства ніякога...***

Кампаніяй па надзяленні насельніцтва зямельнымі ўчасткамі савецкая дзяржава мела намер вырашыць некалькі глабальных праблем. Па-першае, людзі ва ўмовах карткавай эканомікі і ўсемажлівых дэфіцытаў атрымалі рэальную магчымасць нейк самім уплываць на ўласны дабрабыт. "Невядома, як яно далей будзе. А так гуркі, ягады, яблыкі, свае кампоты — не прападзём. Калі што, во, пераедзем сюды, на дачу, завядзём курэй, свіней, а то і карову". Па-другое, што самае, відаць, галоўнае, улады, дэманструючы нібыта ліберальныя перамены і падыходы, імкнуліся адцягнуць увагу народа ад палітычных працэсаў. Чалавек, які зацята корпаецца на градах, думае найперш пра тыя самыя грады. Ці не таму вёска заўжды была такой забітай? Нават у месцах зняволення праца — абавязковы сродак перавыхавання і ўлагоджвання. Гэты доўгатэрміновы эфект, дарэчы, дзейнічае і па сёння. На апазіцыйныя акцыі нават цёплымі веснавымі і летнімі днямі прыходзіць жменька людзей. Мабыць, тыя, што не маюць "дач". Большасць жа незадаволеных жыццём суайчыннікаў завіхаецца на сваёй "соткавай" гаспадарцы. "Захачу, над дахам бел-чырвона-белы сцяг павешу і партрэт чый-небудзь у прыбіральні". Своеасаблівая сублімацыя патрыятызму і незалежнасці краіны.

У "адачванні", па сутнасці, тая ж функцыя, што і ў спойванні насельніцтва. І здароўе нацыі таксама пры гэтым падрываецца, але асабліва і не ўпікнеш — усё добраахвотна. Пры выдзяленні абшараў пад дачы дзяржава паводзіла сябе па непрыхаваным вядомым прынцыпе: на табе, Божа, што мне нягожа! Давалі звычайна зямлю-няўдобіцу — пясок ды гліна, гліна ды пясок. Зарослую кустоўем, забалочаную.

***...Пытала маці: — Каб такая***
***Была зямля гэта прыўдала,***
***Яна б дагэтуль не гуляла...***

Трэба было выкарчоўваць карчэўе, збіраць каменне, прывозіць торф, гной. Гары ён гарам, такі занятак!

***...Зямля ж, ох, многа патрабуе***
***І догляду, і той увагі,***
***І, калі хочаце, павагі...***

Да таго ж, больш за чатыры-шэсць сотак не давалі.

***...Так... хоць зямлі свае нямнога,***
***Але ўсё ж лепей, як нічога...***

Плошча дачнага дамка абмяжоўвалася 25-цю квадратнымі метрамі (плюс 10 метраў — веранда). Дамок не павінен быў быць вышэй чым 6,5 метра. Забаранялася будаваць склепы. Усё паводле агульнай планіроўкі, па ўзоры, строга і аскетычна, без самадзейнасці і прыхамаці. Вось і пякліся дачныя домікі, як блінцы — адзін у адзін. Праедзьцеся па любым прыгарадным маршруце. Паабапал дарогі — процьма дачных пасёлкаў. Здалёк яны выглядаюць, як цацачныя гарадкі, макеты. Дамок да дамка шчыльненька-шчыльненька! Здаецца, там нават плюнуць няма куды.

***...Будынкі цесна ў рад стаялі,***
***Як бы адны другіх трымалі...***

Аднак у параўнанні з хрушчоўскім часам, калі пачалі з'яўляцца самыя першыя дачы і на якіх дазвалялася ўзводзіць адно невялічкія хлеўчукі, "перабудовачныя" ўмовы дачаўладкавання ўжо ўяўляліся паслабкай. Маўляў, "дзякуй і на гэтым". Народ, дарваўшыся да зямлі, быццам абудзіў гены і працаваў старанна, у сем патоў. Укалваў сем дзён у тыдзень. Схема з гісторыі вядомая: пяць дзён працуеш на пана (на дзяржаву), два дні — на сябе, ды затое — у радасць.

Усё ж дзяржаве ваколдачны цынізм агукаецца. У адвечным супрацьстаянні "хто каго... — дзяржава ці народ?" страт, у прыватнасці, ад крадзяжоў будматэрыялаў, не падлічыць. А не задавольваючыся, натуральна, лімітнымі памерамі ў шэсць сотак сваіх "фазенд", людзі надумаліся і не спыняюцца ўзбуйняць уладанні захопам прылеглага да тэрыторыі дач лесу. У дадатак лес засмечваецца, ператвараецца ў звалкі...

***...А вось папробуй на цікавасць***
***Стрымай службовую рухавасць,***
***Служы, спусціўшы рукавы,***
***І выкінь службу з галавы, —***
***Такія ў лесе выйдуць справы —***
***Пажар, парубкі і патравы...***

Не прыдбаць дачы, не запісацца ў "дачнікі", не палюбіць гартаць народныя календары — гэта тое самае, што выявіць уласную лянівасць, непаўнавартаснасць і недальнабачнасць. Прычым за модай на дачы хавалася, найперш, калі па шчырасці, прыемнае пачуванне сябе гаспадаром. Нягледзячы на тое, што дачы з'яўляюцца фармальна калектыўнай формай уласнасці, чалавек мог сказаць: "Вось гэта — маё!" Ахвота і патрэба быць на зямлі, з зямлёю, нарэшце, жаданне "быць панам" — не прыгожыя кніжныя міфы пра беларусаў. А для гарадскога жыхарства, якое ў краіне пераважна паходзіць з вёскі, гэта сапраўднае адхланне. Вунь нават прэзідэнт у сваёй драздоўскай рэзідэнцыі і той памідоры вырошчвае і курэй трымае. Для многіх пабыць на дачы — адпачыць. У тым ліку і праз фізічную стому.

***...І чым больш служба дакучала,***
***Тым болей бацьку прыцягала***
***Свая зямелька, свая хата***
***(Няўжо яна яму заклята?)...***

Для сучаснага мужчыны валоданне дачай дае таксама шанц выканаць старажытны звычай: нарадзіўшы сына, пасадзіць яшчэ дрэва і пабудаваць дом.

Я сам, хоць і не люблю бываць на дачы, чамусьці штогод выпрошваю ў бацькоў градку пад маю ўлюбёную фасолю — уласнаруч саджу яе і збіраю ўраджай. Адно што даглядаць граду даручаю бабулі, якая наогул толькі "зімуе" ў Мінску. Часта задумваюся: як жа кепска пачуваюцца тыя перасяленцы з забруджаных радыяцыяй тэрыторый, што не маюць падобных магчымасцяў хаця б часова паіснаваць ва ўмовах, набліжаных да вясковых?! Ад вялікае тугі па зямлі яны свавольна займаюць (як, напрыклад, у сталічным раёне Малінаўка) пад бульбу пустку. Прывыклі жыць на собскіх харчах. Уяўляеце, калдыбае з рыдлёўкай за спінай па асфальце да свае "сядзібкі" дзед.

***...Мой родны кут, лугі, крыніца!***
***Цяпер для вас я — чужаніца...***

Дзяржава не замінае, нават, калі папросіш, дае па дзве соткі на гэтае аганістычнае земляробства. А ў Фінляндыі, між іншым, у прыгараднай паласе Хельсінак да чатырнаццаці кіламетраў увогуле забаронена займацца любым відам земляробства. А мы — у самых межах Мінска, дзе процьма заводаў і машын. У Малінаўцы і цеплаэлектрастанцыя пад бокам. Ды людзям, якія засамоціліся без сялянскай працы і якім пара лішніх мяшкоў бульбы пры эканамічным заняпадзе не зашкодзіць, усё роўна. Што тая экалогія! Абы гэты зямельны кавалачак не забралі.

***...Рабі, працуй, кладзі ты сілы***
***У гэты дол чужы, пастылы***
***І горкім потам аблівайся,***
***Зрабіў парадак — выбірайся***
***Ды й зноў ідзі адсюль у госці...***

Пераважная частка моладзі, гараджане ў першым пакаленні, як я, дач не любяць — занадта заурбанізаваліся.

***...Парадку дзеці не трымалі,***
***І іх ніколі не сціскалі,***
***Абы насоў не разбівалі...***

Старэйшыя, расчараваныя такім стаўленнем дзяцей, увесь час суцяшаюць сябе тым, што, калі сыны і дочкі вырастуць, займеюць сем'і, абавязкова зацікавяцца бацькоўскімі "мілосцямі" і спадчынай. "Дажываце да нашага веку, дык з дачы вылазіць не будзеце". Ім здаецца, што гісторыя паўторыцца: "Мы таксама падлеткамі ад цягамотнага вясковага жыцця ў горад уцякалі. Да ўнітазаў і тэатраў. А ўсё роўна, во, з г...ном возімся!"

Наўрад ці спраўдзіцца спадзеў бацькоў. Моладзь разглядае дачу выключна як месца разняволенай тусоўкі з сябрамі. Яшчэ хіба прыехаць ды паласавацца трускаўкамі. Не больш. І нелюбоў да працы тут ні пры чым. Нейкая музеяванасць дач, псеўдавясковасць, ненатуральнасць, калі на суботу і нядзелю ўсе робяцца сялянамі, не падабаюцца. Дзе ж вы бачылі, каб вёска дротам была абнесена, каля кожнай хаты машына стаяла ды каб там па-руску гаварылі?!

Карацей, калі маладыя не зусім адпрэчваюць дачы, то гатовы ўспрымаць іх толькі як лецішчы. Для адпачынкавага баўлення часу. Ёсць у беларускай мове такое файнае слова "лецішча", што ўжываецца пакуль вельмі рэдка. Але праз 30—50 гадоў, як адыдуць старэйшыя пакаленні, цяпершанія дачы стануць выглядаць інакш, без агародаў (толькі сады і кветкі вакол), і ператворацца тады ў гэтыя самыя лецішчы. Будуць у нас усеагульныя, як за мяжой, загарадныя домікі. Кволыя праявы тэндэнцыі да гэтага ўгледжваюцца ўжо. За першыя неўсвядомленыя прыкметы можна ўважаць будаўніцтва лазенек і тое, што без тэлевізара на дачы не абыходзіцца амаль ніхто. Не памятаю, дзе вычытаў пра цікавы выпадак. Як два маладыя хлопцы вырашылі пераканаць бацькоў з надыходам чарговага дачнага сезона нічога на ўчастках не садзіць і не сеяць, а прыязджаць туды шашлыкі есці. Як "белыя" людзі. А калі да паразумення не прыйшлі, хлопцы ўначы павырывалі ўсе пасадкі... Абурыліся бацькі, пажурыліся колькі тыдняў, а потым справілі газончык, шэзлонгі паставілі, альтанку. Пакрысе перасталі пацець на градках, адчулі сапраўдны "камфорт" прыроды.

***...А думкі ціхія і мары***
***На душу клалі свае чары...***

Думаецца, пераўладкаванню зямельных участкаў на лецішчах паспрыяюць эканамічныя акалічнасці. Многія, пагледаючы на каштарысы ўтрымання дач, задумваюцца: а ці варта? На адзін бензін колькі грошай выходзіць! Ды іншых трат не абярэшся. Насенне, прылады разнастайныя, будаўнічыя матэрыялы — толькі адзінкі дабудаваліся да канца. У дадатак, стамілася зямля, не дужа родзіць.

А тут яшчэ летась кожнае дрэўца перапісалі, кожны кусток. Маўляў, дзяржава павінна ведаць, што і колькі ў ейных межах расце. Народ злякаўся, тое-сёе высякаць памкнуўся. Старыя згадалі, што падобнае было ў 40—50-я: "Тады падатак увялі з кожнай яблыні".

Аднак усё гэта забываецца ў замілаваннях золкамі і ў прагулках па лесе.

***...Ранюткі час. Нідзе нікога,***
***Між дрэў звіваецца дарога,***
***А па дарозе ты з кашом***
***У лес шыбуеш ціхачом...***

Асабліва ўсё гэта забываецца ў пару ўраджаю. Пахваляюцца: "сваё ядзім, не з базара". Як спявае Анатоль Ярмоленка: "Хто куды, я на дачу, веру я ў сваю удачу".



Фота К. ДРОБАВА

У любым выпадку, нягледзячы на адсутнасць вялікіх выгод, пазбаўляцца дачных участкаў наўрад ці людзі захочуць. Якаяніякая, але — маёмасць.

***...А збудзь яе — пачуеш страту,***
***Бо дзе паставіш тую хату,***
***Калі няшчасце напаткае...***

Ды і хто тую дачу купіць? Попыту дзесяцігадовай даўніны ўжо няма. Ледзьве не кожная сям'я дачу мае. Тым больш яна — не панацэя для выжывання. І не шык. Людзі, калі ім трэба зямлю набыць, лепш возьмуць 10—15 сотак, а то і болей. Тады і катэдж выйдзе. Дае дзяржава. Цяпер прадаваць дачу шкада і неразумна — выручыш мізэрныя грошы, і блізка не тыя, якія нават ты ў яе ўбухаў. З цягам часу кошты за пусты зямельны ўчастак упалі ў сярэднім з тысячы да двухсот долараў, а з домам — з сямі тысяч да трох. Лічбы вельмі красамоўныя. Таму, мабыць, маладыя беларусы маюць рацыю, збіраючыся дачы трансфармаваць у лецішча на еўрапейскі ўзор. Абы толькі не пуставалі, абы толькі не апынуліся ў стане, у якім знаходзяцца нашы паміраючыя населеныя пункты ў сельскай мясцовасці. Абы не займелі статуса "пацёмкаўскіх вёсак".

***...Не хоча думка йсці ўжо далей...***

**Кірыла ПАЗНЯК**
**(З дапамогай Якуба КОЛАСА)**

## "Хатняе зайчанё"

**Народны пісьменнік Беларусі Іван Навуменка паспяхова працуе ў галіне дзіцячай літаратуры, пра што засведчыла яшчэ яго аповесць "Вайна каля Цітавай копанкі", выдадзеная асобнай кнігай у 1959 годзе. Дзецям адрасаваны і апавяданні пісьменніка, асобныя з якіх прадстаўлены ў зборніку "Хатняе зайчанё", выпушчаныя летась выдавецтвам "Юнацтва".**

**Кніга атрымалася вельмі змястоўнай і псіхалагічна глыбокай. Іван Якаўлевіч цудоўна ведае псіхалогію хлопчыкаў і дзяўчынак, добра разбіраецца ва ўнутраным свеце падлеткаў, якія толькі ўваходзяць у самастойнае жыццё, а яно ставіць перад імі штодня шмат праблем.**




**Пераважная большасць герояў апавяданняў — тыя, хто жыў у пасляваенны час, асобныя з іх рана пасталелі, зведаўшы, што такое вайна.**

**Значыць, творы І. Навуменкі — гэта і праўда аб жыцці бацькоў, а таксама дзядуляў і бабуляў сённяшніх дзяцей. Тым самым пашыраюцца далягляды чытача, ён мае магчымасць далучыцца да таго, што цяпер стала гісторыяй. Апавяданні адметныя і тым, што ў іх адкрываецца дзівосны, непаўторны свет прыроды. А хараство ж прыроды — і прыгажосць самога жыцця, часцінка духоўнасці, якой так не стае сёння многім з нас. Іван Якаўлевіч і сам па-сапраўднаму ўлюбёны ў прыроду, у чым лёгка ўпэўніцца, перачытаўшы яго "дарослыя" творы, у тым ліку раманы "Сасна пры дарозе", "Вецер у соснах" і іншыя. Лірычныя адступленні ў гэтых творах — тая ж паэзія ў прозе, яны надзіва прасветленыя, кранальныя, адразу адчуваецца, што чалавек выказвае тое, што нязменна ў яго на душы.**

**Аўтабіяграфічныя моманты адчувальны і ў творах, што ўвайшлі ў кнігу "Хатняе зайчанё".**

**Узяць хоць бы апавяданне "Гадзюка", герой якога Міхась — сама часцінка прыроды: "Каб у Міхася спыталі, ён, відаць, не здолеў бы адказаць, чаму так любіць лес. Бо гэта цэлы асаблівы свет. У лесе душу як бы ахінае спакой і раўнавага. Хораша думаць і марыць у лесе. Знікае з пачуцця ўсё дробязнае, мізэрнае, сосны, бярозы, дубы як бы гавораць пра вечнасць".**

**Мала чым адрозніваецца ад Міхася Вася Скачок, герой апавядання, якое дало назву кнізе: "Ён страшэнна любіць птушак і думае, што гэтым летам яму пашанцуе больш, чым мінулым. Летась ён знайшоў два гнязды: адно — у струхлелым высокім ліпавым пні — удода і яшчэ адно — галубоў-туркалкаў. Яно было ў зусім нечаканым месцы — на галіне высокай, стромкай алешыны".**

**Той жа Міхась і герой апавядання "Сустрэча з ваўком": "Міхась — цікаўны хлапчына. Ён любіць лес да самазабыцця. Ведае яго ў веснавую, летнюю, асеннюю пару. І ў кожную пару года лес нібы раскрывае перад хлопчыкам свае дары і прывабнасці".**

**Герой жа апавядальнік з апавядання "Па грыбы" так перадае сваё захапленне прыродай: "Грыбы... Лясная казка. Паэма сэрца..."**

**А ў апавяданні "Жуль Верн" паўстае "кавалачак дзяцінства далёкіх трыццатых гадоў". Гэты твор сёння асабліва карысна прачытаць тым дзецям, якія з-за тэлевізара і камп'ютэра не толькі свету божага не бачаць, а і забыліся пра кнігу. А які яна цуд, як шмат дае чалавеку неабыякаваму да ведаў пазнання невядомага і відаць з аповеду пісьменніка, які з вышыні пражытых гадоў вяртаецца ў сваё маленства і маленства сваіх аднагодкаў.**

**Цікавыя апавяданні "Калабарацыяніст Пеця Жучок", "Як мы лавілі шпіёна", "Куліна з Чарнігава" і іншыя. У іх вельмі праўдзівыя і псіхалагічна глыбока асэнсаваныя выпадкі з жыцця, калі дзеці сутыкаюцца са складанасцямі пасляваеннасці, вымушаны задумацца, як нялёгка і няпроста заставацца чалавекам.**

**Увогуле, які твор ні возьмеш, абавязкова адчуеш, наколькі І. Навуменка ўмее быць пераканаўчым у адлюстраванні жыцця дзяцей. А таму застаецца толькі парадавацца, што выдавецтва "Юнацтва" дало жыццё такой патрэбнай кнізе.**

**Лявон ЮРЧЫК**

# Хто ты, Вядзьмак-Лысагорскі?

### НЕ ДЛЯ ДЫСКУСІІ, А Ў ДАПАМОГУ ДАСЛЕДЧЫКАМ

У апошні час на старонках рэспубліканскага друку зноў пачалі варушыць пытанне аб аўтарстве паэмы "Сказ пра Лысую гару". Яно і зразумела, бо гэтае пытанне вось ужо чвэрць веку турбуе як спецыялістаў-літаратуразнаўцаў, так і шматлікіх чытачоў, аматараў паэзіі, якія таксама хацелі б ведаць, хто напісаў гэты, як я лічу, знакаміты сатырычна-гратэскавы твор другой паловы дваццатага стагоддзя.

"Сказ пра Лысую гару" з'яўляецца не толькі нашым нацыянальным здабыткам. Днямі я сустрэў чалавека, які пераклаў гэты твор на рускую і ўкраінскую мовы. Відавочна, і цяпер цікавасць да паэмы не спадае, калі Украіна збіраецца ў такіх цяжкіх эканамічных умовах яе выдаваць.

Я не задаюся мэтай прапанаваць грамадскасці сваю версію наконт аўтара "Сказа". Я не спецыяліст у літаратуразнаўстве, а толькі чытач-беларус, які любіць і паважае сваю мову, цікавіцца паэзіяй і неабыякавы да яе стану і развіцця.

Чаму ж да гэтага часу не разгадана тайна Францішка Ведзьмака-Лысагорскага? Прычын тут, на мой погляд, некалькі. Складаецца ўражанне, што і літаратуразнаўцы глыбока не прааналізавалі сутнасць гэтай выдатнай рэчы, якая ў свой час ускалыхнула ўсю грамадскасць. Людзі, якія датуль не бралі ў рукі паэтычныя кніжкі, зачытваліся "Сказам", вывучвалі яго на памяць, чыталі адзін аднаму і па-сапраўднаму шчыра рагаталі — нават у трамваях і электрычках (сам быў сведкам). Па-другое, у пошуках аўтара не было пэўнага навуковага, ці інакш кажучы, сістэмнага падыходу. І як вынік — не толькі не знойдзен аўтар, але нават невядома, быў ён адзін, ці паэма пісалася некалькімі саўтарамі.

Так, яшчэ тры гады таму ў "Звяздзе" за 19.03.96 г. Р. Барадулін заявіў, што гэты твор — фальклорнага паходжання, і на пытанне пра аўтарства "Сказа" адказаў: "А хіба шукаюць аўтара казкі?" Там жа М. Аўрамчык выказаў меркаванне, што паэма напісана трыма ці двума аўтарамі.

У часопісе "Роднае слова" (1988, N 10) кандыдат філалагічных навук Э. Садаўнічы пайшоў яшчэ далей. Ён пісаў: "Паэма "Сказ пра Лысую гару" — агульны творчы плён паэтычнага асяродка. Па сутнасці, яна з'яўляецца фальклорным творам. Верагодна, існавала ў шматлікіх варыянтах. І ў дадзеным выпадку трэба было б знайсці таго, хто на падставе ўсіх варыянтаў зрабіў адзін і здолеў выдаць, склаўшы, утварыўшы, такім чынам, канчатковы, кананічны тэкст паэмы".

Наконт фальклорнага паходжання "Сказа" заяўлена вельмі катэгарычна, але ж, выбачайце, бяздоказна. Шаноўны навуковец, відаць, не даў сабе клопату параўнаць першасны тэкст, які пайшоў па руках у 1971 годзе, і гэтак званы кананічны, апублікаваны ў 1995 годзе ў "Крыніцы". А калі б параўнаў — убачыў бы, што ніякай фальклорызацыі паэмы не адбылося. Якія ж шматлікія варыянты менавіта гэтага сюжэта мае на ўвазе спадар Садаўнічы? Калі такія варыянты былі, дык яны недзе і ёсць, і тады трэба іх грунтоўна даследаваць, прааналізаваць, супаставіць паміж сабой і з кананічным тэкстам. На маё перакананне, выснова спадара Садаўнічага паспешлівая і скіроўвае даследчыкаў на памылковы шлях.

Версію калектыўнага аўтарства выказаў у "Маладосці" (1998, N 11) паэт К. Камейша, якога таксама хвалюе тэма паходжання "Сказа". На яго думку, паэму напісалі А. Астрэйка, Р. Няхай і А. Звонак.

Вядома, не застаўся ўбаку ад пошукаў і "ЛіМ", у якім за 1.1.99 г. надрукаваны артыкул "Па чыёй галаве сумуе лаўр?" Само па сабе гэта вельмі пахвальна, але паколькі гэты артыкул ёсць пародыя на "гарбатку ў Шніпоў", то сур'ёзнага адказу на сур'ёзнае пытанне там няма. Тым не менш, некаторыя меркаванні варты таго, каб на іх адрэагаваць. Па-першае, нехта В. Нельсагорскі (псеўданім, несумненна) прапануе абмеркаваць гэтае пытанне на адным з наступных "зборышчаў" — з тым, каб знайсці аўтара "Сказа" і ўздзець на яго галаву лаўровы вянок. Такі накірунак і падыход мне як чытачу імпануе: сапраўды, няхай бы аматары "гарбаткі" выказаліся. Здзівіла заўвага В. Нельсагорскага, што нібыта Р. Барадулін не так сабе прамаўчаў на тэлеэкране, калі ў яго запыталі пра аўтарства "Сказа". Ці мала па якой прычыне мог прамаўчаць масціты паэт! Можа, ён у тую хвіліну падумаў: "Калі б я быў аўтарам "Сказа" — пра гэта даўно б ведала і пісала не толькі ўся СНД, але і ўся Еўропа з Амерыкай у прыдачу!.."

Але канчаткова заблытаў пытанне В. Пазнякевіч ("Чырвоная змена", 4.02.1999 г.). Ён прыпісвае аўтарства "Сказа" свайму дзядзьку-берасцейцу, нейкаму Ведзьмаку-Сціпанавічу з вёскі С., які ў свой час скупіў каля 500 экземпляраў паэмы. Ну, што скупіў — дык дзядзька, бачна, кемлівы, яшчэ тады зміціў, што на гэтым можна добра падзарабіць, ужо тады рыхтаваўся да рынкавых адносін.

Між іншым, даўно думаю пра адну выходную памылковую пазіцыю многіх даследчыкаў гэтай паэмы, асабліва паэтаў. Яны відочна недаацэньваюць ідэйна-мастацкія вартасці "Сказа", глыбіню яго задумы і зместу. Сёй-той лічыць, што гэта рэч была напісана як бы неўсур'ёз, жартам. Сабраліся, так бы мовіць, трое ці больш жартаўнікоў, можа, нават за чаркай, і "зварганілі" гэткі літаратурна-паэтычны капуснік. Адным словам — пахахмілі. А на самай справе, пры тым, што ў паэме шмат смеху, гумару, дасціпнасці, яна вельмі і вельмі сур'ёзная — і задумай, і зместам. Зроблены (таленавіта зроблены) глыбокі сацыяльна-эканамічны, маральны, духоўны і эстэтычны зрэз нашага грамадства пачатку 70-х гадоў, гэта значыць — напярэдадні вялікіх гістарычных перамен.

Як відаць, склалася дзіўнаватая сітуацыя: з аднаго боку, калі да гэтага часу Вядзьмак не прызнаўся, ён будзе маўчаць і надалей. З другога — ён як бы чакае: вы знайдзіце, дакажыце — тады паглядзім. Дагэтуль дадзенае ў паэме слова ён пакуль што трымае:

***А хто пісаў паэму гэту,***
***І дзе твары ён, і калі —***
***Навечна канула у Лету***
***І толькі бурбалкі пайшлі.***

Як аўтар і прадбачыў, ні Александровіч, ні Кісялёў яго не адкрылі. А калі так, дык, мне здаецца, трэба даць пошукам нейкі іншы, можа, больш канструктыўны накірунак.

Не хачу прэтэндаваць на арыгінальнасць, але не бачу другога выйсця, як прапанаваць наступны падыход. На мой погляд, аўтара "Сказа" можна знайсці толькі тады, калі ў аснову даследаванняў мы пакладзём некалькі агульных тэзісаў:

- Аўтар, хутчэй за ўсё, быў адзін.
- Аўтар павінен быць вельмі таленавітым у жанры сатыры і гумару.
- Яго жыццёвы і сацыяльны вопыт дазваляў апісваць пісьменніцкі асяродак "знутры".
- Ён валодаў жывой народнай мовай.
- Творчы вопыт і ўзровень яго майстэрства да напісання "Сказа" быў дастаткова высокі.

Можа быць, да гэтых маіх прынцыповых меркаванняў хто-небудзь дадасць і свае. Але патлумачу свае высновы.

У першую чаргу даследчыкі павінны звярнуць увагу на такую акалічнасць, што ў час напісання паэмы, калі нават чытанне тэксту, які хадзілі па руках, было рызыкоўным, збіраць творчы калектыў было, мякка кажучы, неразумна. Кожнаму вядома — калі нешта ведаюць трое ці болей людзей — праз дзень-другі ведаюць усе. Вось чаму інстынкт самазахавання аўтара і трэба ўлічваць абавязкова. Ды і калі чытаеш паэму, то

КНІГАРНЯ

# Санетаў дружны лад

У нашай краіне, як вядома, жыве і плённа працуе нямала рускамоўных паэтаў. Сярод іх адно з першых месц па праву належыць Ізяславу Катлярову, які даўно зарэкамендаваў сябе адметным творцам. І хоць жыве Ізяслаў Рыгоравіч не ў стольным Мінску, а ў Светлагорску, у літаратуры сябе правінцыялам не адчувае, што засведчылі кнігі "Мой ровесник", "Друзья мои — свидетели мои", "Здесь на трепетной земле" і інш.

І. Катляроў улюбёны ў паэзію традыцыйную, але ўпэўнена адчувае сябе і ў многім забытым сёння жанры санета. Ды не абмяжоўваецца толькі самім санетам, а піша і вянкі. А наколькі плённы гэты шлях для яго, пераконвае новая кніга І. Катлярова "Но даже умираем, чтобы жить", жыццё якой дало выдавецтва "Мастацкая літаратура". Складаецца яна з пятнаццаці вянкоў санетаў, а гэта пятнаццаць шляхоў да ісціны, што ў наш складаны час не так і лёгка зрабіць, бо ці не штодня сутыкаюцца розныя погляды і меркаванні, накаляюцца палітычныя страсці. Паспрабуй разабрацца, дзе праўда, дзе мана; хто з'яўляецца лідэрам, вартым увагі, а хто звычайным палітычным кан'юнктуршчыкам.

Аднак паэзія, у рэшце рэшт, не задавальняецца асэнсаваннем мімалётнага, а калі і робіць гэта, дык толькі для таго, каб, адштурхнуўшыся ад канкрэтных рэалій, прыйсці да спасціжэння вечных, глабальных праблем. А, як усё больш высвятляецца сёння, гэтага можна дасягнуць, зразумеўшы, што вельмі плённым шлях — пошук уратавання ў веры да Бога, у разуменні, што яна, як гаючыя сілы дабра і прыгажосці, могуць шмат у чым дапамагчы чалавеку не толькі застацца самім сабой, але і, дзякуючы сваёй упэўненасці, падказаць шлях маральнага і духоўнага ўратавання іншым.

А жанр санета творцу, які ставіць перад сабой такую высакародную задачу, як нельга да месца. Класічная форма санета — гэта і скандэнсаванасць думкі, якая ў выніку філасофскай напоўненасці радка прымушае аўтара быць нешматслоўным, узважваць кожнае слова, укладаць у яго глыбокі сэнс.

Яго вялікасць Слова — як бы лірычны герой першага вянка "Вне слова":

***Вне слова, как вне воздуха, — не жить.***
***Я собственным дыханьем задыхаюсь***
***и в немоте, — нет, немотою каюсь...***
***Я сам себя не в силах утаить.***

Пошук жа найбольш дакладнага слова цяжкі: "Шептанье, бормотанье, полустон, — никак не попаду в сонетный тон звучанием, а не отдельным звуком". Ды гэты пошук прыносіць плён — санет за санетам кладзецца, каб стаць вянком санетаў. А шлях да Бога (вянкі "Голос", "И дня себе, как милостыни, ждешь", "Старость", "Господи, дай человеком дожить" і іншыя) адбываецца праз пераасэнсаванне пражытага самім сабой і таго, што пройдзена народам, чалавецтвам. І. Катляроў дазваляе свайму лірычнаму герою прайсці шляхам сумненняў, каб упэўніцца, што яго месца на роднай зямлі:

***А я уже в родимой Беларуси,***
***где гати переходят речку вброд,***
***где аисты и впрямь как будто гуси, —***
***доверчиво пасутся у болот.***

***Где на поля стекает небосвод,***
***где улочки, где жердочки-оградки,***
***где, словно воплощение забот,***
***из вечности всплывающие хатки.***

***Сады, еще скрывающие грядки,***
***стога и на лугу, и во дворах.***
***И мостики, или, вернее, кладки,***
***на тиной зарастающих прудах.***

***Где все, как есть — и никаких иллюзий.***
***...Гряди сюда, о Господи Иисусе!***

Не абыходзіць І. Катляроў і чарнобыльскую тэму, па-свойму асэнсоўвае каханне. Вянкі яго санетаў — гэта "вянкі" самога жыцця. Такім, якім яно ёсць. І гэткім, якім мусіць быць.

**Мікола АЛЯКСЕЕЎ**

паўстае адзін выразны характар, пазіцыя аднаго паэта-грамадзяніна. Вось чаму я лічу, што аўтар быў адзін.

Думаецца, што наўрад ці мог напісаць гэту рэч малады чалавек, паэт-пачатковец, — усюды адчуваецца вопытная рука. Але не мог быць аўтарам і зусім пажылы — яму гэта непатрэбна ды ў старога ўжо няма столькі смеласці і азарту.

Далей, мяркуючы па стылі, па паэтыцы — гэта чалавек, які дакладна валодае жывой беларускай мовай. У нас шмат добрых паэтаў, але, аднак, такім натуральным, непадробна шчырым беларускім словам, падслуханым у народа, валодаюць не ўсе. Мова твора можа сказаць даследчыкам вельмі многа, акурат у мове раскрываецца характар паэта, яго адчуванне і бачанне тэмы твора, прадмета адлюстравання.

Каб стварыць партрэт аўтара, вельмі важна, на мой погляд, улічваць і тую акалічнасць, што ён абавязкова з'яўляецца высокакласным паэтам-сатырыкам. "Сказ" мог напісаць толькі той, хто валодае магутным талентам смехатворца.

І яшчэ. Якім бы сатырычным дарам ні валодаў аўтар, ён не мог бы стварыць такую рэч, калі б раней не напісаў што-небудзь падобнае. Цудаў не бывае. Гэтаму павінна была папярэднічаць вялікая творчая практыка менавіта такога характару.

Бог сведка, я не маю намеру нікога з кандыдатаў на аўтарства пакрыўдзіць, але ж трэба глядзець праўдзе ў вочы. Мне, як чытачу, можа, гэта і лягчэй зрабіць, бо я нікому нічым не абавязан.

Вось У. Паўлаў настойліва называе аўтарам "Сказа" М. Аўрамчыка. Безумоўна, М. Аўрамчык прыродна адораны лірык. Але пакажыце мне хоць адзін яго верш, які б сваім стылем, рытмікай, мовай і самім духам напамінаў "Лысую гару"? Увогуле, М. Аўрамчык, як вядома, нічога сатырычнага ў сваім творчым даробку не мае. Дзіўна, што нават Максім Танк у сваім "Дзённіку" адзначае гэтую чутку як ісціну. Прабачце, але ў мяне ўражанне, што паэты не чытаюць адзін аднаго, слаба ўяўляюць творчыя магчымасці сваіх калег, таму і вераць чуткам.

Пойдзем далей. А. Вялюгін як кандыдат на аўтарства таксама адпадае — зусім не ягоны верш і мова ў "Сказе". Па гэтай жа прычыне адпадае і Р. Барадулін. Г. Бураўкін? У яго выкрывальніцкіх вершах шмат злосці, але амаль зусім няма смеху, па-народнаму трапнай дасціпнасці. А. Вярцінскі? Дык жа ў яго зусім іншы сінтаксіс, іншая мова! Нічога агульнага з мовай і сінтаксісам "Сказа"! Пра класікаў, сёння ўжо нябожчыкаў, такіх, як А. Куляшоў, М. Танк, П. Панчанка, У. Караткевіч, А. Пысін, С. Гаўрусёў, і гаварыць не выпадае — настолькі гэта не іх манера пісьма, не іх "прырода таленту".

Вельмі шкада, але асобныя "прапановы" выклікаюць толькі ўсмешку. Ну, сапраўды, ці ж гэта сур'ёзна лічыць аўтарам "Сказа" Р. Няхая, як гэта робіць у "Маладосці" К. Камейша? Хіба Р. Няхай жыў тымі вялікімі сацыяльна-грамадскімі праблемамі, якія якраз і прымусілі Ведзьмака Лысагорскага напісаць "Сказ"? Хіба ён быў такім магутным паэтам-сатырыкам? (Я наогул нічога сатырычнага ў яго не бачыў). З такім поспехам можна назваць аўтарамі "Сказа" і М. Скрыпку, і З. Біралу, і нават "дзядзьку-берасцейца з вёскі С.". Але ж гэта, выбачайце, несур'ёзна.

Галоўная прычына безвыніковасці пошукаў аўтара паэмы, як я лічу, у тым, што пошук ішоў па прынцыпе "хто гэта можа быць". Я прапаную наадварот — ісці шляхам доказнага адлучэння ад ліку прэтэндэнтаў тых, хто зусім відавочна аўтарам быць не можа. Такім чынам, круг імёнаў таленавітых паэтаў будзе звужацца да мінімуму, а далей — даць работу камп'ютэру. Моваазнаўцы з электроннай тэхнікай гэта зробяць хутка і беспамылкова з гарантыяй на 100 працэнтаў. І пытанне закрыецца, як гэта было з высвятленнем аўтарства "Ціхага Дона". Помніце, колькі дзесяткаў гадоў мусолілася чутка, што нібыта М. Шолахаў — не аўтар геніяльнага твора. Сёння гэтыя недарэчныя выдумкі канчаткова адпалі. Аўтар — Шолахаў! І даказаў гэта камп'ютэр!

Дык вось, калі даследчыкі пойдуць такім шляхам, то вельмі хутка Францішак Вядзьмак-Лысагорскі сапраўды падыме рукі ўгару і падставіць галаву пад лаўровы вянок.

**Яўген СТАСЕВІЧ,**
**кандыдат эканамічных навук**

P.S. Канец другога тысячагоддзя характарызуецца тым, што гуманітарныя праблемы ўсё больш і больш зліваюцца з праблемамі тэхнакратычнымі, эканамічнымі, палітычнымі. Культура зноў пачынае займаць належнае — прыярытэтнае — месца ў сістэме каштоўнасцяў сучаснага чалавека. І надрукаваны вышэй матэрыял — яшчэ адна ілюстрацыя таго, як навукоўцы негуманітарных спецыяльнасцяў усё часцей усур'ёз займаюцца праблемамі літаратуры і мастацтва. Аўтар артыкула "Хто ты, Вядзьмак -Лысагорскі?" па спецыяльнасці эканаміст, доўгі час узначальваў навукова-даследчы інстытут адпаведнага профілю. І ў свае літаратуразнаўчыя спробы прыўносіць назапашаны вопыт навуковай метадалогіі. Можа быць, нехта назаве шаноўнага аўтара дылетантам у літаратуразнаўстве, але ж менавіта дылетанты — а дакладней, людзі, не задзейнічаныя ў пэўнай навуковай іерархіі, а значыць, незалежныя ад іншых меркаванняў, — часам рухаюць навуку наперад, вырашаючы тое, што прафесіяналамі прызнана невырашальным і не вартым таму разумовых высілкаў.

Думаецца, артыкул Я. Стасевіча выкліча розныя меркаванні, як зацікаўленне, так і нязгоду. Таму запрашаем усіх да дыскусіі — высветліцца ў выніку яе ісціна ці не, але тэма вартая размовы.

ЧЫТАЦКІ ДЗЁННІК КРЫТЫКА

# Сіла і права

*Васіль Быкаў.*
*"Ваўчыная яма". Аповесць.*
*"Полымя", 1999, N 1.*

Усе, хто чытае і думае на Беларусі, з нецярплівасцю, зацікаўленасцю і нават нейкай трывогай чакалі з'яўлення новай аповесці Васіля Быкава. Гэты твор, напісаны па-за межамі краю (Вуасаары — Фінляндыя), розгалас пра які ішоў даўно — публікацыі ў "Нашай ніве", перадачы па радыё "Свабода" і інш., — прыцягваў і адначасова трывожыў: што яшчэ новага, невядомага скажа нам пісьменнік пра нас саміх, як яшчэ ягоны мастакоўскі геній пераасэнсуе гістарычны шлях Беларусі?

У новым творы Васіль Быкаў застаецца ранейшым зацятым змагаром за дадзенае Усявышнім права чалавеку быць Чалавекам. Але разам з тым тут паўстае перад намі і новы Быкаў — пісьменнік, які мысліць высокімі катэгорыямі сучаснай філасофскай думкі пра чалавецтва, пра суадносіны яго быцця, гісторыі, маралі. "Ваўчыная яма" — гэта твор, які больш чым іншыя быкаўскія аповесці адпавядае крытэрыям, што вызначаў калісьці Алесь Адамовіч для звышлітаратуры.

Кампазіцыя новай аповесці ўжо з першага погляду ўражвае двухпланавасцю: арганічнае паяднанне рэальнага і ўмоўнага. З аднаго боку, усё, пра што расказваецца ў творы, — сённяшняя беларуская рэчаіснасць, а, з другога боку, за кожным героем, яго ўчынкамі, развагамі прачытваецца глыбокае абагульненне, якое праецыруецца не толькі на лёс Беларусі, але і на лёс усяго чалавецтва.

Сімвалічная абстрагаванасць вобразаў увогуле ўласцівая В. Быкаву тут дасягае свайго апагею: героі "Ваўчынай ямы" пазбаўлены ўсяго, нават уласных імёнаў. Гэта проста Салдат, якога здзекамі і гвалтам давялі да забойства і дэзерцірства; Бомж, якому ўжо няма месца і на сметніку; а яшчэ Жанчына, адурманеная наркотыкамі, і абломак зруйнаванага, знявечанага мінулага — стары хутаранін, які тут — у зоне — спадзяецца хоць цаною свайго жыцця здзейсніць спрадвечную мару беларуса — пажыць гаспадаром на сваёй зямлі. Толькі яго, прадстаўніка ўжо выміраючага (можа, нават вымерлага!) тут віду чалавека, пісьменнік называе ўласным імем — Карп.

У выніку агульнавядомых абставін нацыянальнага існавання гэтыя героі аказваюцца не проста адкінутымі на задворкі грамадства, але, як ваўкі чырвонымі сцяжкамі, "абкладзены" ў зону, туды, дзе чалавеку не толькі жыць, але і выжыць немагчыма. Па-за гэтым рэалістычна-зямным планам існавання маргінальных герояў лёгка прачытваецца іншы: абстрагавана-сімвалічны. Такой жа адрынутай, выкінутай з грамадскага быцця цывілізаванага свету, адгароджанай ад яго калючым дротам, з пакінутым на выміранне народам, паўстае і ўся Беларусь.

Чаму ж так адбываецца? Можа, таму, што беларус ніколі не мог "выкараскацца з нейкага разумовага тупіка, куды яго заганяла жыццё"? А, можа, таму, што нашаму народу не пашчаслівіла нарадзіцца дужым?..

"Калі сілы бракуе, тады над табой будуць знушчацца іншыя, а табе толькі і спадзявацца на іхнюю літасць ці абстрактную справядлівасць. Сіле ж не трэба справядлівасці, яна сама сабе гаспадыня і кіруе сабой, як хочацца", — разважае В. Быкаў вуснамі свайго героя Салдата.

Пэўную справядлівасць гэтай формулы кожны з нас адчуў і адчувае на сабе. Але ў шырокім плане, на прыкладзе Айчыны, якая на працягу апошніх стагоддзяў стала розыгрышнай картай у руках дужэйшых сваякоў-суседзяў, — найбольш.

Аднак наш прыватны лёс, лёс нашага краю — гэта праекцыя на лёсы і іншых эканамічна і колькасна слабых народаў, урэшце гэта праекцыя і на лёс усяго чалавецтва. Бо беларусы першымі апынуліся ў сітуацыі, калі "свет вялікі, а месца нідзе няма", як кажа быкаўскі герой Бомж. І хто ў такім разе мае маральнае права судзіць тых, каму няма як клапаціцца пра гонар, бо "знікае магчымасць жыць"?.. Якраз наш народ, з прадаўніх часоў змушаны жыць "таячыся і баючыся", усё больш, чым іншыя народы свету, адчувае апакаліптычную сітуацыю канца II тысячагоддзя.

З перспектывы быцця-небыцця ўсе зямныя праблемы робяцца адноснымі. У змрочнай візіі сучаснага светаўладкавання ўсё большую вагу набывае сартраўская абсурднасць быцця, у якой "гісторыя чалавецтва надта ж падобная на мітуслівы рух згаладнелых мух па пустым стале. Ні законаў у тым руху, ні пэўнасці, адно толькі памкненні — знайсці і зжэрці". Такой, на жаль, яна ўяўляецца не толькі быкаўскаму Салдату.

Куды ж падзецца? Што рабіць? Чаму ўсё так адбываецца? Поўныя бяссілля пытанні, якімі трызніць не толькі паміраючы быкаўскі герой, але і кожны, хто насяляе гэты край.

Здавалася б, усё гэта ў рэчышчы ранейшых быкаўскіх змрочна-тупіковых сітуацый. Але ў "Ваўчынай яме" з'яўляецца і новы матыў — матыў вяртання да людзей, якімі б цяжкімі ні былі наступствы гэтага вяртання. Гэта адзінае жаданне Салдата, які на парозе самотнай смерці зразумеў, што страшней зоны нічога няма. Але, можа быць, шанц вырвацца з зоны радыяцыі і адчужэння, вярнуцца да цывілізаванага свету людзей і ёсць тое адзінае выйсце не толькі для паасобных людзей, але і для ўсяго нашага краю, нашага народа. Можа быць, гэта адзіны наш шанц, каб выжыць?..

**Галіна ТЫЧКА**

# Ад уніі да нацыянальнай царквы

Аўтар кнігі "Унія. Дзяржаўнасць. Культура", што ў жанравых адносінах вызначана як "філасофска-гістарычны аналіз" (выпусціла яе выдавецтва "Беларуская навука"), Сямён Падокшын — доктар філасофскіх навук, вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута філасофіі і права Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР у галіне навукі. Займаецца і праблемамі гісторыі філасофіі і грамадска-палітычнай думкі, даследуе культуру, філасофію і гісторыю Беларусі. С. Падокшын выдаў манаграфіі "Реформация и общественная мысль Белоруссии и Литвы", "Скорина и Будный: Очерк философских взглядов", "Франциск Скорина", "Філасофская думка эпохі Адраджэння ў Беларусі".

Новая праца С. Падокшына "Унія. Дзяржаўнасць. Культура" — працяг даследчыцкіх памкненняў аўтара ў вывучэнні найбольш важных і па-ранейшаму актуальных тэм нацыянальнай гісторыі. А да іх гісторыя уніяцкага рэлігійна-царкоўнага руху адносіцца даўно. Гэтай праблеме прысвечана шмат літаратуры, у тым ліку і даследаванні апошняга часу, якія і называе С. Падокшын: "Уніяцкая царква ў культурна-гістарычным развіцці Беларусі (1596—1839)", калектыўнае даследаванне "З гісторыі уніяцтва ў Беларусі (да 400-годдзя Брэсцкай уніі)", матэрыялы міжнародных навуковых канферэнцый "Культура народаў ВКЛ і Беларусі XIII — пачатку XX ст.", "Царква і культура народаў ВКЛ і Беларусі XIII — пачатку XX ст.".

Ацэнкі гэтай з'явы палярныя, нярэдка рэзка супрацьлеглыя. Аднак нельга не знайсці шэраг пазітыўных момантаў, значэнне якіх асабліва вырастае з сучаснага пункту гледжання. Гэта найперш дзейнасць уніяцкай царквы па развіцці культуры, адукацыі, кнігадрукавання, архіўна-бібліятэчнай справы, а таксама мастацтва. Адна з галоўных праблем, звязаных з уніяй, праблема нацыянальнай царквы. С. Падокшын не пагаджаецца з меркаваннем, што "хрысціянская царква таго або іншага народа, той або іншай краіны не мае нацыянальнасці і можа з'яўляцца толькі аўтакефальнай".

У сувязі з гэтым аўтар даследавання піша: "Зусім правамернай з'яўляецца пастаноўка праблемы нацыянальнай беларускай царквы, на статус якой на працягу многіх стагоддзяў прэтэндавалі праваслаўная, каталіцкая, пратэстанцкая і уніяцкая цэрквы. Дарэчы, праблема гэта закранаецца ў шэрагу публікацый апошніх гадоў, у тым ліку ў артыкулах Леаніда Лыча і Івана Чароты". С. Падокшын мае на ўвазе публікацыі, змешчаныя на старонках "ЛіМа" 7—14 сакавіка і 6 чэрвеня 1997 года.

Кніга пабудавана такім чынам, што лёгка адразу спасцігнуць як сэнс праблемы, узятай за мэту даследавання, так і глыбіню яе, а таксама актуальнасць. С. Падокшын імкнецца пісаць і даходліва, і аргументавана, бо арыентуецца на чытача рознай падрыхтоўкі. Гэтае выданне, як сказана ў "Прадмове", "прапануецца дзяржаўным і грамадскім дзеячам рэспублікі, выкладчыкам, студэнтам, аспірантам гуманітарных факультэтаў універсітэтаў і іншых вышэйшых навучальных устаноў, выкладчыкам і вучням старэйшых класаў сярэдніх школ і ліцэяў у якасці дапаможніка па айчыннай гісторыі, культуралогіі, рэлігіязнаўстве, паліталогіі, гісторыі філасофіі, а таксама ўсім тым, хто проста цікавіцца закранутымі ў кнізе праблемамі".

Першы раздзел працы "Пастаноўка пытанняў" — уводзіны ў праблему. Аўтар аргументуе важнасць яе сёння і неабходнасць больш дэталёвага асэнсавання. У наступным раздзеле "Шлях да уніі" разглядаюцца перадумовы уніі, гаворыцца пра пачатак дзяржаўна-царкоўнага саперніцтва паміж Вільняй і Масквой, уніяцкую дзейнасць вялікіх князёў, раскрываецца станаўленне вялікадзяржаўнай ідэалогіі і г. д. І, канечне, размова ідзе пра каралеўскі універсал 24 верасня 1595 года, у якім афіцыйна абвяшчалася аб уніі каталіцкай і праваслаўнай царквы.

Нарэшце, раздзел "Брэсцкая царкоўная унія: увядзенне і вынікі". Бадай, найбольш грунтоўны, аргументаваны, насычаны разнастайнымі звесткамі, што тычыцца праблемы. І ў меру палемічны, але С. Падокшын будуе тыя ці іншыя высновы на падставе глыбокага пранікнення ў сутнасць пытання. Важкасць даследчыцкая думка набірае і тады, калі аўтар вяртаецца да сённяшняга дня.

Заключны, дзесяты падраздзел гэтага раздзела так і называецца — "Праблема нацыянальнай беларускай царквы". "Які сэнс мы ўкладваем у паняцце "нацыянальная царква?", — задае ён пытанне і адказвае: "Па-першае, гэта легітымна незалежная царква (у той ці іншай форме), якая, не парываючы сувязей з роднаснымі і вышэйстаячымі царкоўнымі структурамі, здольна прымаць самастойныя рашэнні. Па-другое, гэта царква, якая, не ўступаючы ў супярэчнасць з веравучэннем і культам, зыходзіць у сваёй дзейнасці з нацыянальных інтарэсаў, г. зн. з надзённых інтарэсаў народа, грамадства, дзяржавы, і ў той жа час не апускаецца да ролі прыслужніцы, апалагета ўлады. Гэтая царква здольная выконваць ролю духоўнага настаўніка нацыі, носьбіта высокіх маральных і грамадзянскіх ідэалаў і ў той жа час супрацьстаяць уладзе, калі яе дзейнасць разыходзіцца з гэтымі ідэаламі".

Адпаведна ўзнікае пытанне: "Дык ці стала уніяцтва нацыянальнай царквой?" Наконт гэтага у С. Падокшына такое меркаванне: "На наш погляд, існавала толькі тэндэнцыяператварэння уніяцтва ў нацыянальную беларускую царкву, але перашкодай у рэалізацыі гэтай тэндэнцыі з'явіўся шэраг прычын, сярод якіх паланізацыя і каталізацыя "вярхоў", забарона уніяцтва на Полацкім царкоўным саборы 1839 г. і інш. Урад Расійскай імперыі не даў магчымасці уніяцтву ператварыцца ў нацыянальную рэлігію".

Выйсце аўтар кнігі бачыць у тым, "каб звярнуцца зноў да выпрацаванай у XVI ст. рэнесансна-гуманістычнай, па сутнасці сваёй скарынаўскай, мадэлі — аб'яднання ўсіх існуючых канфесій на падставе беларускай ідэі і ўзаемнай талерантнасці". На гэтым даследаванне і заканчваецца.

У С. Падокшына, зразумела, знойдуцца і апаненты, з адным, думаецца, пагодзяцца ўсе, каму неабыякавы лёс Беларусі, лёс нацыі — царква павінна служыць нацыянальнай ідэі, аб'ядноўваць грамадзян нашай краіны ў імя яе.

**Андрэй ЯВОРСКІ**

## "Чорнае святло"

Лявон Неўдах — родам з вёскі Радчыцк Столінскага раёна, скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Цяпер працуе галоўным рэдактарам наваполацкай гарадской газеты "Хімік". Вядомы як празаік. Друкаваўся ў часопісе "Маладосць", альманахах "Дзвіна", "Край", штотыднёвіку "Літаратура і мастацтва". Выдаў у 1989 годзе кнігу "Формула дабрыні".

І вось — першы паэтычны зборнік Л. Неўдаха "Чорнае святло", выпушчаны "Беларускім кнігазборам". Лірычны герой паэта — увесь у трывожным роздуме, які не пакідае яго ні на хвіліну. Ды як супакоіцца, калі ў жыцці столькі неўладкаванасці, а ў сваёй краіне нярэдка адчуваеш сябе выгнаннікам.




"Выгананнік" называецца і верш, што стаіць у пачатку кнігі:

*Мне шмат што ў свеце*
*трэба зразумець.*
*Хачу душы пакрыўджанай здароўя*
*І болей за радзіму не хварэць*
*Хранічнаю сярмяжнаю любоўю.*

*Хачу на роўных з Богам гаварыць.*
*Аднак і тут ці буду я пачуты?*
*Паўвека ўжо як ён дае мне жыць.*
*А дзе жыццё?..*
*Усё — адны пакуты.*

І так сцвярджаць лірычнаму герою ёсць падставы. Яго гняце нярадасная рэчаіснасць, яму няўтульна там, дзе ён не знаходзіць паразумення. Яму скрушна, калі няволіцца душа. А спадзяванняў на лепшае як быццам і няма: "Радзіма ледзьве дыхае цяпер — Сыны і дочкі разграблі багацце". І ён адчувае сябе чужым у сваім доме:

*На плошчы Вольнасці стаю*
*я сярод іх*
*Выгнаннікам без роду і рахункаў*
*І з вуснаў злізваю засохлы след крыві,*
*Як успамін ад даўніх пацалункаў.*

А заспакоенасць ён знаходзіць там, дзе, бадай, і кожны чалавек: у куточку, які найбольш блізкі і дарагі.

Праўда, у Л. Неўдаха два такія куткі на зямлі Бацькаўшчыны і пра абодва ён не забывае ў вершах. Першы, канечне ж, зямля маленства: "Мяне па шчасце не сарве ў Амерыку — Гарыньскія трымаюць карані". Да зямлі маленства ён пастаянна і імкнецца душой. Найлепшае сведчанне — верш, што так і называецца — "На Брэстчыне":

*Рамонкавай ячнаю*
*Свірчыць патэльня луга.*
*Сняданак свой адвечны*
*Зап'ю вадою з Буга.*

*І ўстану мужам-волатам*
*Для прозы і кахання.*
*Займею я не золата,*
*А ўдзячнасць і прызнанне.*

*— То ж гэта ўнук Андрэеў*
*І сын з Дабрыняў Пётры,*
*Які пры Польшчы сеяў*
*Спагаднасць да гаротных.*

*Ён не забыўся пра радню...*
*...Ад гэткіх слоў заплачу.*
*Я засяваю дабрыню...*
*Каб жа сабраць удзячнасць!*

Ды не забывае, што Дзвіна стала "ракой жыцця, майго // Маёй любові". І такое натуральнае прызнанне гучыць: "Не спасціг цябе, зямля Беларусі, // Але ў пояс табе я пакланюся, // За жывыя туманы Боскай літасці — // Ад Заходняй Дзвіны і да Прыпяці".

Лявон ЮРЧЫК

ПАЭЗІЯ

Сяргей ГРАХОЎСКІ



# Аптымістычны песімізм

*Калі ў шаноўнага чытача хопіць цярплівасці і жадання дачытаць гэтыя вершы, прашу не лічыць мяне безнадзейным песімістам. Каб быў такім, не вытрываў бы доўгіх пакут і выпрабаванняў, не дайшоў бы да 86-й мяжы. Я люблю жыццё, люблю людзей, нашу зямлю і з жалем думаю, што прыйдзецца з усім любым развітацца. Такім роздумам і болем прадыктаваны гэтыя вершы.*

АЎТАР

●

Memento mori

***Алены, Броні і Надзеі,***
***Хаваліся мы калісь, як зладзеі,***
***За шатамі то бэзу, то язміну***
***У самую шчаслівую хвіліну.***

***Як толькі нашы сэрцы затрымцелі,***
***Не зразумелі мы, чаго хацелі —***
***Цягнуліся да вуснаў вусны,***
***І першы пацалунак быў спакусны.***

***Гарачыя дрыжалі рукі,***
***Не ведаючы, ад якое мукі,***
***Жытнёвай сцежкаю хадзілі***
***да світання,***
***Сціраючы расінкі развітання.***

***Раскідалі нас нечаканы лёсы,***
***Гады пасерабрылі вашы косы,***
***А я запомніў вас па школе***
***І не забыў нікога і ніколі.***

***Даходзілі часамі пагалоскі,***
***Што зніклі вы, хто з горада,***
***хто з вёскі...***
***У полі наша зрэзана калоссе,***
***І нас на свеце мала засталося.***

***Даходзяць сумныя часамі весткі***
***То ад унука, то нявесткі,***
***Што я шукаю вас дарма,***
***Што вашы сцежкі замяла зіма.***

***А я вас юнымі запісваю у святцы***
***І стаўлю свечкі Божай Матцы.***
***За вамі ўслед да Бога данясу***
***І вашы воблікі, і вашую красу.***

31/III—99

## Сустрэча ў пекле з Мураўёвым

Памяці К. КАЛІНОЎСКАГА

*... Ніяк не могуць слоў*
*Забыць маіх: што я хоць Мураўёў,*
*А толькі гонар выпаў мне належыць*
*Да Мураўёвых, не да тых, якіх*
*Калісьці вешалі, а да жывых,*
*Прыбыўшых з місіяй караць і вешаць.*

А. Куляшоў "Хамуціус"

***Не ведаю, ці сон з галюцынацыяй***
***На схіле невясёлых дзён***
***Мяне, заморанага працаю,***
***Звалілі, і прысніўся сон:***
***Мяне, нібыта, ў Вільні секлі***
***Пасля прыдушаных баёў,***
***І вось я апынуўся ў пекле,***
***І тут, нібыта, Мураўёў.***
***Нарэшце собіла сустрэцца.***
***"Прабачце, пане генерал,***
***Пастаўце тут смалы вядзерца***
***І зробім за катлом прывал.***
***Я — не вучоны, не аратар,***
***Збіраўся больш за сто гадоў***
***Зірнуць, які быў губернатар***
***Літоўска-беларускіх гарадоў,***
***Паветаў, валасцей і вёсак.***
***Хоць чуў нямала пагалосак:***
***Казалі, што пры вас народ***
***Быў запалохана-цярплівы,***
***Бо наваліўся люты зброд,***
***Багаты, сыты і шчаслівы.***
***Ён вытрасаў апошні грош,***
***Хаваючы запасы ў склепе.***
***Жылося сейбіту найгорш,***
***А прыхадню — за ўсіх найлепей.***
***Усё ішло на поўны ход:***
***Народ застаўся без'языкі,***
***Непаслухмяных дзікі зброд***
***Лупіў за плач, лупіў за крыкі.***
***Служакі добра разумелі,***
***Каму яны шліфуюць зад,***
***І самі з боязі нямелі,***
***Калі траплялі неўпапад,***
***Выслужваліся, жыравалі,***
***І балявалі, як паны,***
***І "цёмным" краем кіравалі***
***Чыноўнікі "большой страны".***
***І кожны генералу верыў,***
***А на людзей глядзеў сычом,***
***І Кастуся, і касінера***
***Скасіў пятлёю і мячом.***
***У скутых голадам і страхам***
***Ад дум кружыліся галовы,***
***Каб генерал зрабіўся прахам,***
***І не ўскрасалі мураўёвы.***
***А вы настолькі папулярны,***
***Што людзі аж да гэтых пор***
***Ваш ведаюць парадак карны***
***І лютасць лічаць за узор".***
***— "Па глупству быў***
***я дзекабрыстам,***
***Умеў з Рылеевым дружыць,***
***А зразумеў, — паслаўся лістам,***
***Каб Бенкендорфу паслужыць.***
***Выконваў кожныя загады***
***Што часам лютымі былі,***
***Каб толькі мужыкі да ўлады***
***І Піцера не дапаўзлі".***
***— "А ці былі на вас паклёпы,***
***Скажыце шчыра, генерал?"***
***— "Я быў узорам для Еўропы...***
***Усё! Закончыўся прывал.***
***Бярыце шуфель і рыдлёўку,***
***А я — вядзерца і пілу,***
***Каб не засек Люцыфер зноўку***
***І каб не боўтнуў у смалу.***
***А што у вас цяпер чаўпецца***
***Без Генерала і Цара,***
***Ці, як і калісь, вуліца завецца***
***У гонар віленскага ўладара?"***
***— "Скажу вам шчыра:***
***акрыяў народ,***
***Зламаў ярмо і скінуў з выі,***
***За Каліноўскім з году ў год***
***Ідуць сыны яго жывыя,***
***Каб не гібець у вечнай скрусе,***
***Каб ведалі на ўсёй Зямлі***
***Імя і гонар Беларусі,***
***А вас клянуць, як і клялі".***

27/II—27/III — 1994 г.

●

***Не думаў, што асіліць боль мяне,***
***Лепш келіх разаб'ю***
***атрутнае маркоты,***
***І адшукаю на крыштальным дне***
***Адзін адказ — якая ты і хто ты.***

***З дакорам узіраешся ў мяне***
***Не з дальняй далечы, а тут ты,***
***І ўсё ж не веру, што папрок кране***
***Салоджанай пілюляю атруты.***

***А я ж цябе заўжды адну чакаў***
***За брамкаю, на сцежцы, на парозе,***
***І ныла заінелая шчака,***
***А сэрца не астыла на марозе.***

***Мае гады знікаюць, як туман,***
***А ты была — і шчасце, і пакута,***
***Не верылася толькі,***
***што падман***
***Паверне ўсё бязлітасна і крута.***

***Вось падыходжу да апошняй даты,***
***Адзначаны крыжамі ўсе сляды,***
***І толькі не вярну адзінай страты,***
***Якую так бярог усе гады.***

25/X—98

●

***Я — малады, пакуль жывая маці:***
***Ссівелага яна заве: "Сынок",***
***І тупае, і тупае па хаце,***
***Здымае з куфра клямку і замок.***

***Усё адчынена — і сэрца,***
***і шуфляды,***
***Дыміцца з цёплай бульбай чыгунок.***
***Я ўзрушаны, расчулены і рады,***
***Пачуўшы зноў: "Дзіцятка, і сынок".***

***І за надзеяй свеціцца надзея,***
***Хоць непрыкметна час бяжыць,***
***А мне здаецца — маці маладзее***
***З адзінай прагай жыць і жыць.***

***А грымнуў гром. І маці рукі***
***На сэрцы склала без пары...***
***Я не забуду мудрае навукі***
***І зразумею, што і я стары.***

***Расстануся з хацінаю пустою,***
***І ў белы свет падамся сіратою.***

3/IV—99

●

***Хацеў бы пастаяць***
***на тым узгорку,***
***Дзе завяршыцца лёс мой горкі.***
***Там жвір, ці дзёран, ці пясок,***
***А, можа, капае празрысты сок***
***З вясной параненай бярозы,***
***Як адзінокай плачкі слёзы,***
***І коціцца у глей настылы,***
***А побач — помнікі, крыжы, магілы:***
***Тут сцюардэсы,***
***што загінулі дарма,***
***Міністры і пілоты, а радні няма,***
***Бо ў кожнага: свая прапіска:***
***Звычайныя — ў Калодзішчах,***
***Вядомыя — з чынамі блізка.***
***А я, відаць, задам радні нагрузку,***
***Каб адшукалі месца мне***
***у Глуску,***
***Бо там я буду адчуваць штодня,***
***Што побач і сябры, і блізкая радня.***
***Адтуль я ў будні і у святы***
***Страху пабачу роднай хаты.***
***У месячную ноч***
***спавіты летуценнем,***
***Я прамільгну празрыстым ценем.***
***Мільёнаў у радні на помнік***
***не збярэцца.***
***Найлепшы помнік,***
***калі памяць застанецца.***

2/IV—99

## Салодкае віно

***Давай з табой на развітанне***
***Дап'ём салодкае віно,***
***Успомнім першае спатканне,***
***І ўсё, што канула на дно,***

***Як разам салаўінай ноччу***
***Збівалі срэбную расу,***
***Як я шаптаў, што не сурочу***
***Тваю дзявочую красу.***

***Ты ўпершыню сказала: "Любы",***
***Як толькі маладзік зайшоў,***
***Твае асмужаныя губы***
***Я, не шукаючы, знайшоў.***

***Так праляцела паўстагоддзя,***
***Нібыта у нямым кіно.***
***Давай цяпер у поўнай згодзе***
***Дап'ём салодкае віно.***

26/VII—94
Іслач

●

***Жыццё дагарае, як свечка,***
***Слязінкамі капае воск,***
***А ў сэрцы — то збой, то асечка***
***Закрэслілі колішні лоск.***

***Мільгаюць гады за гадамі,***
***У лампадцы агеньчык дрыжыць,***
***І верасень шэпча садамі,***
***Што варта на свеце пажыць,***

***Паставіць не кропку, а коску,***
***Адчуць і спакой і красу,***
***І кроплю гарачага воску***
***Змахнуць са шчакі, як слязу.***

***Сатлелі даўно падваліны,***
***Становяцца сцежкі даўжэй,***
***Бягуць за хвілінай хвіліны,***
***І кожная з іх даражэй.***

красавік 1999

ПРОЗА

Сцяпан СЯРГЕЙ

# МАРА СВЕТЛАЯ



АПАВЯДАННЕ

ВІКТАР ЗАЙШОЎ у свой нумар, распрануўся, павесіў мокрую куртку на вешалку, зняў чаравікі і ў світэры, у джынсах прылёг на засланы стракатым пакрывалам рыпучы ложак. Кароткі зімовы дзень заканчваўся. У пакоі панаваў вечаровы паўзмрок. За вакном кружыліся буйныя сняжынкі, прыліпалі да шыбаў і, ператвараючыся ў кропелькі вады, паволі сцякалі па брудным шкле. Віктар заплюшчыў вочы. Звыклае пачуццё тужлівай, халоднай адзіноты зноў сціснула яго сэрца. Цяпер ён ужо шкадаваў, што згадзіўся ўзяць пуцёўку і прыехаў у гэты санаторый.

Санаторый, славуты сваёй мінеральнай вадой і лекавымі гразямі, месціўся ў перадгор'і Карпат. Шматпавярховыя, падобныя адзін да аднаго гмахі санаторных будынкаў пыхліва ўзвышаліся над адрэстаўраванымі, пад чырвонаю чарапіцаю з калонамі і порцікамі двух- і трохпавярховымі карпусамі даўнейшай забудовы, шматлікімі павільёнчыкамі крамаў і кавярняў, над купалам уніяцкай царквы. Крыху ўбаку раскінуўся жылы раён з сучаснымі панэльнымі дамамі, якія чаргаваліся з прыватнымі домікамі з садочкамі і агародамі. Мабыць, вясной, калі ажывалі клёны, ліпы і старыя дубы ў маляўнічым ландшафтным парку, калі ў палісадніках на клумбах зацвіталі кветкі, а над залітымі вясновай зеленню схіламі пагоркаў трымцела блакітнае марыва, тут было вельмі прыгожа. Але цяпер, зімою, каторы ўжо дзень неба было зацягнута нізкімі шэрымі хмарамі і амаль бесперапынна ішоў мокры, адліжны снег, які хутка раставаў і ручаі бруднай з мазутнымі плямамі вады імкліва збягалі па стромкіх, пакручастых вуліцах, тут было змрочна і няўтульна.

Магчыма, пры іншых абставінах ён адмовіўся б ад гэтай пуцёўкі — усё ж не надта хацелася браць водпуск зімою, — але ў апошні час Віктар адчуваў, што ў ім штосьці надламалася. Маральная стомленасць ад мітуслівай, нялюбай працы, якая назапашвалася гадамі, дайшла да апошняй мяжы, да нейкага фізіялагічнага адпрэчвання. Ён, перасільваючы сябе, ішоў раніцою на работу, прымушаў сябе выконваць свае абавязкі: кудысьці ехаў, камусьці званіў, прасіў, сварыўся, дамаўляўся... А ў канцы дня настолькі стамляўся, што, прыходзячы дамоў, у яго ўжо не хапала сілаў заняцца чымсьці другім. Не было цеплыні і душэўнага камфорту і ў сямейным жыцці. Ды якая можа быць цеплыня ў сям'і, дзе няма дзяцей? У яго былі даволі роўныя і, калі можна так сказаць, нейтральныя адносіны з жонкаю. Наташа — жанчына разумная і інтэлігентная, разумела яго, адчувала, што з ім адбываецца, і старалася стварыць у доме атмасферу ўтульнасці і спакою. Віктар быў удзячны жонцы за гэтую яе далікатнасць і турботу, але не больш таго.

І калі Таццяна Іванаўна — старшыня іхняга прафкама прапанавала яму пуцёўку і, гледзячы на яго стамлёны, асунуўшыйся твар, з мяккай, спагадлівай усмешкай сказала: "Віктар Фёдаравіч, вам абавязкова трэба адпачыць. Санаторый выдатны, а пуцёўка амаль бясплатная — усяго пятнаццаць працэнтаў ад кошту. Так што бярыце і не думайце". І Віктар, доўга не раздумваючы, згадзіўся.

Атрымаўшы адпускныя і выкупіўшы ў прафкаме пуцёўку, ён ужо на наступны дзень раніцою садзіўся ў прычапны вагон цягніка "Санкт-Пецярбург—Львоў". Пасажыраў было нямнога. Яго сусед па купэ — пажылы калгасны аграном з Магілёўшчыны Мікалай Іванавіч, таксама ехаў у той жа санаторый, што і Віктар.

— Я ўжо другі раз еду ў гэты санаторый. Першы раз мне вельмі спадабалася: кормяць нядрэнна, нумары на два чалавекі, а галоўнае — добрае лекаванне. Я нядрэнна-такі падлячыўся тады. Праўда, гэта было яшчэ пры Саюзе, а як там цяпер, — Мікалай Іванавіч паціснуў плячыма, — хто іх ведае?

На ўкраінскай мяжы, калі памежнікі правяралі дакументы, высветлілася, што ў іх пашпартах старога савецкага ўзору няма адзнак аб беларускім грамадзянстве. Малады ўкраінскі сяржант з нахабнымі, лупаватымі вачыма ўгледзеў у гэтым парушэнне закона і прыгразіў тут жа высадзіць іх з цягніка:

— Збірайце рэчы і выходзьце на перон, мы адправім вас назад у Беларусь. У вас несапраўдныя дакументы.

Віктару стала чамусьці смешна. Ён прыгледзеўся да гэтага маладога ў новенькай уніформе хлопца і падумаў, што дзесяці даляраў будзе дастаткова, каб астудзіць службовае рвенне гэтага новага Карацупы. Але справа да хабару не дайшла. Яго сусед, усвядоміўшы, што сяржант не жартуе, узняў такі вэрхал і крык, што збунтаваў увесь вагон. На шум прыбег афіцэр-пагранічнік, даведаўся ў чым справа, і махнуў рукой:

— Ды пакінь ты іх у спакоі, няхай едуць!

Вагон мякка пагойдваўся на рэйках. За вакном цягнуліся заснежаныя, парослыя хмызняком нізіны Украінскага Палесся. Шэры, скупы на святло студзеньскі дзень навяваў сум і невясёлыя думкі. Сусед ужо хроп, адвярнуўшыся да сцяны і Віктар з усмешкай падумаў, што з нервамі ў калгаснага агранома ўсё ў парадку: толькі што крычаў на ўвесь вагон, а зараз спіць, як пшаніцу прадаўшы.

У санаторыі Віктар пасяліўся ў адным нумары з вясёлым трыццацігадовым халасцяком — Валодзем. Валодзя, як удзельнік Афганскай вайны, ужо не першы раз адпачываў у гэтым санаторыі і ведаў тут, як кажуць, усе хады і выхады. Родам з Палтаўшчыны, ён гаварыў па-руску з мяккім украінскім акцэнтам. Разам з тым Валодзя добра размаўляў і на сваёй роднай украінскай мове, якая тут на Львоўшчыне была сапраўднай гаспадыняй у сваёй хаце. У санаторыі пачынаючы ад галоўнага ўрача і да ніжэйшага медыцынскага персаналу — усе размаўлялі па-ўкраінску. Усё справаводства, надпісы, аб'явы — выключна на дзяржаўнай мове. І зноў Віктару было крыўдна і сорамна за сваіх землякоў, якіх было ў гэтым санаторыі ці не больш палавіны, а вось пачуць ад іх беларускае слова — вялікая рэдкасць.

Ужо добра сцямнела і Віктар задрамаў. Калі ў пакой зайшоў Валодзя і ўключыў святло, ён, прачнуўшыся, прыкрыў вочы рукою.

— Адпачываеш, Фёдаравіч? Прабач, што разбудзіў, — Валодзя паставіў на стол бутэльку, выцягнуў з кішэні загорнутую ў паперу каўбасу. — А вось і кампенсацыя за маральны ўрон. Давай вып'ем за дружбу народаў!

Ён парэзаў каўбасу, паставіў на стол шклянкі і дадаў:

— Я ўжо крыху "ўкалоўся" ў бары, ды пры такім надвор'і трэба дозу павялічыць для прафілактыкі ад прастуды. Вось возьмем па сто грамаў, сходзім павячэраем і на танцы! Прабач, Віктар, але я гляджу, штосьці ты раскіс ад гэтага сырога надвор'я. Трэба сёння крыху развеяцца, а то, крый Божа, "згарыць" твая пуцёўка. А жанчыны тут ёсць — ого-го! Пальчыкі абліжаш!

Віктар усміхнуўся: "Ну што ж, Валодзя мае рацыю. Сапраўды, трэба пачынаць жыць паўнацэнным жыццём адпачываючага. Узяўся за гуж..."

У танцавальнай зале ў мяккім, блакітным паўзмроку кружыліся пары. Ля сцен стаялі адпачываючыя, у асноўным жанчыны рознага ўзросту і прыгажосці. Яны з прыхаванай цікавасцю і нейкай насцярожанасцю паглядвалі на кожнага новага мужчыну, які заходзіў у залу. Віктару заўсёды рабілася неяк няёмка і шкада тых жанчын, якія заставаліся падчас чарговага танца адзінока стаяць ля сцяны, з усёй сілы стараючыся прыдаць твару абыякавы выраз. Ён у такіх выпадках сярод гэтых жанчын выбіраў адну з самым адчайным і сумным позіркам і запрашаў яе на танец. Яшчэ ў інстытуце сябры за гэтую яго звычку празвалі "альтруістам" і нязлосна пасмейваліся над яго дзівацтвам.

Пасля двух танцаў да яго падышоў Валодзя:

— Пайшлі, Віктар, перакурым.

Яны выйшлі на калідор, закурылі.

— Я тут пазнаёміўся з прыгожымі жанчынамі. Жывуць у адным нумары, — Валодзя па-змоўніцку падміргнуў Віктару. — Адна з іх зацікавілася табою. Так што зараз пойдзем знаёміцца.

— Ну што ж, калі прыгожая, то давай — пазнаёмімся, — Віктар усміхнуўся. — Я тваёму густу давяраю.

— Не пашкадуеш, Віктар, не пашкадуеш! — Валодзя ўзбуджана паляпаў яго па плячуку. — А калі ўсё атрымаецца, то гэта будзе выдатны варыянт: маленькая начная рэкіроўка — і ніякіх праблем!

Але спадзяванні Валодзі на гэткую амаль сямейную ідылію не спраўдзіліся. Калі яны заходзілі ў залу, Віктар на парозе сутыкнуўся з прыгожай стройнай жанчынай у блакітнай сукенцы і модных фірменных акулярах. Ён адступіў убок, прапускаючы яе. Жанчына ўзняла галаву, глянула рассеяна на яго, потым спынілася і, азірнуўшыся, уважліва паглядзела яму ў вочы.

Віктара нібы праціла токам. Ён паволі зрабіў крок ёй насустрач:

— Ніна?.. Не, не можа быць... Ніна!? Як ты тут?..

— Віця?.. Божа мой, Віця... — яна схапіла яго за руку, радасна-разгублена ўсміхалася. — Вось дык сустрэча!

Ніна ўважліва разглядвала яго з той жа радасна-разгубленай усмешкай:

— Пасівеў... Колькі ж мы не бачыліся? Гадоў пятнаццаць ці больш?..

— Дзевятнаццаць гадоў, Ніна, дзевятнаццаць гадоў...

— Божа, як бяжыць час! Ужо дзевятнаццаць гадоў!

Ён заўважыў у яе вачах слёзы, узяў яе за руку:

— Пайшлі адсюль, ад гэтага тлуму. Я так рады, што сустрэў цябе. Я хачу ведаць, як ты жывеш?..

— Так! Пайшлі! Ведаеш, пайшлі да мяне. У мяне аднамесны нумар — ніхто не перашкодзіць. Зварым каву, спакойна пагаворым.

— Выдатна! Толькі я на хвілінку заскочу ў свой нумар. У мяне ёсць бутэлька шампанскага. Трэба ж нам адзначыць такую сустрэчу.

Ніна жыла на трэцім паверсе ў аднамесным утульным нумары. Ля акуратна засланага ложка стаяла мяккае крэсла, у куце бялеў халадзільнік, на тумбачцы ля акна — каляровы тэлевізар.

— Усё ж умеюць прыгожыя жанчыны ўладкоўвацца ў гэтым жыцці. Апартаменты, як у шматзоркавым гатэлі, — пажартаваў Віктар.

— Ды гэта муж стварае мне ўмовы. Ён жа ў мяне начальнік — дырэктар завода.

Пакуль Ніна заварвала каву, Віктар адкрыў шампанскае, наліў у келіхі:

— За сустрэчу, Ніна. Я так рады цябе бачыць, я так рады... Ды толькі ці не сон усё гэта? Раней я думаў, што такое бывае толькі ў кіно ці ў дрэнных раманах. Але каб такое наяве, са мной?..

Ён, трымаючы ў руцэ келіх, задумліва глядзеў на яе. Ледзь прыкметныя маршчынкі ля вачэй не старылі яе прывабны, мілавідны твар. А гледзячы на яе гнуткі стан і лёгкія рухі, цяжка было паверыць, што ёй ужо за сорак. "Сорак адзін, яна ж на адзін год маладзейшая за мяне", — удакладніў у думках Віктар.

Ён глядзеў на прыгожую, стройную жанчыну і раптам, на імгненне прыжмурыўшы вочы, убачыў перад сабой пятнаццацігадовую тоненькую дзяўчынку з тоўстаю касой у блакітнай кароценькай сукенцы. Дзяўчынка затрымалася ў праёме дзвярэй вясковага клуба і трошкі прыжмурваючы вочы, аглядвала залу. Ён, як быццам упершыню ўбачыў яе, і адчуў, як трывожна-салодка варухнулася ў грудзях сэрца: "Божа, якая яна прыгожая... Ніна... Ніначка!.."

Быў канец жніўня. Стаялі апошнія цёплыя дзянькі адыходзячага лета. Вечарамі над вёскай віселі вялікія яркія зоркі. У садах спелыя малінаўкі і ранеты трымалі ў сваіх пругкіх целах шчаслівую таямніцу лета, якая не давала спакою вясковым хлапчукам. Трашчала галлё і гулка стукалі аб зямлю сакавітыя яблыкі. І быццам стрэсеныя чыёйсьці нябачнаю рукою ўслед за яблыкамі ў цёмныя сады бязгучна зляталі іскрыстыя знічкі. Свет быў вялікі і цудоўны.

Яны, хлопцы і дзяўчаты, кожны вечар збіраліся ля клуба, і, адчуваючы, што гэта апошнія бестурботныя дзянькі перад школай, весела бавілі час: спявалі, а то і танцавалі пад баян, на якім з нейкім асаблівым натхненнем іграў Віктараў аднакласнік Косцік, ці вось як сёння, глядзелі новы фільм. Колькі прайшло гадоў, ён ужо не памятае аб чым быў той кінафільм, толькі вось назва паэтычна-прыгожая назаўсёды засталася ў яго памяці: "Над намі — Паўднёвы Крыж".

З гэтага жнівеньскага вечара свет зрабіўся для яго яшчэ больш прыгожым і таямнічым. Ён пакахаў. Упершыню. Светлае пачуццё акрыляла і ўзвышала яго юную чыстую душу. І ён раўніва аберагаў, хаваў у глыбіні душы гэты светлы агеньчык свайго першага кахання. Яму было б вельмі балюча, каб хтосьці з сяброў ці родных, а тым больш, сама Ніна неасцярожным словам ці насмешкаю абразілі б гэтае святое для яго пачуццё. Пазней, ён не раз дакараў сябе за нерашучасць, за тое, што так і не змог прызнацца ёй у каханні. Але тады яго юначай, рамантычнай душы было дастаткова таго, што на гэтай зямлі ёсць дзяўчына, якая жыве побач з ім, якая ўпрыгожвае гэты свет і яго жыццё сваёй прысутнасцю.

Часам яму здавалася, што Ніна аб чымсьці здагадвалася. Больш таго, ён адчуваў, што яна таксама як быццам бы неабыякавая да яго. Неяк вечарам яны ішлі разам з кіно. Быў марозны зімовы вечар. Яркія зоркі зіхацелі на чорным аксаміце студзеньскага неба. Яны спыніліся ля яе дома. Ён узяў яе руку ў цёплай рукавічцы, злёгку сціснуў. Ніна сцішылася, узняла галаву і Віктар заўважыў, як пад густымі вейкамі ў вільготных вачах адлюстроўвалася зорнае ззянне. Словы, якія ён столькі разоў прамаўляў сам сабе, тыя галоўныя тры словы "я цябе кахаю", заселі ў горле і ён пачаў несці нейкую лухту пра зоркі, пра Млечны Шлях, пра бясконцасць сусвету...

Ніна ўсміхнулася:

— Ах, Віцька, як многа ты ведаеш. Але ўсё роўна ты — дурненькі! — яна сціснула яго руку, потым даволі моцна штурхнула яго, што ён ад нечаканасці сеў у гурбу снегу, і пабегла па вузкапрамеценай сцяжынцы да ганка.

Ён жа, седзячы ў гурбе снегу, разгублена глядзеў ёй услед і не ведаў, што і думаць.

Закончыўшы дзесяты клас Віктар паступіў у політэхнічны інстытут і восенню паехаў на вучобу ў Мінск. Сталічнае студэнцкае жыццё, багатае на адкрыцці, новыя ўражанні і новых сяброў, зацягнула Віктара з галавой у свой імклівы кругаварот. Не, ён не забыў сваю Ніну. Наадварот, успаміны пра школьнае жыццё, пра дом, пра родную вёску прыдавалі яго каханню да Ніны нейкую асаблівую вастрыню і настальгічны сум. Але ўсё ж падоўгу не бачачы яе, ён адчуваў, што той светлы агеньчык яго першага кахання неяк сцішыўся, прытух у яго сэрцы.

Праз год, закончыўшы школу з залатым медалём, Ніна паступіла ў Кіеўскі універсітэт. Там на Украіне, у Кіеве жылі яе блізкія сваякі, і яна, з'ехаўшы восенню на вучобу, вельмі рэдка прыязджала ў родную вёску.

Сустрэліся яны толькі праз тры гады. Віктар быў ужо на апошнім курсе інстытута, працаваў над дыпломным праектам. Нельга сказаць, што ў яго было шмат вольнага часу, але лекцый у іх ужо не было і ён, засумаваўшы па доме, на цэлы тыдзень прыехаў да бацькоў. Віктар убачыў яе ў клубе на танцах. У вёсцы гулялі вяселле — выходзіла замуж лепшая школьная сяброўка Ніны. І Ніна, захоўваючы вернасць шчыраму школьнаму сяброўству, нягледзячы на занятасць і адлегласць, прыехала павіншаваць яе і парадавацца яе шчасцю.

*(Працяг на стар. 14—15)*

Радзівілаў і Агінскіх, пра Зорыча і Тызенгаўза. Пра Восіпа Казлоўскага, Яўстафія Тышкевіча, Фларыяна Міладоўскага. Пра сем'і Ельскіх, Манюшкаў... Дэманстравалася відэастужка Беларускага тэлебачання, зробленая падчас прэм'еры на фестывалі "Адраджэнне беларускай капэлы" балета "Паланез". Памятаеце? Музыка Міхала Клеафаса Агінскага, грае Камерны аркестр пад кіраўніцтвам Уладзіміра Перліна, танцуюць таксама юныя выканаўцы— навучэнцы харэаграфічнага каледжа...

Дык вось, у інтэлектуальнай сталіцы Польшчы, у прысутнасці спецыялістаў з Ягелонскага універсітэта, Кракаўскай акадэміі музыкі, тэолагаў, музыколагаў, студэнтаў прапаноўваць усё гэта, разважаючы з беларускіх пазіцый, расстаўляючы "беларускія акцэнты", — было рызыкоўна і таму крыху боязна. Уражанне аўдыторыі я ахарактарызаваў бы адным словам: шок! Тым не менш, мяне віншавалі, нават ідзе размова пра тое, каб паўтарыць гэты даклад у Гданьску, у Акадэміі музыкі.

**— Будзем лічыць, што праз такія культурніцкія акцыі беларуска-польскія музычныя стасункі набываюць новую якасць... Але мне вядома, Яўген, што вы спрычыніліся да яшчэ адной акцыі, якая мусіць паспрыяць гэтым стасункам і, да таго ж, забяспечыць выхад нашых кампазітараў на сусветны рынак нотнай прадукцыі.**

— Сапраўды, удалося наладзіць кантакты паміж познаньскім выдавецтвам "Брэвіс" і Беларускім інстытутам праблем культуры, дзе я працаваў перад сваёй творчай стажыроўкай і, спадзяюся, буду працягваць працу. Распачата серыя выданняў пад назвай "Сучасная музыка з Беларусі". Выйшлі ў свет першыя тры нотныя сшыткі, якія я прывёз у Мінск: "Intavolatura" Аляксандра Літвіноўскага для гітары, саната Галіны Гарэлавай "Al fresco" для кантрабаса і фартэпіяна і мая Саната для альта і фатэпіяна. Да кастрычніка выйдуць яшчэ два сшыткі: фартэпіянныя творы Літвіноўскага і мая сімфанічная партытура "Lux aeterna". Адбор твораў рабіла Лідзія Зялінская, вядомая польская кампазітарка, якая ўзначальвае выдавецтва "Брэвіс" і знаёмілася з сучаснай беларускай музыкай на фестывалях у Мінску, дзе была ўжо тройчы.

Нотная серыя "Сучасная музыка з Беларусі" атрымае розгалас не толькі сярод польскіх спецыялістаў, бо выдавецтва мае выхад на рынкі Швецыі, Швейцарыі, Германіі, ЗША, Францыі. Немалаважна ў нашых эканамічных умовах тое, што амаль усе выдаткі ўзяў на сябе польскі бок. Беларускаму давялося толькі аплаціць афармленне вокладкі, якое зрабіў мастак Тадэвуш-Сава Барыслаўскі.

Польскі інстытут у Мінску абяцае дапамагчы зладкаваць у нас прэзентацыю выдавецтва "Брэвіс". Імпрэза плануецца на кастрычнік. Мае адбыцца выстаўка прадукцыі нотнага выдавецтва ў зале Беларускай акадэміі музыкі (пасля чаго "экспанаты" паступяць у бібліятэку акадэміі), а таксама канцэрт з выдадзеных у новай серыі твораў беларускіх кампазітараў. Прагучыць і музыка польскіх калег. У госці чакаем дырэктара выдавецтва Лідзію Зялінскую ды кампазітара Рафала Аўгустына, які актыўна супрацоўнічае з "Брэвісам". Пройдуць перамовы накont працягу серыі, нашы госці змогуць выбраць беларускія партытуры для выдання з улікам попыту на сённяшнім сусветным рынку. Іх крытэрый аб'ектыўны, прыватнае выдавецтва не будзе рабіць штосьці сабе на страты...

А яшчэ ў мяне ёсць мара запрасіць у Мінск спецыялістаў студыі электраакустычнай музыкі з Кракава: Марэк Халанеўскі, напрыклад, мог бы даць канцэрт і правесці майстарклас для беларускіх кампазітараў, якія вымушаны сёння асвойваць камп'ютэр саматугам. У нашым Саюзе кампазітараў, дарэчы, з'явіўся неблагі камплект апаратуры, якая застаецца незапатрабаванай, бо "камп'ютэршчыкаў" сярод нас — адзінкі... Тым часам у польскіх калег ёсць ідэя далучыцца да высакаразвітых у галіне электроннай музыкі еўрапейскіх цэнтраў — Зальцбурга, Штутгарта. Трэцім такім "камп'ютэрным цэнтрам", як яны мяркуюць, стане Кракаў. А мне хацелася б, каб гэты ланцужок з часам прадоўжыў і Мінск...

**— Дзякуй, Яўген, за цікавы аповед.**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

---

**— Вы арыентуецеся на рэйтынг?**

— Заўсёды. Мы супрацоўнічаем з лабараторыяй "Новак". Калі па выніках за квартал, праграма палепшыла свой рэйтынг, то яе ганарарны фонд адразу павялічваецца. Сума ганарару залежыць ад працаздольнасці, творчай выдумкі саміх журналістаў. Сувязь вельмі простая: чым больш рэкламадаўцаў у праграмы, тым большая яе доля ў рэкламным даходзе. Нашая тэлекампанія існуе за кошт продажу праграм і размяшчэння рэкламы. Высокі рэйтынг — ёсць і рэклама. Ёсць рэклама — будзе даход.

Калі згадаць праграму "Эканамікст", то нам даўно ўжо трэба было зразумець, што яна вузкаспецыяльная, далёкая, як кажуць, ад народа. А ўмовы выжывання жорсткія: каманда рэкламадаўцаў укладае грошы ў праграму, якую глядзяць. Гэта няпраўда, што людзей не цікавіць эканоміка. Проста яна павінна быць даступнай для кожнага. Мы доўга думалі і вырашылі змяніць канцэпцыю "Эканамікста": спрасціць мову, знайсці тэмы, цікавыя для ўсіх гледачоў. І, у прынцыпе, мы не памыліліся. Думаю, нашая праграма яшчэ займее другое дыханне. Існуе даследаванне, што тэлепраграма, калі не змяняецца, жыве не больш за тры гады. "Эканамікст" не быў выключэннем. Аднак, змяніўшы форму, пераарыентаваўшыся на іншую аўдыторыю, "Эканамікст" здолеў працаваць і далей. Сёння абноўлены "Эканамікст" выходзіць у васемнаццаці гарадах Беларусі, дзе ёсць кабельнае тэлебачанне, аб'яднанае ў тэлевізійную вяшчальную сетку. Праграма робіцца ў Мінску, потым запісваецца на касеты і рассылаецца па гарадах. "Эканамікст" складаюць як мінскія, так і рэгіянальныя сюжэты, якіх павінна быць не менш за два. Гэта абавязковае патрабаванне. Працэс цяжкі, пастаянныя праблемы з поштай, але галоўнае — прынцып супрацоўніцтва.

Сёлета ў нас выходзіць каля дзесяці праграм. Адзін раз на тыдзень мы сустракаемся са стваральнікамі перадачы. Аналізуем, разбіраем кожны сюжэт, каб развіваць станоўчае ў праграме і своечасова ўбачыць адмоўнае. Я лічу, што гэта праца вельмі важная. Напрыклад, калі мы адчулі, што праграма "Аўта-парк" крыху "застаялася", перастала развівацца, то вырашылі дадаць у мужчынскі калектыў жанчыну. Наогул у мяне ёсць задума цалкам змяняць брыгады: няхай тыдзень брыгада "Абібока" робіць "Аўта-парк", "Аўта-парк" — "Крымінальную хроніку" і г. д.

Часам я сумую па рэпарцёрскай рабоце. Раблю сюжэты для "Абібока", "Эканамікста". У мяне павінна быць маральнае права вучыць іншых. Гэта не зусім прыгожа, калі чалавек вучыць, як рабіць сюжэты, а сам іх не робіць.

Вельмі кепска, што адсутнічае канкурэнцыя паміж тэлекампаніямі і пэўнымі праграмамі. Калі б былі дзве праграмы на аўтамабільную тэматыку, дык наш "Аўта-парк" адразу б актывізаваўся. Мне нічога не застаецца, як толькі стварацъ унутры кампаніі праваканцыйныя сітуацыі, каб людзі імкнуліся хаця б паміж сабой канкураваць.

**— Таццяна, сёння многа кажуць пра стварэнне другога нацыянальнага канала. Ці вырашыць ён праблему канкурэнцыі?**

— Думаю, што так. Але толькі на тых умовах, калі двума каналамі будуць кіраваць людзі розных поглядаў на жыццё. Многія кажуць, што Беларускае тэлебачанне вельмі кансерватыўнае. Аднак з'яўленне каналакканкурэнта вымусіць першы канал рабіць свае праграмы значна лепш. Другі канал — гэта і цудоўная магчымасць перагледзець кадры на БТ. Зараз на БТ ёсць людзі, якія не знайшлі сябе ці ім не далі магчымасці знайсці сябе, і вельмі хацелася б, каб у іх з'явілася "другое дыханне". Наогул каналаў павінна быць многа.

**— Дарэчы, як сёння складваюцца адносіны з БТ?**

— Нармальна. Ужо другі год мы прадаём БТ свае праграмы. Мы — вытворцы, яны — пакупнікі. Нарэшце, продаж праграм зрабіўся арганізаваным і цывілізаваным. З БТ у нас добрыя дзелавыя адносіны, мы імкнёмся не падводзіць іх, а яны — нас. Ёсць дамовы, ёсць пэўныя абавязацельствы і кожны імкнецца іх выканаць. Вядома, кожная тэлекампанія марыць пашырыць свае гарызонты. Адна справа — унутраны рынак, зусім іншая — знешні. З местачковымі праграмамі на яго не выйдзеш. Там іншыя магчымасці, іншыя грошы і, нарэшце, іншая якасць вяшчання. Сёння ўвесь свет працуе на лічбавай апаратуры. Дасягненні тэхнікі адразу ж укараняюцца ў тэлебачанне. Каб патрапіць на гэты рынак, трэба працаваць "на лічбе", бо інакш з табой ніхто і размаўляць не будзе: яны нават не змогуць прагледзець тваю касету з запісам праграмы.

**— Якое ж яно — тэлебачанне канца XX стагоддзя?**

— Я буду суб'ектыўнай. На мой погляд, тэлебачанне 90-х нічым не адрозніваецца ад тэлебачання 70-х. Змяняецца тэхналагічная база, але запатрабаванні людзей застаюцца тымі ж, і сёння тэлебачанне імкнецца задаволіць іх. Новае — гэта добра забытае старое. Многія цяпер зноў пачынаюць працаваць у прамым эфіры. Але раней тэлебачанне працавала толькі ў прамым эфіры — нават спектаклі ішлі адразу "наўпрост". "Ток-шоу", тэлемасты, "душэўныя" праграмы — усё гэта было раней і ёсць цяпер. На мой погляд, нічога кардынальна новага на тэлебачанні на з'явіцца наогул.

Часам я думаю — чаго ў тэлебачанні больш: мастацтва ці тэхналогіі? Вопыт тэлерэпарцёра даказвае — тэхналогіі.

**Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА**

---

ВІНШУЕМ!

# Выпадковасць, якая стала неабходнасцю

## Анатолю ЖУКУ — 50

***Анатоль Жук спалучае ў сваёй асобе акцёра і пісьменніка. З'яўляецца лаўрэатам прэміі камсамола Беларусі, заслужаным артыстам Рэспублікі Беларусь. Віншуючы Анатоля Аляксандравіча з поўднем веку і жадаючы яму новых творчых поспехаў, доўгіх год жыцця, прапануем нашым чытачам гутарку з юбілярам.***

**— Што вас прывяло на сцэну, у тэатр?**

— Я сказаў бы — выпадковасць. Выпадковасць, якая стала неабходнасцю. Я ўвогуле марыў паступіць на журналістыку. Гулялі мы неяк у футбол, і да мяне падышоў сябра ды кажа: "Глядзі, аб'ява ў тэатральна-мастацкі інстытут". Я ўвогуле не ведаў, што гэта такое. Ці можаце сабе ўявіць: чалавек з вёскі, на парозе 1966 год, тэлевізар толькі ў клубе стаяў. Але нешта мне спадабалася, зацікавіла. Галоўная прычына была ў тым, што ў тэатральным інстытуце на месяц раней здаваліся іспыты. Я думаў так: паеду ў Мінск, паспрабую паступіць, а калі завалю экзамены — адразу панясу дакументы на журналістыку.

**— Рацыянальны падыход?**

— Абсалютна рацыянальны... Але ў гэтай рацыянальнасці ўсё ж такі была, безумоўна, і пэўная зацікаўленасць. Карацей, я паехаў і паступіў.

**— Бывае, што людзі канчаюць ВНУ і кажуць: "не маё гэта". Ці не было такога?**

— Не, ніколі не было. Гэта тая выпадковасць, падкрэсліваю, якая стала неабходнасцю. Я на Дзяды разам з іншымі акцёрамі ездзіў на могілкі. І мы гутарылі паміж сабою аб малых грашах, але ўсе згадзіліся, што мы займаемся любімай працай.

**— Можа, нехта з педагогаў зрабіў на вас вялікі ўплыў?**

— Мне здаецца, мяне проста Бог вывеў на гэты шлях. Па сутнасці, быў час, калі я адчуў, што мне тэатра мала. Бацька ў мяне скончыў духоўную семінарыю ў Жыровічах. Але сан святара ён не прыняў па пэўных акалічнасцях.

**— Калі гэта было?**

— Гэта было да вайны. Дык ён днём служыў у царкве, а вечарам ішоў у клуб іграць спектакль. Ён быў выдатны акцёр. Да прыкладу, ён іграў у "Мікітавым лапці", які таксама іграем і мы сёння. Да таго ж, ён пісаў вершы. Можа, гэта паўплывала, а можа — гэта генетычнае?

**— А што сказалі на вашай радзіме наконт тэатральнага?**

— Гэта быў бум.

**— Нечакана́сць?**

— Канечне. У мяне на тэлевізіі каля трыццаці галоўных роляў і пяць галоўных роляў у кіно. Напрыклад, у фільме "Маці ўрагану" па Уладзіміру Караткевічу я выканаў ролю паўстанца Ветра.

**— А любімая праца ў кіно?**

— "Адвечная песня" па Янку Купалу, дзе я выканаў ролю Мужыка, рэжысёр Уладзімір Траццякоў. Гэта было пятнаццаць-дваццаць гадоў таму... Мне прасцей казаць пра мае тэатральныя ролі.

**— Вы сыгралі галоўныя ролі ў двух апошніх тюгаўскіх спектаклях: графа Дарынкура ў "Маленькім лордзе Фаўнтлярое" рэжысёра А. Андросіка і Мудзафера ў "Шчаслівых жабраках" рэжысёра М. Шыйко. Чым адрозніваліся гэтыя ролі?**

— Розніца проста каласальная. Мікалай Шыйко, пастаноўшчык спектакля "Шчаслівыя жабракі" па п'есе Карла Гоцы, быў для мяне легендай. Што ж да рэжысёраў — гэта розныя школы, розная эстэтыка, розны падыход.

**— Вы сыгралі ў "Шчаслівых жабраках" адмоўную ролю — тырана Мудзафера. Ці прыемна іграць адмоўныя ролі?**

— Я б сказаў так. Іх лягчэй іграць, таму што ў чалавека з адмоўнымі якасцямі нейкі большы дыяпазон звычак. Возьмем прыклад з жыцця. Як гэта проста быць нядобрым. Асабліва ў сённяшні час. І як складана стрымацца, калі цябе штурхнуць ці аблаюць у аўтобусе, тралейбусе, і праявіць тую культуру, якую мы павінны несці. Вядома, лягчэй іграць Мудзафера... Колькі трэба было прыдумляць, каб сыграць Заслонава пры недасканалым драматургічным матэрыяле. Колькі трэба было выдумляць, каб сыграць усякіх бальшавікоў, якіх я іграў...



**— Як вы зараз — саромеецеся гэтых роляў ці лічыце, што гэта была неабходнасць?**

— Як я магу саромецца гэтых роляў? Я заўсёды другасны. Не я выбіраю, мяне выбіраюць. Я павінен выконваць волю рэжысёра. Самае страшнае было тое, што мы таленавіта выконвалі гэтыя сатанінскія ролі, а дзеці ў гэта верылі. Вось у чым моц нашай прафесіі — яна як прапаведзь з кафедры.

**— Вы вядомы не толькі як артыст, але і як пісьменнік. Як спалучаюцца ў вашым жыцці гэтыя два накірункі творчасці?**

— Звычайна, проста. Я ўсё жыццё нешта пісаў: вершы, прысвячэнні, але для прафесійнай творчасці не было штуршка. Маё першае апавяданне "Лівень" было надрукавана ў газеце "Чырвоная змена", а другое — у часопісе "Беларусь". І пайшло, і паехала... Тэатр перастаў мяне задавальняць, і гэта з'явілася штуршком.

**— Ці не адчуваеце вы зайздрасць з боку знаёмых?**

— Я не магу адказаць на гэтае пытанне, пэўна, трэба спытацца ў зайздроснікаў.

**— Вы цудоўна валодаеце беларускай мовай, гэта для вас натуральна таму, што вы жылі ў вёсцы?**

— Вядома, так. У школе я ненавідзеў матэматыку, а вось што да літаратуры, гісторыі, грамадазнаўства — я ўжо ў пятым-шостым класе ведаў тое, што многія не ведалі ў дзесятым. Канешне, пакольki я прафесійны акцёр, мне брыдка было б не ведаць мовы.

**— Дык колькі гадоў вы ўжо пішаце?**

— Калі прафесійна — гадоў дзесяць, ці адзінаццаць-дванаццаць, не болей. Я не лічу тое, што друкавалася ў школе, у інстытуце.

**— Якія пісьменнікі паўплывалі на вашу творчасць?**

— Уладзімір Караткевіч. Гэта — адназначна. Памятаю, у школе неяк выпадкова знайшоў часопіс "Маладосць", у якім была другая частка яго аповесці "Дзікае паляванне караля Стаха". Я як прыліп да яе, дык не мог адліпнуць. Калі яшчэ вучыўся ў школе, да нас прыехаў Міхаіл Міхайлавіч Чарняўскі, знакаміты археолаг. Ён мне падарыў першую кніжку паэзіі Караткевіча "Матчына душа". Гэта быў цуд. Бо знайсці ў сябе дома кнігі Караткевіча было немагчыма. Канешне, зрабіў уплыў і Янка Брыль, і Якуб Колас са сваёю "Новаю зямлёю". Што да Янкі Купалы, дык я адкрыў для сябе яго пазней. З рускіх пісьменнікаў — гэта Бунін. Ён для мяне своеасаблівы Бог.

**— А фантастыкі ў вас у творчасці няма?**

— Як ні дзіўна, я не люблю фантастыку. Я не адмаўляю яе як жанр, проста я яе не чытаю.

**— З замежных акцёраў хто вам найбольш падабаецца?**

— Найперш я назваў бы Марлона Брандо. Лічу, што гэта акцёр стагоддзя.

**— І традыцыйнае пытанне. Якія вашы планы на будучае?**

— Закончыць новую аповесць.

**Гутарыў Сяргей ШАМЁНКА**

# Палоннік роднага слова

Аркадзю НАРКЕВІЧУ — 70



**Мова Капыльшчыны — надзіва багатая, па-свойму адметная і непаўторная. У ёй нямала слоў, якіх больш нідзе не сустрэнеш, у нечым яна розніцца і ад гаворак іншых рэгіёнаў Случчыны, да якой Капыльшчына, калі глядзець на гэта ў гістарычным аспекце, і адносіцца. Ці не таму ў гэтым кутку Бацькаўшчыны нарадзілася не толькі шмат пісьменнікаў, а і мовазнаўцаў, якія змалку ўбіралі ў сябе характво роднага слова, захапляліся ім. Да гэтай слаўнай кагорты належыць і доктар філалагічных навук Аркадзь Наркевіч.**

**Аркадзь Іосіфавіч — родам з вёскі Вараноўшчына, з сялянскай сям'і. У 1951 годзе скончыў Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя М. Горкага. Некаторы час настаўнічаў, а пасля паступіў у аспірантуру, вучобу ў якой завяршыў у 1955 годзе і стаў малодшым навуковым супрацоўнікам Інстытута мовазнаўства Акадэміі навук БССР, а пасля быў старшым навуковым супрацоўнікам у гэтым інстытуце. З 1965 года А. Наркевіч звязаў лёс з Беларускім дзяржаўным універсітэтам. Займаў пасаду дацэнта кафедры беларускай мовы філалагічнага факультэта, потым — кафедры стылістыкі і літаратурнага рэдагавання факультэта журналістыкі. З 1976 года — прафесар, а ў 1989—1994 гадах і загадчык гэтай кафедры.**

**Навуковыя памкненні Аркадзя Іосіфавіча засведчыла ўжо тэма яго кандыдацкай дысертацыі, паспяхова абароненай у 1956 годзе — "Спосабы выражэння азначэнняў у сучаснай беларускай мове". А. Наркевіч адразу вызначыў для сябе галоўныя аб'екты сваіх даследаванняў, скіраваўшы ўвагу на марфалогію і сінтаксіс. Аб плённасці яго намаганняў сведчыла манаграфія "Сістэма словазлучэнняў у сучаснай беларускай мове", датаваная 1972 годам. Яна напісана на падставе доктарскай дысертацыі "Сістэма словазлучэнняў у сучаснай беларускай літаратурнай мове: структурна-семантычнае апісанне", абароненай праз год пасля з'яўлення манаграфіі ў друку. Як і ва ўсіх сваіх працах, даследчык выкарыстаў для аналізу багацейшы фактычны матэрыял, які і дазволіў яму паспяхова прааналізаваць словазлучэнні з боку іх структуры, семантыкі і стылістычнай прыналежнасці. Важна і тое, што і ў манаграфіі, і ў дысертацыі вызначаны агульныя накірункі і тэндэнцыі развіцця самой сістэмы словазлучэнняў, а гэта, вядома, дае магчымасць вызначыць, як беларуская мова будзе ўзбагачацца ў далейшым, наколькі яна стане багацейшай і вобразна насычанай.**

**Працуючы над праблемамі мовы ў іх глабальным значэнні, А. Наркевіч знаходзіць час засяродзіцца і на пытаннях больш канкрэтных, але не менш значных. Аб гэтым сведчаць яго шматлікія артыкулы, рэцэнзіі (агульная колькасць публікацый дасягнула амаль 400), што вось ужо чатыры дзесяцігоддзі рэгулярна змяшчаюцца на старонках газет, часопісаў, навуковых зборнікаў і мовазнаўчых выданняў. Пры гэтым Аркадзь Іосіфавіч не выступае толькі тэарэтыкам. Яго развагі, вынікі, абагульненні цесна ўвязаны з сучасным моўным і літаратурным працэсам. А гэта вынік таго, што А. Наркевіч уважліва сочыць за навінкамі мастацкай літаратуры, публікацыямі ў той жа перыёдыцы, працамі іншых мовазнаўцаў. І заўсёды па тым ці іншым пытанні выказвае сваё важкае, аўтарытэтнае меркаванне. Калі ж з'яўляюцца яго заўвагі, дык да іх нельга не прыслухацца. У тым ліку і журналістам.**

**І тое, што напісана А. Наркевічам раней (а ён яшчэ аўтар манаграфіі "Назоўнік. Граматычныя катэгорыі і формы" (1976), навучальнага дапаможніка для студэнтаў ВНУ "Практычны курс сучаснай беларускай мовы" (1992), сааўтар акадэмічных прац "Курс сучаснай беларускай літаратурнай мовы. Сінтаксіс" (1959), "Граматыка беларускай мовы" (т. 1—2, 1962, 1966), і тое, што пішацца цяпер, а нягледзячы на паважаны ўзрост Аркадзь Іосіфавіч творча вельмі актыўны, служыць на карысць роднай мовы, нацыянальнага Адраджэння.**

**Палоннік роднага слова, А. Наркевіч імкнецца да таго, каб і іншыя палюбілі беларускае слова гэтаксама апантана, як і сам ён, каб адчулі ўсю прыгажосць матчынай мовы.**

**Віктар РУНЕВІЧ**

"ЛіМ"-ФОТА



*Партытуру*
*трактуе*
*Без самапаўтораў*
*Апантаны*
*аркестрам*
*Маэстра*
*Генадзь Праватораў.*

*Фота А. ПРУПАСА*

# Пісьменнік і баец

ДА 80 ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Георгія ШЧАРБАТАВА

Вясной 1944 года ў атрад горацкіх партызан трапіла газета "Звязда", якая выдавалася падпольна на акупаванай тэрыторыі. Партызаны, асабліва ж Вера Шчарбатава, з радасцю чыталі ў газеце артыкул, аўтарам якога быў Георгій Шчарбатаў. Вось ужо некалькі гадоў яна не чула пра свайго брата, а тут...

Больш як пяцьдзесят пяць гадоў прайшло з той памятнай падзеі. Зараз Вера Міхайлаўна (па мужу — Фомчанка) на пенсіі. Аб жыццёвым шляху свайго брата яна ўспамінае: "Георгій рана навучыўся чытаць і чытаў вельмі многа. З дзяцінства марыў стаць настаўнікам. У 1936 годзе ён паступіў у Магілёўскае педвучылішча. Вучылася ў Магілёўскім медыцынскім тэхнікуме і наша сястра Кацярына. Вельмі цяжка было бацькам утрымліваць двух студэнтаў. Помніцца, як маці ці бацька, назбіраўшы сялянскіх пачастункаў, пешшу ішлі ў Магілёў. Вярталіся назад знясіленыя, але былі вельмі задаволены тым, што бачылі дачку і сына, і вельмі ганарыліся, што сын піша ў газету, выступае на літаратурных вечарах".

Першымі творамі Г. Шчарбатава былі вершы, апавяданні з сялянскага і студэнцкага жыцця. Друкаваліся яны ў газетах "Камунар Магілёўшчыны", "Літаратура і мастацтва". У 1938 годзе ў дзесятым нумары часопіса "Полымя рэвалюцыі" было змешчана апавяданне "Жонка камандзіра". Усе яны чамусьці падпісаны — Я. Шчарбатаў.

Пасля вучылішча Г. Шчарбатаў паступіў і завочна вучыўся ў Магілёўскім педагагічным інстытуце. Але яго вабіла журналісцкая дзейнасць і таму ён у 1939 годзе перайшоў у газету "Камунар Магілёўшчыны", а з 1940 года працаваў у "Советской Белоруссии".

З-за дрэннага зроку Г. Шчарбатаў у вайну не быў прызваны на вайсковую службу і быў эвакуіраваны ў Куйбышаў, дзе супрацоўнічаў у газеце "Волжская коммуна". 11 жніўня 1942 года па заданні ЦК Кампартыі Беларусі і ЦК ВЛКСМ 60 камсамольцаў-аўтаматчыкаў перайшлі лінію фронту. Гэта быў партызанскі атрад імя Гастэлы. Да канца верасня яны былі на месцы прызначэння — у штабе Мінскага партызанскага злучэння, якім камандаваў Герой Савецкага Саюза Р. Мачульскі. Разам з гастэлаўцамі, у якасці карэспандэнта газеты "Савецкая Беларусь", сюды прыбыў і Г. Шчарбатаў. 9 лютага 1943 года на старонках гэтай газеты ён надрукаваў артыкул "Горад шыбеніц" — аб зверствах фашыстаў у Старых Дарогах.

Некаторы час Г. Шчарбатаў узначальваў партызанскую агітбрыгаду. У час яе вандроўных выступленняў пільна сачыў за жыццём партызанскіх атрадаў. Усё занатоўваў у дзённіку. Зараз ён знаходзіцца ў цэнтральным Дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Беларусі, а ў 1946 годзе быў надрукаваны ў часопісе "Полымя" (N 7, 8—9) у матэрыяле "У родных лясах (нататкі журналіста)".

У канцы студзеня 1943 года Г. Шчарбатаў пачаў працаваць у рэдакцыі газеты "Звязда", якая выдавалася падпольна на акупаванай тэрыторыі. Збіраў матэрыялы, апрацоўваў пісьмы і допісы партызан. Шмат пісаў сам. Былы супрацоўнік падпольнай "Звязды" А. Сакевіч у артыкуле "Журналіст і баец", успамінаючы пра яго стыль працы, як карэспандэнта, пісаў: "...Шчарбатаў умеў бачыць парасткі новага, незвычайнага ў будзённых справах. Гэта асаблівасць была прыкметна ў ягоных карэспандэнцыях, нарысах, замалёўках. Пісаў Г. Шчарбатаў пра жыццё і трывожны побыт жыхароў партызанскай рэспублікі Акцябрскага раёна. Ён першы даведаўся, што сяляне вёскі Гарадзяка Любанскага раёна збіраюць падарункі сваім абаронцам — народным мсціўцам, і ў "Звяздзе" з'явілася пісьмо-адозва да працоўных акупаванай рэспублікі ўсімі сіламі і сродкамі дапамагаць партызанам граміць ненавісных чужынцаў. Ягоную карэспандэнцыю пра самаахвярнасць жыхароў вёскі Трайчаны чыталі і перачытвалі ва ўсіх атрадах, вёсках, куды трапляла партызанская газета".

Неаднаразова ўдзельнічаў у баявых аперацыях партызан. Разам з усімі ішоў у атаку на варожы гарнізон у Ламавічах і Філічах, граміў варожы эшалон паміж чыгуначнымі станцыямі Муляроўка і Пціч.

Зімой 1944 года, калі загінуў рэдактар "Звязды" М. Барашкаў, ЦК КП Беларусі даручыў рэдагаваць газету Г. Шчарбатаву. Пад яго кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле ў цяжкіх умовах было выпушчана чатырнаццаць нумароў.

У пасляваенны час, працуючы ў рэдакцыі "Звязды", карэспандэнтам "Известий" на Беларусі, загадчыкам аддзела, намеснікам галоўнага рэдактара часопіса "Маладосць", Г. Шчарбатаў прадаўжаў сваю літаратурную дзейнасць. Ён выступаў з аповесцямі, нарысамі, успамінамі, рэцэнзіямі, нататкамі і карэспандэнцыяй у газетах "Звязда", "Советская Белоруссия", "Чырвоная змена", "Настаўніцкая газета", "Літаратура і мастацтва", "За радзіму", "Гомельская праўда", часопісах "Полымя", "Беларусь", "Работніца і сялянка", "Маладосць". У асноўным пісаў пра партызанскі рух, пра аднаўленне гарадоў і вёсак, будаўніцтва новых прадпрыемстваў. Рэцэнзаваў творы М. Танка, П. Пестрака, І. Шамякіна,



К. Чорнага, М. Вішнеўскага, В. Казлова.

У 1953 годзе Г. Шчарбатаў прыязджаў у Горкі, знаёміўся з працай Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. У выніку ў часопісе "Маладосць" з'явіўся нарыс "Іх клічуць палі...".

Удзел у партызанскім руху, актыўная падпольная работа далі пісьменніку багаты матэрыял, дзякуючы якому ён напісаў цікавую кнігу "Комсомол Белоруссии в боях за Родину", выдадзеную ў Маскве ў 1949 годзе. Праз год гэта кніга на беларускай мове выйшла ў Мінску. У тым жа годзе ў Мінску пабачыла свет кніга Г. Шчарбатава "Партызанскія агні", а ў 1957 годзе кніга "Шумелі пушчы". Займаўся пісьменнік і перакладамі. У яго перакладзе з чэшскай на беларускую мову выйшла "Слова перад пакараннем смерцю" Ю. Фучыка.

У нашага пісьменніка-земляка было шмат творчых задум і планаў. Шкада, што яны не збыліся: ён памёр другога лютага 1957 года.

Ужо пасля смерці Г. Шчарбатава ў Маскве выйшла яго кніга "Партизанские огни" (1959), а ў Мінску ў 1961 годзе — "Лясны фронт". У 1970 годзе яна зноў пабачыла свет, а да 60-годдзя з дня нараджэння пісьменніка выйшлі яго "Партызанскія апавяданні".

**Уладзімір ЛІЎШЫЦ,**
**дырэктар Горацкага гісторыка-этнаграфічнага музея**

ВЕЧАРЫНЫ

# Дзень добры, племя маладое

28 красавіка ў Доме літаратара адбылася вечарына маладых літаратараў. У акцыі, арганізаванай СБП, прынялі ўдзел каля пяцідзесяці маладых творцаў, якія прадстаўлялі ўсе накірункі сучаснай маладой літаратуры: ад групоўкі "Соты" і "Бум-бам-літа", да паэтаў-"традыцыяналістаў" з суполкі пры Магілёўскім універсітэце.

У першай частцы вечарыны свае творы на суд публікі прадставілі паэты: Янка Лайкоў, Віктар Жыбуль, Вальжына Мартынава, Ксенія Брэчка, Арцём Кавалеўскі, Антон Тарас, Зміцер Вішнёў, Сяргей Патаранскі... Свае песні выконвалі паэты-барды Эдуард Акулін і Валерый Пазнякевіч. У другой частцы вечарыны на сцэну выйшлі рок-гурты: "Жах", "Правакацыя", "Барадаты Грынвіч" ды інш.

Цёплым словам маладых творцаў віталі Вольга Іпатава, Любоў Турбіна.

Вечарына атрымалася запамінальная. Паболей бы такіх акцый — тады б моладзь выплёхвала сваю энергію на сцэне і ў зале, а не тусавалася па пад'ездах. У прыватнасці, на Захадзе падобныя акцыі праводзяцца з зайздроснай рэгулярнасцю і вырашаюць праблему правядзення творчай моладдзю вольнага часу досыць паспяхова.

**К. МАЛАНКАЎ**

ПАМЯЦЬ

# “Успомніш Беларусь, І кроў у жылах стыне...”

СЁЛЕТА споўнілася б 85 год Тодару Лебядзе — паэту, драматургу, празаіку, вязню палітычнай сістэмы, які больш за 15 гадоў правёў у канцлагерах і высылцы, аднаму з “распісчыкаў” сцэнаў знакамітай і злавеснай “амерыканкі” (у 1937 г., перад расстрэлам, свае “аўтографы” на іх пакінулі П. Галавач, Т. Кляшторны і В. Маракоў). Як сведчыў яго сябра Яўген Калубовіч у кнізе “На крыжовай дарозе” — Тодар Лебяда на сцяне 95 камеры ўнутранай турмы НКУС выдрапаў наступныя радкі:

***Мне лёсам вызначаны***
***Гэткі прымус.***
***Аб шчасці сёння***
***Можна сніць і марыць,***
***За тое,***
***Што я толькі — Беларус —***
***Мне гэтакая кара!***

***Я кару іхную***
***З пагардаю прыняў,***
***Бо я — сын верны***
***Маці — Беларусі.***
***І я святога***
***Гордага імя***
***Не адра-ку-ся!!!***

У 90-я гады, пасля таго, як часопіс “Маладосць” надрукаваў інтэрв'ю Барыса Сачанкі з Масеем Сяднёвым, у якім упершыню пасля многіх гадоў забыцця было згадана імя аднакурсніка Масея Сяднёва — Пятра Шыракова (як сведчыць М. Сяднёў, гэта і ёсць сапраўднае прозвішча Тодара Лебяды; таксама адзначым, што і нарысы, якія з'явіліся ў друку ў 1933 г. былі падпісаны гэтым жа прозвішчам, але заўважым, што свае першыя вершы 1931—1932 гг. і творы, надрукаваныя ў слонімскай “Вольнай працы” ў 1960—1961 гг. Т. Лебяда падпісваў “Шырокаў П.”), у прэсе з'явіўся шэраг публікацый пра пісьменніка. Сяргей Чыгрын, Ігар Адамовіч, Аляксей Анішчык, Алесь Марціновіч, Ала Петрушкевіч даволі падрабязна расказалі пра трагічны і незвычайны лёс Тодара Лебяды. Але хацелася б удакладніць некаторыя моманты біяграфіі пісьменніка.

Адным з першых надрукаваных вершаў Тодара Лебяды быў антыалкагольны — “Чорная каса” (“Віцебскі пралетары”, 1931. 12 снежня) з аб'яднаннем у адным радзе старога качагара, прагульшчыка і ворага завода (чытай — народа). Далей былі гэткія ж актуальныя ў той час “Вынаходца” і “Чырвоныя абозы”. Т. Лебяду заўважылі — выходзіць артыкул “завадскога паэта-ударніка” Андрэя Ушакова “За вучобу, за штодзённую творчую працу: Пра творчасць Шыракова”, але пасля піянерскага “За вамі геройства і слава” Т. Лебяда на доўгі час перастаў друкаваць свае вершы.

У 1933 г. у тым жа “Віцебскім пралетары” пачынаюць з'яўляцца нарысы Т. Лебяды пра добра вядомае аўтару жыццё ў вёсцы. Да прыкладу разгледзім, як ён, пішучы на адну і тую ж тэму, у адным выпадку выконвае “социальный заказ партии”, у другім — слухае сваю душу. Прыкладам можа служыць нарыс Т. Лебяды “Другое жыццё” (1933г.) і п'еса “Загубленае жыццё” (1943г.). У абодвух творах апісваюцца звычайныя для Беларусі пачатку 30-х гадоў падзеі: раскулачванне, рабаванне нават тых, у каго і ўзяць то “каза ды карова”. Тэма адна, акцэнты супрацьлеглыя. Калі ў “Другім жыцці” бядняк — гэта “крыўдаваны” лёсам селянін, араты, працаўнік, вечна “абабраны” сваім суседам, такім жа селянінам, але “чамусьці” багатым і таму як божае благаслаўленне атрымліваецца тое, што нехта вельмі справядлівы адымае ўсё ў “багатага” і аддае бедняму, — “абабранаму” (ці ўжо як цяпер выходзіць — рабаўніку; пры гэтым, безумоўна, замоўчваецца далейшы “канцлагерны”, або “расстрэльны” лёс гэтага “багатага”; замоўчваецца і тое, што бедняку дастаецца не ўся гаспадарка “багатага”, а толькі яе частка), то ў “Загубленым жыцці”, як у сапраўдным: бядняк — гэта часцей за ўсё абібок, п'яніца. А вось “багаты” якраз і ёсць той араты, якога п'яніца з дапамогай “вождя наций”, а дакладней — галоўнага бандыта з вялікай дарогі і абярэ. І атрымліваецца ўсё гэта ў “самай справядлівай” дзяржаве, дзе так “вольно дышит человек”. Упершыню Тодар Лебяда быў арыштаваны ў кастрычніку 1936 г., будучы студэнтам трэцяга курса Мінскага Вышэйшага Белпедінстытута (праз 8 месяцаў пасля нараджэння дачкі):

***Алеся любая,***
***Дачушка дарагая,***
***Што так боязна***
***Глядзіш ты на мяне?***
***Сягоння я***
***Надоўга ад'язджаю,***
***А там, — магчыма, стрэнемся...***
***Мо не...***
***Я ручкі кволыя***
***Бяру сваёй рукою...***
***Сягоння я...***
***Ты плачаш?***
***Перастань!..***
***Пайду па вуліцы***
***Пад моцным***
***пад канвоем,***
***Твой бацька,***
***Любы твой,***
***А сёння —***
***арыштант...***

Амаль адначасова з Т. Лебядой арыштавалі і яго былых аднакурснікаў і сяброў (спіс прыводзіцца ўпершыню): Дзмітрыя Бяльковіча (прысуджаны да 5 гадоў пазбаўлення волі), Якуба Ермаловіча (5 г.п.в.), Уладзіміра Клішэвіча (5 г.п.в.), А. І. Куляшова (?), Флярыяна Марціновіча (5 г.п.в.), Абрама Рознам (5 г.п.в.), Кастуся Судніка (5г.п.в.), Масея Сяднёва (6 г.п.в.), Васіля Шашалевіча (5г.п.в.), Пятра Хатулёва (зямляк Т. Лебяды; расстраляны 29 кастрычніка 1937 г.) і, магчыма, Я. Каплеўскага і Ф. Курбацкага. Таксама высветлілася, што П. Хатулёў (разам з аднакурснікам Т. Лебядай — М. Гваздовым) трымаў сувязь з “больш вышэйшай”, “к-р нацдемовской группировкой” з 13 чалавек (арыштаваны ў лістападзе 1936г.), якую “ўзначальвалі” М. Чарот і В. Маракоў. Магчыма, за гэтую “шматпартыйнасць” П. Хатулёва і прыгаварылі да вышэйшай меры пакарання. Цяпер мы можам сцвярджаць, што расправа над гэтымі маладымі беларускімі пісьменнікамі — ёсць яшчэ адзін прыклад-сведчанне спробы знішчэння лепшых прадстаўнікоў беларускага народа, яго духоўнай эліты тымі сіламі, якія па словах Б. Сачанкі “Як толькі даходзіла справа да дзяржаўнасці (Беларусі. — **Л. М.**), душылі яе ў самым зародку агнём і мячом”.

Пасля многіх дзён катаванняў “Петр Широков” пачаў успамінаць:

“В 1933—1935 гг. я учился с Гваздовым (арыштаваны 13 сакавіка 1936 г. у Мінску на кватэры П. Хатулёва 1837-м (?) загіне ў канцлагеры. —**Л. М.**). Недисциплинированный студент (таксама пра Гваздова-студэнта сведчыў і С. Лёвін. —**Л. М.**), пессимист, подвержен упадническим настроениям (гэта яшчэ будучы на свабодзе неадназова прызнаваў і сам Гваздоў, і ягоны сябар П. Хатулёў). Недоволен окружающей жизнью... В 1935 г. я жил на квартире П. Хатулёва, где раньше бывал и М. Гваздов (і некаторы час таксама жыў. — **Л. М.**). В его книгах я с Басей Цыпиной (сакурсніца і жонка Т. Лебяды. — **Л. М.**) обнаружили письма одного товарища из Орши, — где высказывались враждебные взгляды... [там жа] были стихи пессимистическо-упаднического характера (любімым паэтам М. Гваздова быў С. Ясенін. —**Л. М.**). Эти письма я собрал и передал парторгу литературного факультета — Мележко Ст.” Удакладнім, што Мялежка Сцяпан быў камсоргам факультэта. Таксама заўважым, што тут Т. Лебяда “чамусьці” нагаворвае на сябе, — лісты М. Гваздова ён нікому перадаць не мог, бо ў момант аршыту П. Хатулёва яны былі канфіскаваны, аб чым пры вобыску кватэры і быў складзены адпаведны вопіс.

У кастрычніку 1937 г. “тройка” асудзіла Тодара Лебяду да пяці год пазбаўлення волі, і ён быў накіраваны, як і М. Гваздоў, у Чыб'ю-Ухтпечлаг НКУС:

***Я ўсёй душой***
***Любіў загонаў мову.***
***Я ўсёй душой***
***Любіў мой родны край...***
***І вось мяне,***
***Як злодзея, сурова***
***Зладзейскі суд***
***Без жалю пакараў...***
***. . . . . . . . . . . . . . . . . . .***
***Бывайце, любыя***
***Загоны Беларусі!***
***Ў выгнанне еду я,***
***Мой любы родны край...***
***Апошні раз***
***На нівы падзіўлюся,***
***Скажу апошняе —***
***“Радзімыя, бывай!..”***

*(Лісты да сябра. У выгнанне.)*

Па-рознаму паводзязь сябе вязні ў канцлагерах... Адны, як Т. Лебяда і У. Хадыка, у нядоўгі час адпачынку, нягледзячы ні на што, пісалі вершы. І калі ў канцлагеры ў каменяломнях У. Хадыка загіне, першым на гэта адгукнецца Т. Лебяда:

***Гусляра з душою набалелай***
***Не пачуем дзіўнае струны!..***
***Пахавалі зморанае цела,***
***Пахавалі, нават бяз труны.***

Другія, як А. Александровіч (якому, як сведчыў Т. Лебяда, у часе допытаў “нкусаўцы” зламалі два рабры) “працягваюць да нябёс усхваляць ВКП (б), апраўдваць НКУС і ўсім гэтым нажываюць сабе ворагаў не толькі паміж паліткатаржанаў, але нават і “уркаў” (З ліста Ю. Віцьбіча да І. Гуткоўскага ад 18 мая 1957 г., надрукаванага ў “Архіўнай кнізе” Л. Юрэвіча. Нью-Ёрк. 1997.)

Час другой сусветнай вайны, як гэта ні гучыць парадаксальна, стаўся найбольш плённым у лёсе пісьменніка: “Лебяда пазнаёміў мяне са сваёй паэтычнай творчасцю, нарысамі ў прозе...”, — успамінаў А. Анішчык. Выйшаў першы зборнік вершаў Т. Лебяды — “Песні выгнання”, напісана п'еса “Загубленае жыццё”...

У маі 1947 г. Т. Лебяда быў зноў арыштаваны (у 1945г., калі ён знаходзіўся ў Нямеччыне, сябры не здолелі спыніць яго ад вяртання ў СССР):

***Цяжка, цяжка беларусу***
***У чужым краі,***
***Ой, на сэрцы***
***Непрасветная туга!..***
***Толькі тут яму***
***Ніхто не спагадае,***
***Не пачуе яго дзікая***
***Тайга.***

Толькі ў 1960 г. Т. Лебяда вернецца ў Беларусь. На Бацькаўшчыне пісьменнік “ажывае”. У слонімскай “Вольнай працы” з'яўляецца яго верш:

***Вось рэчка як быццам***
***спынілася ў зморы***
***вятрыска пранёсся***
***і знік***
***А спелыя вішні***
***здаецца гавораць:***
***“Як любіш,***
***як хочаш —***
***вазьмі!..”***

Працуючы рабочым на кардоннай фабрыцы, ён зноў пачынае пісаць п'есы, нарысы, але, як і ў 30-я, Т. Лебяда павінен выконваць “чарговы заказ” партыі. Так п'есе ў адной дзеі “Людзі ва Хрысце” лепш падыходзіць назва “Нелюдзі ва Хрысце”, бо свяшчэннікі ў ёй выглядаюць іудамі... У нарысе “Брыгадзірскі нораў” вуснамі “аднаго калгасніка” расказваецца пра брыгадзіра, якога ахарактарызаваць можна так: Сыракваша Аўдзей — лепш яму налей. У “агітцы” (прозвішча галоўнага адмоўнага героя тут таксама Сыракваша) “На Гродзеншчыне” песні хоць і гучаць аб каханні, але адчуваецца іншае: добра жыць нам у калгасе, — мы п'ем, працуем, пляшам... Апошнія публікацыі Т. Лебяды з'явіліся ў чэрвеньскай раённай газеце “Уперад” пад псеўданімам К. Каліна (Клім Каліна). Газета змясціла нарыс “Стваральнікі ляснога багацця” (пра звяно з дзвюх жанчын, якое пасеяла лесу ў тры разы больш за план) і фельетон “Дом... са сланечніку” (пра “дрэнную” гандлярку семкамі, якая “дрэнная” таму, што яна, маці-адзіночка, на “нагандлеваныя” грошы будуе дом).

У канцы 1962 года, па сямейных абставінах (а, магчыма, і не жадаючы пісаць толькі пра “надзёнае” і “актуальнае”), Т. Лебяда назаўсёды пакідае Беларусь...

Рэабілітавалі пісьменніка ў студзені 1992г., праз 22 гады пасля смерці...

**Леанід МАРАКОЎ**



*На здымку: першы рад М. Сяднёў (злева), С. Хмара. Другі рад (злева-направа): В. Тайлай, Т. Лебяда, А. Салавей, У. Сядура (Глыбінны), Х. Ілляшэвіч, А. Чэмер. Мінск, лета 1944 г. (Здымак друкуецца ўпершыню).*

ЧАСАПІС

## *Героі Дыснея гавораць па-беларуску*




**Беларускамоўны мультыплікацыйны фільм "Прыгажуня ў сонным лесе" з'явіўся па заказе фірмы "Сотвар". Гэта 75-хвілінная гісторыя пра прыгажуню прынцэсу, якую заваражыла злая вядзьмарка. Для агучвання роляў па-беларуску былі запрошаныя акцёры Тэатра юнага гледача.**

**"Гэта пакуль толькі першая спроба стварэння "беларускага відэа". У хуткім часе з'явіцца "Аліса ў краіне цудаў". Пераклад з англійскай мовы ўжо зроблены. Праз колькі тыдняў мы прапануем аўдыёкасеты з запісамі калыханак і казак для дзетак. Усё залежыць ад попыту на нашу прадукцыю. Каб пакрыць выдаткі на выпуск аднаго фільма, трэба прадаць 500 касетаў. Спадзяемся, што "беларускае відэа" знойдзе сваіх прыхільнікаў. А мы пастараемся працаваць аператыўна і якасна", — кажа каардынатар праекта Валянціна Лецка.**

**На жаль, "беларускія" відэакасеты пакуль немагчыма купіць у крамах. Арганізатары праекта палічылі, што іх мульцік згубіцца сярод мноства "рускіх" касетаў. Таму ахвотных просяць пісаць на адрас: 220131, г. Мінск вул. Шырокая, 56, ЗАТ "Сотвар", або пералічыць 800 тыч. руб. на рр 2120000000541, філія N 506 ААБ "Беларусбанк", код 809. А таксама замовіць па тэлефоне: 8 (017) 228-45-88, факс 8 (017) 228-45-87.**

## *"Мовазнаўцы Магілёўшчыны"*

**Такую назву мае біябібліяграфічны паказальнік, выдадзены ратапрынтным спосабам Магілёўскай абласной бібліятэкай. Супрацоўнікі аддзела краязнаўчай літаратуры пры дапамозе выкладчыкаў мясцовага універсітэта сабралі звесткі аб ураджэнцах Прыдняпроўскага краю і тых, хто доўгі час працавалі тут, шчыруючы на мове вывучэння як мясцовых гаворак, так і ўвогуле беларускай мовы.**

**У зборніку 37 персаналіяў, пачынаючы ад Івана Грыгаровіча, Паўла Шэйна, Івана Насовіча, Максіма Гарэцкага і заканчваючы сённяшнімі мовазнаўцамі Магілёўскага універсітэта Соф'яй Кечык, Васілём Рагаўцовым і Міколам Абабуркам.**

**Прафесар М. Абабурка і аўтар прадмовы. Прадстаўляючы зборнік чытачу, ён згадвае такіх вядомых асоб беларускае гісторыі, як Лаўрэнцій Зізаній, Мялецій Сматрыцкі, Спірыдон Собаль, Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч... Усе яны мелі самае непасрэднае дачыненне да Магілёўшчыны, да вывучэння культуры і мовы нашага краю.**

**Акрамя біяграфічных звестак, у паказальніку падаюцца спісы асноўных навуковых прац мовазнаўцаў і пералік артыкулаў аб іх жыцці і навуковай дзейнасці.**

**Юрась ПІВУНОЎ**

## *Пісаў на ідыш*

**Эля Каган загінуў 22 чэрвеня 1944 года на фронце. А перад вайной працаваў у рэдакцыі яўрэйскага часопіса "Штэрн" ("Зорка"), у часе вайны стаў супрацоўнікам франтавога друку. З першымі творамі выступіў у 1926 годзе. Празаічныя творы склалі змест кніг "Апавяданні і мініяцюры", "Горад без цэркваў", "Дзіцячыя апавяданні". У 1932 годзе выйшаў зборнік "Вершы". У перакладзе на беларускую мову пабачылі свет кнігі Э. Кагана "Дружная сямейка" (1940) і "Маем зялёным" (1979). Аўтар п'есы "Роднае поле". Разам з Э.Аксельродам напісаў інсцэніроўку "Маленькі чалавечак" па матывах твораў класіка яўрэйскай літаратуры М. Мойхер-Сфорыма (пастаўлена ў 1938 годзе). Э. Каган пераклаў асобныя творы А. Пушкіна, М. Гогаля, Э. Самуйлёнка і іншых пісьменнікаў.**

ПАМЯЦЬ

# Крокі ў вечнасць

ЗГАДВАЮЧЫ Барыса САЧАНКУ

Кожны сапраўдны мастак — заложнік уласнага таленту, даўжнік свайго веку, доўг якому ён сплачвае да таго часу, пакуль яго душа не мусіць адляцець, як кажуць, да зор. Менавіта такім даўжніком і заложнікам быў Барыс Сачанка. Ён меў неўтаймаваную душу рупнага сейбіта, вызначаўся вясковай мудрасцю, мужнасцю апантанага першапраходцы, слыў кніжнікам. Ён ніколі не забываў і не мог забыць роднага Палесся, дзе нарадзіўся і вырас.

Была ў пісьменніка і дальняя дарога, пра якую яму, маломy хлапчуку, нагадала аднойчы чарнявая цыганка. А перад гэтай дарогай — нямецкая акупацыя, страшныя ночы і дні, што сталіся суцэльнай цемрай з частай стралянінай то партызан, то фашысцкіх карнікаў, якія не давалі спакою жыхарам-вялікаборцам, адным з якіх быў і Барыс Сачанка, на той час, вядома, малы хлапчук. Была такая калатнеча і неразбярыха, што будучага празаіка маглі расстраляць, знішчыць, як і дзесяткі іншых аднавяскоўцаў. А падставы для гэтага ў акупантаў меліся. Як пісаў Б. Сачанка ў сваёй аўтабіяграфіі, падчас чарговага наскоку акупантаў у іх на гарышчы хаваўся сусед-яўрэй. Не дай Бог, каб хто-небудзь з аднавяскоўцаў "падказаў" пра гэта — ад сям'і Сачанкаў тады застаўся б толькі адзін успамін...

У тыя часіны бяда абмінула сям'ю Сачанкаў, хаця і хадзіла побач. Але ў сорак трэцім, адступаючы пад націскам савецкай арміі, фашысты спалілі палескую вёску Вялікі Бор, а яе жыхароў павезлі ў Германію. І зноў жыццё кожнага з вялікаборцаў, у тым ліку і малога Барыса Сачанкі, вісела на валаску. Два гады яго сям'я правяла ў Германіі на ферме баўэра — аж да вызвалення...

Як бачым, і бяды, і перажыванняў яму давялося зведаць нямала. Міжволі думаецца, жыццё і лёс нібыта наўмысна акунулі яго з галавой у кіпень і крутаверць ваенных віхур і выпрабаванняў, каб ён прайшоў усе кругі Дантавага пекла, і, спазнаўшы яго жахі, не зняверыўся ў прыгажосці і прывабнасці жыцця, спаўна назапасіўся ўражанняў і ўзяўся пасля за пяро з адной мэтай: падзяліцца ўсім гэтым набыткам і багаццем з чытачамі.

У сувязі з гэтым устае пытанне: калі і ў якім узросце пачаў пісаць Барыс Сачанка? Што падштурхнула яго ўзяцца за пяро? Як мы ведаем з яго аўтабіяграфіі, у школе яму асабліва падабаліся фізіка і матэматыка. Што тычыцца мастацкіх твораў, то ён чытаў без усякага разбору ўсё тое, што траплялася пад руку. Але перамагла ў рэшце рэшт любоў да літаратуры і паступіў ён не на фізіка-матэматычны факультэт, а на філфак універсітэта. Першыя "спробы пяра" празаік тлумачыць вельмі проста і зразумела: у той час, калі ён вучыўся ва універсітэце, на філалагічным факультэце вучыліся і многія з тых пісьменнікаў, творы якіх сёння шырока вядомыя не толькі ў нашай рэспубліцы, але і далёка за яе межамі. Ён згадвае, што ўсе яны неяк незаўважна пазнаёміліся, пасябравалі. Дапамагалі адзін аднаму рублём, добрай кнігай, парадай. Часта спрачаліся паміж сабою пра кнігі і пра творы, і тыя, што пісалі самі, і тыя, што друкавалі старэйшыя пісьменнікі. Усё гэта дало штуршок, пацягнула і самога ўзяцца за пяро. У 1956 годзе ён напісаў апавяданне і аднёс у "Маладосць". І яно было ўхвалена і неўзабаве надрукавана.

Першая кніжка Б. Сачанкі "Дарога ішла праз лес" выйшла адразу пасля заканчэння ім вучобы. Адкрываецца невялічкім па аб'ёме і памеры абразком "Сляды". Разгледзім яго падрабязней.

Чытаючы гэты твор, міжволі ловіш сябе на думцы, што малады празаік не толькі добра ведаў і выдатна засвоіў творчасць вялікага знаўцы роднага слова і характараў людзей Кузьму Чорнага, але і вучыўся ў яго. Вучыўся, а не пераймаў. Гэта бачна ўжо з таго, што малады пісьменнік, пачынаючы сваё апавяданне ці абразок, не называе свайго героя па імені і прозвішчы, як гэта любіў падчас рабіць Кузьма Чорны, а пазначае яго адным словам — чалавек.

Хаця і кароценькі абразок, але ў ім, як і ў кожным мастацкім творы, маецца пэўны сюжэт. Праўда, сюжэт гэты ўнутраны, і тым не менш ён працуе на твор. Пра што ж гаворыцца ў абразку? А пра тое, што невядомы чалавек топчацца на ўзлеску, удзень хаваецца, шыецца глыбока ў лясны гушчар, а ноччу падыходзіць да хаціны, што стаіць на канцы вёскі. Стаіць доўга і пакутліва, выглядае праз шыбіны тых, каго, па ўсім відно, добра ведае і хто трапляе цяпер у яго поле зроку: гаспадыню, ладную дзяўчыну, ці яшчэ каго-небудзь з сямейнкаў. Калісьці чалавек сышоў з гэтай хаты, пакінуў сям'ю. Можа, не захацеў жыць у калгасе, дзе не давалі ані каліва на працадзень. А, магчыма, не ў сілах быў выцерпець нейкай абразы жанчыны, што было яго жонкай, і вырашыў правучыць яе... Усё гэта, безумоўна, для нас, чытачоў, застаецца загадкай. Можа, вось гэтая загадка і з'яўляецца той сілай, якая рухае наперад увесь твор. Ці не таму аўтар і не імкнецца раскрыць да канца гэтага чалавека. Для пісьменніка, відаць, больш важна паказаць яго душэўны стан, гарачлівае хваляванне, нават бязглуздую мітусню. Аўтар і прасочвае, як паводзіць сябе гэты чалавек. Па тых сутаргавых рухах, няроўнай хадзе і тузаніне няцяжка здагадацца, што ён моцна перажывае з-за свайго колішняга ўчынку і не рады, што зрабіў яго. Чалавеку не трэба было пакідаць сям'ю, жонку з малымі дзецьмі. Ён хоча выправіць недарэчную памылку, загладзіць віну перад жанчынай. І не ведае, як гэта зрабіць...

# МАРА СВЕТЛАЯ

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Ніна, заўважыўшы Віктара, сама падышла да яго. Штосьці новае і, як быццам, чужое было ў яе абліччы. Магчыма, гэтаму ўражанню спрыялі акуляры, якія, праўда, былі падабраны з густам і ніяк не псавалі яе прыгажосць, а хутчэй за ўсё прыдавалі яе твару нейкую артыстычную арыгінальнасць, а магчыма, яна проста пасталела за гэтыя тры гады, ператварыўшыся са школьніцы, дзяўчынкі з тоўстай русай касой, у прывабную маладую паненку. Віктар адчуў, як зноў радасна і ўстрывожана забілася яго сэрца. Яны адышлі ўбок, селі на пашарпаныя крэслы, што стаялі ў рад уздоўж сцяны, але пагаварыць ім увесь час перашкаджалі. Час ад часу да іх падыходзілі сябры, знаёмыя. Потым да іх падсеў п'яненькі Нінін сваяк. І пачаў прыставаць да яе з адным і тым жа пытаннем: калі ж яна, такая прыгожая ды вучоная выйдзе замуж? І ці ёсць у яе жаніх?

Ніна жартаўліва прыхінулася да Віктара:

— А мы во з Віцем і пажэнімся! Ці ж дрэнная пара будзе? Праўда, Віця? — яна глянула на Віктара і ён убачыў у яе вачах не смяшынкі, а нейкі невыказны сум і нават боль.

Гэта была іх апошняя сустрэча. Праз паўгода Віктар даведаўся, што Ніна выйшла замуж.

"Што ж, першае каханне, мабыць, і павінна такім быць — рамантычным і незямным, і ні ў якім разе не павінна заканчвацца шлюбам", — супакойваў ён сам сябе. У яго былі новыя захапленні, ён у гэты час сустракаўся з цікавай прыгожай дзяўчынай і яму здавалася, што ён кахае яе. Потым былі новыя знаёмствы, сустрэчы, але ні адну жанчыну ён не змог пакахаць так, як ён кахаў Ніну. Магчыма, ён быў занадта патрабавальным да сябе і да другіх і не трэба было прымяраць больш позніх, сталыя пачуцці да таго першага кахання, але ён не мог інакш.

Калі яму было ўжо за трыццаць, ён у рэшце рэшт ажаніўся з Наташай — даволі прыгожай і разумнай жанчынай, і не таму, што кахаў яе больш за іншых, а таму, што цягнуць далей з халасцяцкім жыццём не было куды.

І вось цяпер сустрэўшы Ніну, глянуўшы ёй у вочы, Віктар зразумеў, што кахаў і кахае на гэтым свеце толькі яе адну. Тлеўшыя пад шматгадовым слоем жыццёвага попелу вугалькі далёкага юначага кахання разгарэліся ад аднаго яе позірку і апяклі яго сэрца шчымлівым болем страчанага і няздзейсненага.

— Віця? — Ніна кранула яго за плячо. — Табе што — дрэнна?

— Ды не. Прабач, задумаўся, — ён вінавата ўсміхнуўся. — Невялікі экскурс у мінулае.

— Мінулае ўжо не вернеш. Раскажы лепш, як ты жывеш? Як сям'я, дзеці? — Яна, забыўшыся на каву, глядзела на яго пяшчотна і неяк спагадліва.

— А што расказваць?.. Працую на заводзе ў Мінску. У вялікае начальства не выйшаў. Жонка — настаўніца, выкладае гісторыю ў сярэдняй школе. Дзяцей Бог не даў. І наогул жыццё, можна сказаць, не склалася. Перад табой — тыповы няўдачнік, — ён нявесела ўсміхнуўся. — І ўсё ад маёй нерашучасці, слабахарактарнасці. Ты ведаеш, я ўжо на другім курсе інстытута зразумеў, што памыліўся з выбарам. Тэхніка, дакладныя навукі — гэта не маё. Трэба было кідаць мне гэты інстытут, але не хапіла рашучасці. Ды і бацькоў не хацеў засмучаць. Так і дацягнуў да дыплома. А потым — размеркаванне, трэба было адпрацаваць тры гады. Паціху ўцягнуўся, прывык... Ну а зараз ужо позна штосьці мяняць. Кажуць, што чалавеку для шчасця патрэбны дзве рэчы: любімая праца і каханая жонка. У мяне няма ні таго, ні другога.

Віктар раптам схамянуўся, глянуў на Ніну, якая ўважліва слухала яго, махнуў рукой:

— Прабач, Ніна, што я тут расплакаўся, але мне чамусьці захацелася паспавядацца перад табой. Раскажы лепш пра сябе. Я спадзяюся, што ў цябе ўсё добра?

Ніна паціснула плячыма:

— Ды як табе сказаць, хваліцца асабліва няма чым. Жывём, праўда, у дастатку. Муж — дырэктар завода. Нядрэнна зарабляе, асабліва цяпер. Я доўга не працавала. Выхоўвала дзяцей. Іх у мяне двое: дачка і сын. Дачка сёлета паступіла ў інстытут, сын вучыцца ў шостым класе. Здаецца, усё ў мяне ёсць, знаёмыя жанчыны зайздросцяць, а вось душэўнага спакою няма.

Ніна памаўчала, прыгубіла кубак з кавай.

— Штосьці я ў апошні час усё часцей стала ўспамінаць мінулае, радзіму, нашу вёску. Ты ж ведаеш: там у мяне нікога не засталося: бацькі памерлі, сёстры раней за мяне раз'ехаліся па свеце, а мне ўсё сніцца і сніцца родны дом, маці... — у яе вачах бліснулі слязінкі. — Не ведаю, што гэта са мной, мабыць, старэю? Успамінаю дзяцінства, школу, сяброў, цябе таксама... — яна ўсміхнулася, пакруціла галавой. — І трэба ж такому здарыцца: сустрэцца ў гэтым санаторыі. Сапраўды, свет цесны.

Ён нахіліўся цераз стол, узяў яе за руку:

— Ніна, родная мая, я хачу, каб ты ведала, што я кахаў цябе і кахаю... так кахаю, нягледзячы на гэтую доўгую разлуку, на ўсё, што адбылося з намі ў гэтым жыцці. Прабач, што я так позна гавару табе гэтыя словы, але я павінен быў іх сказаць.

— Ах, Віця, Віця!.. Я здагадвалася аб гэтым... Я таксама кахала цябе. Але чаму ты быў такі недаступны, скрытны?.. Што табе перашкаджала сказаць гэтыя словы тады ў нашым юнацтве? А зараз, — яна пяшчотна пагладзіла яго руку, — табе здаецца, што ты кахаеш — гэта хутчэй за ўсё — светлы настальгічны сум аб мінулым. Але я ўсё роўна ўдзячна табе, за тое, што ты ёсць на гэтым свеце і застаўся такім, якім я цябе ведала і ўспамінала.

Яны прагаварылі да глыбокай ночы, і калі Віктар вярнуўся ў свой пакой, то яшчэ доўга не мог заснуць. Перад вачыма стаяла Ніна: то цяперашняя — прыгожая жанчына з крыху журботным і стамлёным позіркам, то тая — тонень-

Канчаецца абразок ёмiста i сiмвалiчна, у некаторай ступенi нават мнагазначна. Гаспадыня, заўважыўшы ранiцай сляды на агародзе i ў садку, пад яблынямi, думае, што ноччу тапталiся зладзеi, вiдаць, хацелi абабраць сад, але iм нешта перашкодзiла, i яна iдзе да суседзяў, каб яны пазычылi сабаку да таго часу, пакуль у садзе даспеюць антонаўкi...

У сваёй творчасцi Б. Сачанка не любiў таптацца на адным месцы, увесь час быў у пошуках. Ён развiваў, паглыбляў i пашыраў магчымасцi кароткага апавядання. Гэта бачна па яго наступных творах. Апрача замалёвак, iмпрэсiй i абразкоў, на пачатку творчага шляху ён напiсаў i дзве аповесцi — "Мальвiна" i "Палон". Чытаючы i перачытваючы iх, бачыш, што аўтар стараўся iсцi ад жыцця i жыццёвай дакладнасцi i праўды, у прыватным бачыць агульнае, а ў агульным тое, што ўласцiва i характэрна для кожнага паасобку.

Цiкава, што нават у апавяданнях на дзiцячую тэматыку празаiку ўдаецца ўвайсцi i глыбока ўжыцца ў дзiцячы свет, наблiзiць яго да сталага чытача, паказаць, што ён у чымсьцi сугучны i для людзей пажылога ўзросту. Пiсьменнiк сцвярджае, што дзецi могуць разважаць вельмi цiкава i арыгiнальна, у iх могуць быць спрэчкi i сутычкi, канечне, на iх дзiцячым узроўнi. Яны па-свойму ўспрымаюць i цэняць дружбу i сяброўства, па-свойму адносяцца да ўсяго гэтага.

Апавяданне "Жанiх i нявеста" з першага зборнiка i iншыя падобныя творы сведчылi пра тое, што Б. Сачанка выдатна ведае псiхалогiю дзiцячай душы, умее падмецiць самыя найменшыя зрухi, што адбываюцца ў ёй, i дакладна перадаць на паперы. У "дзiцячых" апавяданнях аўтар паказаў, зарэкамендаваў i блiскуча пацвердзiў сваю рэпутацыю таленавiтага навелiста. Ён рашуча адкiнуў тыя прывычныя стандартныя формы, паводле якiх многiя пiсьменнiкi, здаецца, не пiсалi, а штампавалi свае творы, не думаючы нi пра тэматычную навiзну, нi пра яе ўвасабленне. Б. Сачанка своечасова зразумеў адну бясспрэчную iсцiну — у мастацтве можна бясконца фантазiраваць, але нельга хлусiць, бо мастацтва прымае i вiтае толькi праўду, якой бы грубай яна нi была. Але гэту праўду, нават не заўсёды прыгожую, трэба ўмець падаць у такiм ракурсе, каб яна не адштурхоўвала чытача, не прымушала яго адчуваць сябе прынiжаным i слабым, а ўзвышала над жыццёвымi нягодамi, давала сiлы для змагання з усiм тым, што калодай ляжыць на нашай дарозе.

Калi б Барыс Сачанка ствараў толькi вось такiя бязвiнныя абразкi, як "Жанiх i нявеста", iм, як аўтарам, былi б задаволены ўсе: i крытыкi, i партыйныя артадоксы, якiя пiльна сачылi за кожным словам пiсьменнiкаў, каб з-пад iх пяра не выйшла нешта такое, што супярэчыла б афiцыйным устаноўкам i правiлам. Але мастак таму i мастак, што адкiдвае i цураецца прывычнага i шаблоннага. А калi ўлiчыць той факт, што пачатак творчага шляху Б. Сачанкi прыпаў менавiта на гады хрушчоўскай "адлiгi", то можна зразумець, чаму яго цягнула да забароненых, так званых крамольных, тэм, што былi занесены зубрамi iдэалагiчнага фронту ў асобную графу i праследавалiся ўсюды i паўсюль. Ён напiсаў апавяданне "Канапляны чад", у якiм паказаў, як малады студэнт, прыехаўшы ў вёску да сваякоў, сустракаецца з замужняй жанчынай, жонкай перадавiка-брыгадзiра, у якой, праўда, не было дзяцей, i цэлую ноч праводзiць з ёй у пахкiх каноплях. Ён каецца, дае сабе зарок не хадзiць больш да ракi, але, як толькi наступае летняя ноч, ногi самi нясуць яго туды.

У гэтым апавяданнi пiсьменнiк адкiнуў прывычную схематычнасць, згодна якой пад самы канец твора яго трэба было павярнуць так, каб асудзiць такое вось крамольнае пачуццё як ганебнае i бруднае, а паводзiны герояў заклеймiць як амаральныя. Такой крамолы не маглi дараваць маладому празаiку, не маглi прайсцi мiма яе, не зрабiўшы належных высноў i высноў. I неўзабаве ў друкаваным органе ЦК з'явiлася разгромная рэцэнзiя, аўтар якой, схаваўшыся за псеўданiм, з зайздроснай вiртуознасцю таптаўся па лепшых творах празаiка, здзекаваўся i глумiўся над iмi, выкарыстоўваючы самыя едкiя выразы, што меў у запасе, называючы iх пацярухай, нават вынес гэтае слова ў загаловак. Рэцэнзiя была разлiчана на тое, каб прынiзiць аўтара, дэмаралiзаваць яго i адначасова паказаць iншым, што такое можа чакаць кожнага з iх. Але арганiзатары i аўтар гэтай рэцэнзii пралiчылiся. Быў ужо не той час, калi беспакарана можна было размахваць крытычнай дубiнай, бiць ёю направа i налева i пачуваць сябе, як у Бога за пазухай. У абарону пiсьменнiка выступiла шырокая кола грамадскасцi. У Саюзе пiсьменнiкаў адбыўся сход, на якiм быў дадзены дастойны адпор паслядоўнiку i нашчадку сумна вядомага Бэндэ. Гэта, безумоўна, падтрымала празаiка, а грубая аглабельная рэцэнзiя не выбiла яго з творчай калiны. Дзякуй Богу, што ў пiсьменнiка своечасова выпрацаваўся ўстойлiвы iмунiтэт супраць злога вiруса вульгарна-сацыялагiчнай крытыкi. Празаiк не тое што працягваў пiсаць у той самай манеры i стылi, але ўпарта iшоў сваёй дарогай, не цураючыся пошукаў як новых форм, так i новых тэм.

Зрэшты, звяртаўся ён i да больш буйнога i складанага жанру, чым кароткае апавяданне. Як ужо гаварылася, на той час у творчым актыве пiсьменнiка ўжо мелiся аповесцi "Мальвiна" i "Пагоня". Найбольш, здаецца, удалася аўтару аповесць "Пагоня". Яна пра чалавека на вайне, яго блуканнях па пакутах. Калi б аповесць з'явiлася ў 80-ыя цi 90-ыя гады, можна было б сказаць, што яна напiсана пад уплывам твораў Васiля Быкава, у якiх, як правiла, чалавек, застаўшыся адзiн на адзiн з сабой i пры гэтым у экстрэмальных умовах, кiдаецца, б'ецца, шукаючы сваё месца ў грукаце вайны, каб зрабiць нешта карыснае для свайго народа ў цяжкi для яго час, i гэтак цягнецца датуль, пакуль ён не гiне.

Не забываў пiсьменнiк i пра абразкi, але, адчуваючы, што яму зацесна ў "малых формах", пераходзiць да больш вялiкiх форм. Празаiк пiша буйныя апавяданнi, якiя прыносяць яму заслужаны поспех i прызнанне. У першую чаргу трэба адзначыць такiя творы, як "Дзiк-бадзяга" i "Ваўчыца з Чорнай Ямы".

Што паспрыяла новаму творчаму ўзлёту пiсьменнiка? Вiдаць, тое, што ён звярнуўся непасрэдна да жыцця, да тых з'яў, рэчаў, той атмасферы, якую ён выдатна ведаў i змог па-майстэрску ўзнавiць у мастацкiх вобразах. Пра тое, якая iнтэнсiўная работа iшла ў душы празаiка, гавораць яго аўтабiяграфiчнае выказванне: "Здаецца, мы занадта многа ўдзяляем увагi розным спрэчкам. Спрачаемся, як трэба разумець сучаснасць, аб сучасным i традыцыйным у лiтаратуры, выбары героя мастацкага твора, i мала гаворым пра самую душу лiтаратуры — мастацкасць, пра тое — гэта твор цi не твор... Цi не забылiся крытыкi, што ў кожнага пiсьменнiка павiнен быць перш за ўсё талент, а ў кожным сапраўдным мастацкiм творы павiнна быць i высокае майстэрства, i вялiкая жыццёвая тэма, i вобразы жывых людзей, сюжэт, якi дапамагаў бы данесцi да чытача задуму i само сабой зразумець яе".

Першыя апавяданнi i аповесцi, першая кнiжка Б. Сачанкi сведчылi пра тое, што ў нашу лiтаратуру прыйшоў таленавiты празаiк, мастак слова, якi здольны распрацаваць, узняць сваю дзялянку на нiве прыгожага пiсьменства. Празаiк меў свой уласны падыход да раскрыцця тэмы, свой жыццёвы вопыт, якi ён насiў у душы i памяцi i кожны раз звяртаўся да iх, пераплаўляючы матэрыял у мастацкiя творы. У звычайным здарэннi ён бачыў нешта такое, што ўражвала чытача, настройвала яго на адпаведны лад, давала эмацыянальны зарад, i жыццё бачыў ён у сваiм святле, у незвычайным ракурсе. Гэта i прымушала многiх пiльна сачыць за творамi Б. Сачанкi, чытаць iх ящчэ, што называецца, "гарачымi". Празаiк працаваў няспешна, але i не марудна. Ён пераходзiў ад адной тэмы да другой, асвойваючы новыя лексiчныя пласты мовы. А мова ў яго творах была заўсёды багатая, сакавiтая, вобразная i метафарычная. Ён мог накiдаць, узнавiць любы малюнак адным-двума дакладнымi словамi. Ён выйшаў з простага люду i ўмеў паказваць гэты люд, яго яркiх i самабытных прадстаўнiкоў. Прырода ў яго творах жывая, яна нагадвае персанаж, якi таксама дзейнiчае, радуецца i пакутуе. Бо сярод гэтай мацi-прыроды вырас i выгадаваўся i сам Б. Сачанка. Яна для яго была роднай i дарагой, як самы блiзкi чалавек. Ужо ў першых творах угадваўся майстар больш вялiкiх рэчаў, чым кароценькiя абразкi цi апавяданнi. I сапраўды, з цягам часу празаiк узяўся i за раман "Вялiкi лес", у якiм ён расказаў пра лёс сваёй вёскi, сваёй сям'i. Колькi было задум, колькi зроблена накiдаў для будучых мастацкiх палотнаў, якiм не суджана было спраўдзiцца, легчы на паперу. Але i тое, што пакiнуў Барыс Сачанка, адносiцца да лепшых здабыткаў нашай нацыянальнай лiтаратуры, увойдзе ў яе залаты фонд.

**Васiль МАКАРЭВIЧ**

кая дзяўчынка з русаю касою з яго школьнага юнацтва.

На наступны дзень яны гулялi па заснежаным парку, пасядзелi ў кафэ, потым зноў прыйшлi да яе. Пакуль Нiна пераапраналася i прыводзiла сябе ў парадак у ванным пакоi, ён уключыў тэлевiзар, сеў у глыбокае, мяккае крэсла, з асалодай выцягнуў ногi.

Тэлевiзар i спакойнае святло ад настольнай лямпы стварaлi нязмушаную дамашнюю атмасферу. Вiктару раптам здалося, што ў яго не было i няма нiякага другога жыцця, а ёсць толькi вось гэта: невялiкi ўтульны пакой, мяккае святло ад настольнай лямпы i каханая жанчына, якая тут побач i прысутнасць якой ён адчуваў кожнай клеткай свайго цела, усiмi фiбрамi сваёй душы.

Нiна зайшла ў пакой, прысунула да крэсла стул, села побач. Ён пагладзеў на яе знiзу ўверх, паклаў руку на яе плячо:

— Ты ведаеш, мне зараз здалося, што ўсё жыццё, пражытае да гэтага без цябе, — гэта нейкая халодная, няўтульная пустэча. Я раптам зразумеў: чалавек павiнен кахаць i жыць з каханым чалавекам... i жыць дзеля гэтага чалавека. Усё астатняе: кар'ера, багацце, слава — гэта такая хiмера. Усё генiяльнае, вялiкае i светлае на гэтай зямлi створана закаханымi людзьмi i дзеля кахання.

— Якiя ты цудоўныя, прыгожыя словы гаворыш, Вiця. Але чаму так позна? Чаму ты раней не сказаў мне гэтых слоў? — Нiна прытулiлася да яго, нахiлiла галаву.

Ён схаваў твар у яе раскошных шаўкавiстых валасах, удыхнуў iх пах, змешаны з тонкiм пахам дарагой французскай парфумы i ў яго перахапiла дыханне. Ён падняў галаву, пацягнуўся да яе i iхнiя вусны сустрэлiся...

Потым былi чароўныя ночы i шчаслiвыя, прасвечаныя зiмовым сонцам днi. Надвор'е наладзiлася — неба выяснiлася i ясныя з лёгкiм марозцам днi былi казачна прыгожымi. Снег белымi шапкамi ляжаў на кустах, на прагнуўшыхся зялёных лапках елак, iскрыўся пад сонцам на схiлах пагоркаў. Усе гэтыя днi Вiктар i Нiна былi разам. Ездзiлi на экскурсii ў Львоў, у Карпаты, падоўгу гулялi па маляўнiчых ваколiцах курортнага гарадка. Прадчуваючы, што шчасце iхняе нядоўгае, яны адорвалi адзiн аднаго пяшчотай i ласкай. Ах, як хацелася Вiктару спынiць, затрымаць гэтыя шчаслiвыя iмгненнi жыцця! На жаль, час — катэгорыя аб'ектыўная, ён няўмольны i бязлiтасны да нашых перажыванняў i пачуццяў. Усё на гэтым свеце заканчваецца — i дрэннае i добрае. Закончылася i iхняе мiмалётнае шчасце. Настаў дзень разлукi. Вiктар ад'язджаў першы. Напярэдаднi вечарам ён збiраў рэчы, складваў iх у ёмкую дарожную сумку. Нiна сядзела на ложку, назiрала за яго работаю, аб чымсьцi засяроджана думала.

Ён падышоў да яе, сеў побач, узяў яе рукi, прыцiснуўся да iх тварам:

— Нiна, я не ведаю, як я цяпер буду жыць без цябе, — ён падняў галаву, зазiрнуў ёй у вочы. — Я цябе прашу, выслухай мяне, калi ласка. Сорак гадоў — узрост, у якiм можна пачаць усё спачатку. Калi мы зрабiлi памылку ў маладосцi, то яе яшчэ можна выправiць. Яшчэ не позна! Я дзякую Богу за гэтую сустрэчу. Я яе ўспрымаю, як шанс, як апошнi шанс дадзены лёсам змянiць наша жыццё. Скажы толькi, i я ўсё зраблю, каб ты была шчаслiвай! I калi ты будзеш побач са мной, я многае змагу ў гэтым жыццi. Цяпер я ведаю, што мне не хапала цябе...

Яна мякка далонню закрыла яго рот:

— Не трэба, Вiця, не трэба... Я, мабыць, няправiльна, легкадумна паявяла сябе, але я не магла iнакш... Магчыма, табе будзе балюча, але выслухай i ты мяне. Так, я кахала цябе i, мабыць, кахаю i зараз. Але ж мы адны вiнаваты ўтым, што не спраўдзiлiся нашыя мары. I, згадзiся, што ты ўсё-такi больш, ты — мужчына. А цяпер у мяне сям'я, дзецi. Я не кахаю свайго мужа, але дзеля дзяцей, дзеля iхняга спакою i шчасця, дзеля iхняй будучынi я не разбуру сям'ю. Ды i ў цябе — жонка. Я зразумела па тваiм расказе, што яна ўважлiвая i ласкавая да цябе, значыць, яна кахае цябе. Няўжо ж мы толькi дзеля нашага прывiднага шчасця зможам зрабiць няшчаснымi столькi людзей. Гэта не гуманна i не па-хрысцiянску. Ды цi былi б мы самi пасля гэтага шчаслiвымi? Не, Вiця, не! Мiнулага не вернеш. А тое, што ўсё так склалася... што ж, мабыць, лёс у нас такi. I ты ведаеш, я яшчэ думаю, што светлая мара — гэта тая, якая не збылася. Я ўспамiнаю цябе заўсёды з любоўю i пяшчотай. I мне прыемна, што i ты захаваў гэтыя светлыя пачуццi да мяне. Прабач, я разумею, што сыплю соль на твае раны, але падумай, калi б мы пажанiлiся тады ў маладосцi, цi захавалi б мы тыя ўзнёслыя, светлыя пачуццi адзiн да аднаго праз столькi год сямейнага жыцця? Вельмi ж многа ў гэтым жыццi адваротных прыкладаў. Лёс падараваў нам некалькi дзён шчасця. I хоць гэтае шчасце... — яна на хвiлiнку замоўкла, шукаючы патрэбнае слова, — украдзенае, я нi ў чым не раскайваюся i я ўдзячна табе за ўсё... Даруй i зразумей мяне.

Вiктар глянуў ёй у вочы, уздыхнуў:

— Я разумею цябе, Нiна. Даруй i ты мне. За ўсё даруй: за маю тую юначую дурноту i нясмеласць i за сённяшнiя словы, i за гэтае, як ты сказала, украдзенае шчасце. Толькi я хачу табе сказаць,што гэта не я ўкраў цябе ў мужа на некалькi дзён, гэта твой муж украў цябе ў мяне на ўсё жыццё.

Яны стаялi на пероне. Было яшчэ цёмна. Цьмянае святло лiхтароў выхоплiвала з цемры вагоны, станцыйныя будынкi, заснежаныя кусты i дрэвы. Бязважкiя, мяккiя сняжынкi садзiлiся на яе капялюш, палiто, пацiху раставалi. Ён трымаў яе руку ў сваёй i адчуваў халадок яе тонкiх, далiкатных пальцаў i гэты халадок, нiбы электрычны iмпульс працiнаў яго да самага сэрца.

Нiна, адчуваючы яго боль i тугу, паспрабавала пажартаваць:

— Ну што, Вiця, не "згарэла" твая пуцёўка?

— Ды што пуцёўка? — жыццё згарэла! — ён глянуў ёй у вочы, сумна ўсмiхнуўся. — Згарэла сiнiм полымем i нават вугалькi ўжо патухаюць.

— Не трэба так, — яна правяла рукою па яго валасах, страсаючы з iх снег. — Для мужчыны сорак гадоў — гэта росквiт сiлаў, пiк жыцця. Ты такi малады, прыгожы. Я нават крыху баялася, што жанчыны мяне паб'юць за цябе. Ты што, не заўважаў, як яны на цябе паглядалi?

Вiктар пацiснуў плячыма — яму было не да жартаў. Ён адчуваў, што гэтая iхняя сустрэча абарвала нейкую апошнюю, тоненькую нiтачку, якая звязвала яго з мiнулым, з хай прывiднай i несур'ёзнай марай аб тым, што яны калi-небудзь сустрэнуцца, скажуць адзiн аднаму нейкiя асаблiвыя словы i ўсё ў iхнiм жыццi зменiцца. Не! Цуда не бывае. У жыцця свае безлiтасныя законы. Правiльна сказаў старажытны фiлосаф: нельга ўвайсцi ў адну i тую ж рэчку двойчы. Аднойчы згубленае, страчанае па нашай легкадумнасцi, нерашучасцi, баязлiвасцi не знойдзецца, назад не вернецца. I толькi шчымлiвы боль i запозненае раскаянне: вось яно, шчасце, было побач, жар-птушкай сядзела на далонi, не ацанiў, не ўтрымаў — i нават блiскучага пяра ў руках не засталося, толькi шкадаванне i боль...

У тамбур выйшла праваднiца з лiхтаром у руках:

— Усё, адпраўляемся! Калi не хочаце застацца — хутчэй у вагон!

— Ну што ж, бывай, Нiна! — ён нiяк не мог адпусцiць яе руку. — А! Ледзь не забыў! — Вiктар дастаў аркуш паперы, засунуў яго ў кiшэню яе палiто. — Пачытаеш вольным часам.

Яна абняла яго, пацалавала ў вусны:

— Шчаслiва, Вiця! Дзякуй табе за ўсё... I да пабачэння! Мы яшчэ сустрэнемся... сустрэнемся...

Цягнiк тарганууся i паволi зрушыў з месца. Вiктар ускочыў на прыступку, зайшоў у тамбур i цераз галаву праваднiцы глядзеў на заснежаны перон, па якiм у накiрунку да будынка вакзала паволi iшла Нiна. I штосьцi такое дарагое, блiзкае i адначасова бездапаможнае было ў яе стройнай постацi, што ў Вiктара сцiснулася ад болю i роспачы сэрца. "Мара светлая, што не збылася", — успомнiў ён яе словы. — "Божа! Як жа мне цяпер жыць? Як?!.."

Калi мiма яе праплыў апошнi вагон, Нiна спынiлася пад лiхтаром i разгарнула змяты аркуш. Няроўным, але разборлiвым почыркам былi напiсаны вершы:

***Не веру ў выпадковасць — веру ў лёс,***
***Праз столькi год сустрэнемся — чужыя...***
***Грабенчык-месяц вычаша з бяроз***
***Табе на плечы льдзiнкi залатыя.***

***Зноў будзе зорная iскрыцца вышыня,***
***Сцячэ слязiнка цiхая па твары.***
***Хай лечыць нас начная цiшыня,***
***Юначыя няспраўджаныя мары.***

***Няўмольна лёс iзноў разлучыць нас,***
***Твой тонкi след сатрэ завеяй люты.***
***I прыйдзе той самотна-светлы час,***
***Калi душа ўваскрэсне для пакуты.***

Яна сцiснула ў руках белы аркуш i доўга глядзела ў той бок, дзе ў цемры за завесаю снегу, пагойдваючыся, знiкалi чырвоныя агеньчыкi апошняга вагона.

***У Мінскага Інстытута імя Гётэ новы кіраўнік. Спадарыню Карын фон Врангель змяніла на гэтай пасадзе спадарыня Хайке Э. Мюлер. З гэтай нагоды 29 красавіка ў Міжнародным адукацыйным Цэнтры адбыўся прыём. На прыёме былі прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, дыпламаты, журналісты, чыноўнікі шэрагу міністэрстваў.***

***Спадарыня фон Врангель пачула шмат удзячных слоў у свой адрас. Новы дырэктар Мінскага Гётэ-цэнтра выказала спадзяванні, што справа, распачатая яе папярэднікамі, будзе мець добры працяг, што яна разлічвае на беларускіх партнёраў Гётэ-цэнтра. Па ініцыятыве спадарыні фон Врангель на прыёме адбыўся збор грашовых ахвяраванняў на карысць аднаго з мінскіх дамоў для састарэлых.***

***Наш карэспандэнт меў магчымасць пагутарыць са спадарыняй Карын фон Врангель у той час, калі яна займала пасаду кіраўніка Мінскага Гётэ-цэнтра. Зараз мы прапануем развагі сп. фон Врангель увазе чытачоў. Такім чынам мы далучаемся да звернутых да яе цёплых слоў і жадаем добрай дарогі.***

# Карын фон Врангель: "Інстытут імя Гётэ працуе на будучыню"

Перш чым трапіць у Беларусь, я пабывала ў шмат якіх краінах. Магу параўноўваць і абагульняць. Са свайго вопыту я раблю выснову, што людзі паўсюль трымаюцца за звыклае, а новае ўспрымаюць насцярожана, часам варожа альбо са страхам. Гэта ўласціва чалавечай натуры. Я ведаю гісторыю, таму мяне не здзіўляе, што ў шэрагу краін існуюць устойлівыя стэрэатыпы ўспрымання немцаў і Германіі. Я нарадзілася ў 1934 годзе, у 1945 мне было аддзінаццаць год. Я не маю камплексу вінаватасці, але пасля вайны мне давялося паездзіць па свеце і адчуць, што значыць быць немкай. Я сутыкнулася з тым, што немцаў атаясамлівалі з нацыстамі. Так, калі я працавала ў Англіі, пасля цынічнай выхадкі мясцовых нацыстаў гаспадары кватэры, якую я здымала, выставілі мае чамаданы перад дзвярыма. Яны меркавалі, што я як немка нясу за гэта нейкую адказнасць. У Аргенціне я чула ад сірыйцаў (вы ведаеце, што ў арабаў з ізраільцянамі няпростыя стасункі): мы любім немцаў за тое, што яны нішчылі габрэяў.

У нейкай ступені я сутыкаюся з гэтым і тут. Мяне нармальна ўспрымаюць як прадстаўніка нямецкай культурніцкай арганізацыі, але дастаткова каб у размове ўзнікла тэма НАТА, як я адчуваю змену стаўлення да сябе. У вачах маіх суразмоўцаў я ператвараюся у прадстаўніка краіны, якая ўваходзіць у НАТА. Баяцца НАТА — баяцца мяне.

Некаторыя людзі з Беларусі, якіх Інстытут імя Гётэ накіроўваў у Германію для вывучэння мовы, ехалі туды з непрыхаваным страхам. Але вярталіся ў захапленні ад таго, што ў Германіі пабачылі.

Я ведаю, як цяжка разбурыць выпрацаваныя дзесяцігоддзямі стэрэатыпы. Але я ніколі і нідзе не баялася, што мне будзе цяжка як немцы, будзе цяжка прадстаўляць Германію.

Пасля ад'езду спадарыні Багальянц я ўзначальваю Мінскі Інстытут імя Гётэ. Да гэтага я кіравала моўным аддзелам. Гэта цудоўны занятак. Мне падабаецца працаваць з настаўнікамі нямецкай мовы. З гэтымі людзьмі я маю паразуменне. Кожны настаўнік шчаслівы пабываць на радзіме свайго "прадмета". Інстытут Гётэ можа такую магчымасць ім прадаставіць. Культура — вось глеба для паразумення. Настаўнік, які вучыць дзяцей мове і культуры іншага народа, працуе на будучыню. У гэтым сэнсе мая задача як кіраўніка моўнага сектара — лёгкая. Зараз у мяне падвойная нагрузка, падвойны план. Бо, прыняўшы кіраванне Мінскім Інстытутам Гётэ, я пакідаю за сабою і моўны аддзел. Культуру я разумею як вельмі шырокую праграму. Культура не толькі для эліты. Я лічу, што акцыі Інстытута імя Гётэ ў Мінску павінны мець больш рэзананс, чым мелі да гэтуль. Яны павінны быць звернуты да больш шырокага кола. Было б добра, каб у гэтых акцыях бралі ўдзел дзеці і моладзь, што вывучаюць нямецкую мову.

Ад нашых беларускіх партнёраў даводзілася чуць, што Інстытут імя Гётэ можна параўнаць з лакаматывам, у той час культурніцкія арганізацыі іншых краін — гэта "вагоны", якія прыстройваюцца да "лакаматыва". Інакш кажучы, Інстытут Гётэ — лідэр у галіне культурніцкіх кантактаў, культурніцкіх праграм. Мне прыемна чуць такую ацэнку нашай працы. Я дазволю сабе сцвярджаць, што гэта правільная ацэнка. Бо такая ж сітуацыя не толькі ў Беларусі, а па ўсім свеце. Рэч у тым, што аналагічныя Інстытуту Гётэ арганізацыі іншых краін ставяць асноўнай мэтай распаўсюджванне ўласнай культуры. У прыватнасці і Французская Рада і Брытанская Рада зарыентаваныя не столькі на культурныя кантакты, а найперш на пашырэнне свайго ўплыву — моўнага, культурнага. У нас іншыя прыярытэты. Гэта нават адлюстравана ў нашай назве — "Інстытут спрыяння міжнароднаму культурнаму абмену", а ўжо потым — "распаўсюджванню нямецкай мовы за мяжою". Таму і атрымліваецца, што як толькі "адкрыўся" Усход — Венгрыя, потым Польшча, дык першымі ў гэтых краінах з'явіліся германскія культурныя цэнтры — аддзяленні Інстытута імя Гётэ. Я ўсведамляю, што тут, у Беларусі, Гётэ-цэнтр рэч настолькі нязвыклая, што ягоная дзейнасць прыцягвае павышаную ўвагу, надзвычайную цікаўнасць.

Сёння Інстытут імя Гётэ, ягоныя сродкі пераарыентаваны на Усход. Адбываецца гэта за кошт скарачэння дзейнасці на Захадзе. Прытым, што апошнія пяць гадоў наш бюджэт штогод скарачаецца на тры працэнты. Гэта значыць, што кожны год скарачаецца дваццаць сем супрацоўнікаў. Мы зацікаўлены ў новых аддзяленнях Інстытута Гётэ. І яны з'яўляюцца ў Тбілісі, Ташкенце, Новасібірску — такая тэндэнцыя. Але каб адкрыць новыя аддзяленні, даводзіцца закрываць старыя. Былі аддзяленні ў Неапалі, у Рэйк'явіку. Людзі ў гэтых гарадах прызвычаіліся да нямецкай культурніцкай прысутнасці. Закрыццё аддзяленняў Інстытута Гётэ выклікае пратэсты. З гэтай прычыны ўзнікаюць нават праблемы дыпламатычнага характару. Але нічога не зробіш. Нам трэба ісці туды, дзе нас няма, дзе нас чакаюць. Туды, дзе мы патрэбныя.

Я другі раз на заснавальным перыядзе. Да Мінска была Варшава. Я там таксама была ў першым складзе, калі так можна сказаць — у стартавай групе. Зараз працягваю тую справу, якую распачала ў Мінску спадарыня Багальянц, але, зразумела, з пэўнымі карэктывамі. Скажам, мне падаецца, Мінскі Гётэ-цэнтр надаваў занадта шмат увагі тэатральным праектам і недастаткова іншым відам мастацтва, у прыватнасці музыцы.

Мне хацелася б, каб нашы беларускія партнёры як мага шырэй азнаёміліся з культурай маёй краіны. Праўда, асабіста мне бліжэй традыцыйная культура Германіі. Напачатку я ўжо гаварыла, што людзям уласціва трымацца за звыклае і насцярожана ставіцца да новага. У нейкай ступені гэта ўласціва і мне.

Зрэшты, мы жывём толькі тым, чым мы калісьці былі. Аднак у кантэксце дзейнасці Інстытута Гётэ пытанне не можа стаяць "альбо новае — альбо традыцыйнае, альбо адно — альбо другое". Гуманітарны фон і ёсць наша рэчаіснасць. Сама я ў гэтай рэчаіснасці прымаю далёка не ўсё. Ёсць такія з'явы ў сучаснай культуры, пры сутыкненні з якімі я бываю разгубленай, бо не ведаю як на іх рэагаваць. У такіх выпадках я часам бываю нават агрэсіўнай у сваіх меркаваннях.

У мяне такое ўражанне, што сучаснай літаратуры не стае філасофскай глыбіні. Гэта толькі набор слоў, якія здольныя выклікаць пэўныя асацыяцыі, але я не бачу за гэтымі словамі асобы са сваімі ўяўленнямі аб каштоўнасцях. Гэтыя інтэлектуальныя гульні з прэтэнзіяй на высокую духоўнасць я параўнала б са шрубалётам, які ўвінчваецца ў неба і цалкам губляе глебу пад нагамі. Няма надзеі, няма перспектывы, няма мэты. У такога роду літаратурных творах кожны радок падаецца мне лішнім.

Нямецкая пасляваенная літаратура — збольшага толькі скаргі і абвінавачванні. Аднак нельга быць толькі ў мінулым, і тым болей браць з мінулага толькі трагічнае. Я мала ведаю інтэлектуалаў, здольных проста радавацца жыццю. А калі чалавек на гэта не здольны, ягоная праца не будзе мець стваральнага зместу.

Нейкі час у нас лічылася бестселерам кніга "Апошнія дні Брэслаў", прысвечаная аднаму з эпізодаў другой сусветнай вайны. Мяне пыталіся, ці чытала я гэтую кнігу. Я адказвала: "Вы лічыце гэтую кнігу цікавай?" Падобных кніг я прачытала тры, і мне гэтага хапіла, каб не чытаць чацвёртую. Мне шкада людзей, якія не могуць перадолець сваё трагічнае мінулае. "Як вы можаце з гэтым жыць?" — хочацца мне іх запытаць.

Зрэшты, людзі, калі над імі няма закона — гэта звяры. Я гавару не пра канкрэтны народ, а пра людзей увогуле. Калі аўтар ва ўсіх падрабязнасцях апісвае тое, што рабілася ў канцэнтрацыйных лагерах, міжволі пачынаеш думаць, ці не выклікае ў яго гэта асалоду?

Гісторыю нельга ігнараваць, але ў мяне — маё жыццё, мая энергія. Я не для таго, каб апавядаць аб мінулым. Мая справа — даць людзям перспектыву. Як немка я ведаю, які ўклад я павінна ўнесці ў будучыню.

**Запісаў Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Цяжка з гэтым змірыцца, бібліятэкары вызначаюць месца на паліцы. А бібліятэкарам як з пісьменнікамі паразумецца, калі ўсё ўжо вырашылі выдавецтвы?

●

— Як справы, пенсіянеры? — Блага, браточкі, не паверыце. Штомесячна атрымліваем свой пенсіён, але толькі што аддрукаванымі паперкамі.

●

Згодны любіць Беларусь нашу мілую. Толькі дайце яму дзеля гэтага ў розных краях пабываць.

●

Карп у футры — вялікае дасягненне геннай інжынерыі. Няясна толькі, з якімі намерамі? Карп з шэрсцю — ці смачна яго жэрці? На рыбінай футры — з гэтага даўно смяюцца. Дык ці такі ўжо скарб, той футраваны карп.

●

Заслужыў пры жыцці помнік. Дык жа ўсе цяпер з нецярплівасцю чакаюць майго скону, каб той помнік устанавіць.

●

Тэхніка бяспекі: на дне некаторых бездань цяпер дывановыя дарожкі з начальніцкімі крэсламі пры канцы.

●

— Папрашу мяне не перабіваць! — высунуў кулак свой нос .

●

— А што, у чысцілішчы вельмі скубуць? — цікавіліся куры.

●

— З намі ты ці не з намі? — дабіваўся ад мяне антыпод дагары нагамі.

ВЕРНІСАЖ



Мал. А. Гурскага


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА — ЛіМ — ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
Святлана БЕРАСЦЕНЬ,
Павел ВЕРАБ'ЁЎ — *намеснік галоўнага рэдактара,*
Мікола ГІЛЬ,
Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,
Жана ЛАШКЕВІЧ,
Алесь МАРЦІНОВІЧ,
Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,
Віктар ШНІП — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-7965

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3755
Нумар падпісаны ў друк 13.5.1999 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 2274 Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12